ISSN 0234—1387

# крыніца

2 • 1990 Люты

НА ШЛЯХУ
ДА СЯБЕ





Алесь ТАРАНОВІЧ

# ЦЯЖКА ЗАСТАЦЦА САМІМ САБОЮ

## Нататкі пра Лёніка ТАРАСЕВІЧА

На выставах, у манаграфіях і саматвітых каталогах яго называюць пачціва: Леон, але як з сябрамі ды знаёмымі, дык ён па-ранейшаму Лёнік, Лёнік Тарасэвіч (гэтак вымаўляюць ягонае прозвішча беларусы ў Польшчы). У адным замежным каталозе сказана, што мастак гэты жыве паміж Польшчаю і Беларуссю (?!), а польскія мастацтвазнаўцы лічаць ягоную творчасць прыкладам бачання свету чалавекам з іншай культурнай арыентацыяй.

Невядомы, у нашае мастацкае жыццё ён уварваўся імкліва і раптоўна, зрушыўшы звыклыя крытэрыі ўспрыняцця і ацэнкі мастацтва. І не толькі ў гледачоў і дылетантаў, але і ў масцітых прафесіяналаў, якія даўно шчыруюць на ніве мастацтва. Згадваю апошняе трыенале жывапісу ў Вільнюсе. У адмысловай экспазіцыі Палаца мастацтваў, сярод разнастайнейшых «ізмаў», часта больш «заходніх» за самі заходнія, асабліва вылучаліся работы двух аўтараў, работы, якія віселі насупроць адны адных,— Саўкі і Тарасевіча. Беларуса з Літвы і беларуса з Польшчы. І той, хто ведае, як каціруецца, а дакладней, не каціруецца беларускае мастацтва нават у самім Саюзе, зразумее раптоўнае пачуццё гонару. Значыцца, можам! Значыцца, працуем на ўзроўні сусветных стандартаў. Але чаму ж не ў сябе дома?



Сёння Тарасевіч, бадай, найзнакамітейшы з маладых беларускіх мастакоў, дый ці ж толькі маладых... Такой колькасцю выстаў у прэстыжных галерэях Еўропы, Азіі і Амерыкі не змогуць пахваліцца нават некалькі разам узятых, ушанаваных афіцыёзам, нашых «мэтраў». Заўважце, у выставах па запрашэнні. І, гледзячы на ўнушальны спіс галерэй, я згадваю словы М. Савіцкага: «Па сваім светапоглядзе, адносінах да жыцця, метадам творчасці авангард — антымастацтва. Ён адмаўляе сэнс жыцця, адмаўляе веліч чалавека, апускае мысленне да ўзроўню інстынкту...»

Чаму ж так не лічаць людзі мастацтва там, «за рэчкаю», якія запрашаюць і купляюць Лёнікавы работы за немалыя грошы? Можа, ніякі ён і не авангардыст? Ды ў тым і справа, што авангардыст — і авангардыст з вялікае літары. Цяпер, калі быць авангардыстам стала модна і бяспечна, калі гарызонт мастацкага жыцця запоўнілі працы, якія прэтэндуюць на многія «ізмы», а на справе ўяўляюць сабою вульгарызаванае да апошняе мяжы наватарства нашых дзядоў, калі шмат хто спрабуе трапіць правай нагою ў левы валёнак, творчасць дужа нямногіх, такіх, як Лёнік Тарасевіч, стаіць паасобку. Спачатку яна шакіруе. Памятаю, як неадназначна ўспрымаліся Лёнікавы работы нашымі гледачамі ў Мінскім палацы мастацтваў. Яны былі часцінкаю Захаду, таямнічай, невядомаю часткаю свету, якую раней ўзахлёб лаялі, а цяпер гэтак жа апантана ўзносяць. Для гледача, выхаванага ў духу трыумфальнае эстэтыкі, гледача, які звярае якасць карціны з каляровай фатаграфіяй, творчасць Тарасевіча была вядром халоднае вады на галаву. Бо ж ён не імітуе жыццё, не будуе яго, а збірае — і таму іншы раз здаецца недагавораным. Ён стварае візуальнае асяроддзе «новага пакалення» ў процівагу таму музейна-стылізаванаму асяроддзю, якое стала ў нас канонам. Ён адпрэчвае непасрэдныя адпаведнасці пабытовай рэальнасці, і пераасэнсаваная мастаком рэальнасць паўстае ў спрошчанай і адначасна ўскладнёнай трактоўцы. Гэта пра такіх, як ён, В. Катаеў сказаў: «Гэты мастак жыве ў рытмах сучаснага жыцця, а не таго, што мінула...». Каля ягоных карцін трэба раздумваць, супастаўляць, умець мысліць вобразамі, карацей, напружваць свае звіліны, што сёй-той лічыць залішнім. Маскультура дыктуе цяпер свае правілы. Што і казаць, калі ў публікі асаблівым попытам карыстаюцца мастакі, аматары «лашчыць пэндзлям жаночы зад» (выраз Э. Дэга), накшталт А. Ісачова, а ў песнях, напрыклад, асабліва цэняцца такія глыбокадумныя фразы, як «Ален Делон не пьет одеколон...», і грамадзяне замілавана льюць слёзы з нагоды белых ружаў альбо кінутых у снег пунсовых яблыкаў, творчасць такіх, як Тарасевіч, адыходзіць на задні план. Машыну мастацкага жыцця рухаюць складаныя ўнутраныя механізмы, іншы раз невядомыя і аматарам мастацтва. З часам новыя імпульсы набіраюць сілу, нешта мяняецца, абнаўляецца, прарываецца скрозь плоскасць усярэдненага, шэраватага мастацтва, плоскасць, здавалася нядаўна, непахісную. Само мастацтва патрабуе но-

Заканчэнне на стар. 20



КРЫНІЦА

№ 2 1990

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай
і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы,
аб'ём якіх не перавышае
25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы.
Рукапісы рэдакцыя па пошце
аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71,
36-61-13, 36-61-42

Выдавецтва «Полымя»
Дзяржаўнага камітэта
Беларускай ССР
па друку.
Здадзена ў набор 15.12.89.
Падпісана да друку 23.01.90.
АТ 00004.
Фармат 60×90 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная.
Ум.-друк. арк. 5,5. Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 8,1. Тыраж 58 891 экз.
Зак. 520. Цана 25 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва
ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79.

На вокладцы:
Фота Алены АДАМЧЫК

# ЗАЛАТЫ БАЛЕТ БЕЛАРУСІ

Спецыяльны агляд англійскага друку

Фотанарыс Андрэя КЭ-КРЫЛА (Англія)



...Крытыкі ў СССР, а там ёсць дужа цікавыя крытыкі, лічаць артыстаў балета Беларусі другімі, бо першых проста не існуе. У багата якіх адносінах яны апярэджваюць усіх астатніх.

...Елізар'еўская трупа не расчаравала англічан. Яна працуе, натхнёная традыцыямі знакамітае ленінградскае школы, традыцыямі, што закладаліся ў вялікую часіну рускага балета XIX стагоддзя.

Рэпертуар беларусаў замілоўвае, бо дае мажлівасць зразумець, што да сапраўднага поспеху можа прывесці толькі адданасць служэнню высакароднаму мастацтву.

...Ужо па першых уражаннях можна гаварыць пра выдатны ўзровень балетнага гурту і пра тое, што сярод салістаў ёсць цудоўныя, надзвычай прывабныя таленты.

...Маючы файную сцэнічную знешнасць, Т. Шэметавец вяла «Балеро» Равеля з адмыслова магутным і тэатральна эфектным В. Камковым.

Заканчэнне на стар. 9.





Андрэй САХАРАЎ

# МІР, ПРАГРЭС, ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

*Нобелеўская лекцыя.*

**Не варта дакараць аўтара за тое, што толькі сёння мы даведваемся пра ягоныя думкі і пачуцці пятнаццацігадовае даўнасці. Нагадаю: прэмія Міру ўручалася ў 1975 годзе, адным з тых, якія мы сёння называем застойнымі. Мэта лекцыі зусім пэўная: развенчванне састарэлых ідэалагічных догмаў і стэрэатыпаў, якія падтрымліваюць практыку грамадскага развіцця. Тагачасная ідэалогія разглядвала яе як злосны памфлет. На самай справе — пацвярджэнне гэтаму перабудова — гэта была адна з шматлікіх выкарыстаных магчымасцей, якія расчышчалі пляцоўку для будучыні, дзе асуджанаму цяпер мінуламу не знойдзецца месца. Думаю, гэта і павінна быць той вызначальнай акалічнасцю, без якой мы не зможам ацаніць сваё стаўленне да асобы аўтара. Аддаючы даніну грамадзянскай годнасці і мужнасці, працавітасці і сумленнасці акадэміка Сахарава, часам палемізуючы з ім, але не як з працаўнікам, а як з разумным суразмоўцам, хоць іншы раз сказанае ім успрымаецца намі таксама і як нязвыклае, і як нязручнае, давайце ўпершыню прачытаем ягоную Нобелеўскую лекцыю.**

**Чытаем Андрэя Дзмітрыевіча Сахарава...**

Алесь АДАМОВІЧ

*Шаноўныя члены Нобелеўскага камітэта! Шаноўныя панове!*

Мір, прагрэс, правы чалавека — гэтыя тры мэты непарыўна звязаны, нельга дасягнуць якой-небудзь адзінай, ігнаруючы іншыя. Гэта галоўная думка, якую я хачу адлюстраваць у сваёй лекцыі.

Я вельмі ўдзячны за прысуджэнне мне высокай, хвалюючай узнагароды — Нобелеўскай прэміі міру, а таксама за прадастаўленую магчымасць выступіць сёння перад Вамі. Я з асаблівым задавальненнем успрыняў фармуліроўку Камітэта, у якой падкрэслена роля абароны правоў чалавека як адзінага трывалага падмурка для сапраўднага і доўгачасовага міжнароднага супрацоўніцтва. Гэтая думка здаецца мне вельмі важнай. Я перакананы, што міжнародны давер, узаемаразуменне, разбраенне і міжнародная бяспека немагчымыя без адкрытасці грамадства, свабоды інфармацыі, свабоды перакананняў, галоснасці, свабоды паездак і выбару краіны пражывання. Я ўпэўнены таксама, што свабода перакананняў, разам з іншымі грамадзянскімі свабодамі, з'яўляецца асноваю навукова-тэхнічнага прагрэсу і гарантыяй ад выкарыстання яго дасягненняў на шкоду грамадству, тым самым асноваю эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу, а таксама з'яўляецца палітычнай гарантыяй магчымасці эфектыўнай абароны сацыяльных правоў. Такім чынам я абараняю тэзіс аб першасным, вызначальным значэнні грамадзянскіх і палітычных правоў у фарміраванні лёсу чалавецтва. Гэты пункт гледжання істотна адрозніваецца ад шырока распаўсюджаных марксісцкіх, а таксама тэхнакратычных канцэпцый, згодна з якімі вызначальнае значэнне маюць менавіта матэрыяльныя фактары, сацыяльныя і эканамічныя правы. (Сказанае не азначае, што я ў якой-небудзь ступені адмаўляю значэнне матэрыяльных умоваў жыцця людзей.)

Усе гэтыя тэзісы я збіраюся адлюстраваць у лекцыі і асобна спыніцца на некаторых канкрэтных праблемах парушэння правоў чалавека, вырашэнне якіх здаецца мне неабходным і тэрміновым.

У адпаведнасці з гэтым планам і выбрана назва лекцыі: «Мір, прагрэс, правы чалавека». Гэта, безумоўна, свядомая паралель да назвы майго артыкула 1968 года «Роздум аб прагрэсе, мірным суіснаванні і інтэлектуальнай свабодзе», які багата чым падобны да гэтай лекцыі па сваёй накіраванасці, па перасцярогах, што гучаць у ёй.

Есць багата прыкмет таго, што, пачынаючы з другое паловы XX стагоддзя, чалавецтва ўступіла ў асабліва адказны, крытычны перыяд сваёй гісторыі.

Створана ракетна-тэрмаядзерная зброя, здольная ў прынцыпе знішчыць усё чалавецтва,— гэта самая вялікая небяспека сучаснасці. Дзякуючы эканамічным, прамысловым і навуковым дасягненням непараўнальна больш небяспечнымі зрабіліся так званыя «звычайныя» віды ўзбраення, не кажучы ўжо пра хімічныя і бактэрыялагічныя.

Несумненна, поспехі прамысловага і тэхналагічнага прагрэсу з'яўляюцца галоўным фактарам пераадолення галечы, голаду і хвароб; але яны адначасова прыводзяць да жудасна небяспечных змен у навакольным асяроддзі, да вычарпання рэсурсаў. Чалавецтва такім чынам сутыкнулася з грознай экалагічнай небяспекаю.

Хуткія змены традыцыйных формаў жыцця прывялі да непадуладнага кіраванню дэмаграфічнага выбуху, асабліва моцнага ў краінах трэцяга свету, што знаходзяцца ў стадыі развіцця. Ужо цяпер рост насельніцтва стварае незвычайна цяжкія эканамічныя, сацыяльныя і псіхалагічныя праблемы і незваротна пагражае больш сур'ёзнымі небяспекамі ў будучыні. Багата ў якіх краінах, асабліва ў Азіі, Афрыцы, Лацінскай Амерыцы, недахоп прадуктаў харчавання па-ранейшаму застаецца пастаянным фактарам жыцця сотняў мільёнаў людзей, асуджаных з моманту нараджэння на жабрацкае паўгалоднае існаванне. Пры гэтым прагнозы на будучыню, нягледзячы на безумоўныя поспехі «зялёнае рэвалюцыі», застаюцца трывожныя, а як на думку багата якіх спецыялістаў, дык і трагічныя.

Але і ў развітых краінах людзі сутыкаюцца з дужа сур'ёзнымі праблемамі. Сярод іх — цяжкія вынікі празмернай урбанізацыі, страта сацыяльнай і псіхалагічнай устойлівасці грамадства, няспынная гонка моды і звышвытворчасці, шалёны, вар'яцкі тэмп жыцця і яго змен, рост колькасці нервовых і псіхічных захворванняў, адрыў усё большае колькасці людзей ад прыроды і нармальнага традыцыйнага жыцця, разбурэнне сям'і і простых чалавечых радасцей, заняпад маральна-этычных асноў грамадства і аслабленне пачуцця мэты і асэнсаванасці жыцця. На гэтым фоне ўзнікаюць шматлікія пачварныя з'явы — рост злачыннасці, алкагалізму, наркаманіі, тэрарызму і г. д. Спусташэнне зямельных рэсурсаў, перспектыва якога робіцца ўсё больш блізкай, пагроза перанасялення, шмат разоў паглыбленыя міжнароднымі, палітычнымі і сацыяльнымі праблемамі, пачынаюць усё мацней ціснуць і на жыццё ў развітых краінах, пазбаўляючы (альбо пагражаючы пазбавіць) многіх людзей ужо звыклых ім дастатку, утульнасці і камфорту.

Аднак найбольш істотную ролю ў праблематыцы сучаснага свету іграе глабальная палітычная палярызацыя чалавецтва, якая падзяліла яго на так званы першы свет (умоўна назавём яго «Заходні»), другі (сацыялістычны), трэці (краіны ў стадыі развіцця). Дзве буйнейшыя сацыялістычныя дзяржавы фактычна зрабіліся варожымі таталітарнымі імперыямі з празмернай уладаю адзінае партыі і дзяржавы над усімі бакамі жыцця сваіх грамадзян і з магутным экспансіяніcцкім патэнцыялам, імперыямі, якія імкнуцца падпарадкаваць свайму ўплыву неабсяжныя раёны зямнога шару. Прычым адна з гэтых дзяржаў — КНР — знаходзіцца пакуль што на адносна нізкім узроўні эканамічнага развіцця, а другая — СССР — выкарыстоўваючы унікальныя прыродныя рэсурсы, прайшоўшы праз дзесяцігоддзі нечуваных пакут і перанапружання ўсіх сіл народу, дасягнула цяпер велізарнай ваеннай моцы і адносна высокага (хоць і аднабаковага) эканамічнага развіцця. Аднак і ў СССР узровень матэрыяльнага жыцця насельніцтва нізкі, а ўзровень грамадзянскіх свабод ніжэйшы нават, чым у малых сацыялістычных краінах. Вельмі складаныя агульнасусветныя праблемы звязаны таксама з трэцім светам, з яго адноснай эканамічнай пасіўнасцю, якая спалучаецца з узрастаючай міжнароднай палітычнай актыўнасцю.

Гэтая палярызацыя шматразова ўзмацняе і так вельмі сур'ёзную небяспеку, якая навісла над светам — небяспеку тэрмаядзернай гібелі, голаду, атручвання асяроддзя, вычарпання рэсурсаў, перанасялення, дэгуманізацыі.

Абмяркоўваючы увесь гэты комплекс неадкладных праблем і супярэчнасцей, трэба перш за ўсё сказаць, што па маім глыбокім перакананні ўсялякія спробы затрымаць тэмп навукова-тэхнічнага прагрэсу, павярнуць урбанізацыю, заклікі да ізаляцыянізму, патрыярхальнасці, да адраджэння на аснове звароту да здаровых нацыянальных традыцый мінулых стагоддзяў — нерэалістычныя. Прагрэс непазбежны, ягонае спыненне азначала б гібель цывілізацыі.

Яшчэ не так даўно людзі не ведалі мінеральных угнаенняў, машыннай апрацоўкі зямлі, ядахімікатаў, інтэнсіўных метадаў земляробства. Сёй-той заклікае вярнуцца да больш традыцыйных і, магчыма, менш небяспечных формаў земляробства. Але ж ці можна здзейсніць гэта ў свеце, дзе і сёння сотні мільёнаў людзей пакутуюць ад голаду? Несумненна, наадварот, неабходная далейшая інтэнсіфікацыя і распаўсюджванне яе на ўвесь свет, на ўсе краіны ў стадыі развіцця. Нельга адмовіцца ад усё больш шырокага выкарыстання дасягненняў медыцыны і ад пашырэння даследаванняў ва ўсіх яе галінах, у тым ліку і такіх, як бактэрыялогія і вірусалогія, нейрафізіялогія, генетыка чалавека і генахірургія, нягледзячы на патэнцыяльную небяспеку злоўжывання і непажаданых сацыяльных вынікаў некаторых з гэтых даследаванняў. Тое ж датычыць і даследаванняў у галіне кіравання масавымі паводзінамі людзей, стварэння адзіных агульнасусветных сістэм сувязі, сістэм збору і захавання інфармацыі і г. д. Абсалютна відавочна, што ў руках безадказных бюракратычных установ, якія дзейнічаюць пад покрывам сакрэтнасці, усе гэтыя даследаванні могуць быць надзвычай небяспечнымі, аднак жа могуць стаць тым часам вельмі важнымі і неабходнымі для чалавецтва, калі іх здзяйсняць пад кантролем галоснасці, абмеркавання, навуковага сацыяльнага аналізу. Нельга адмовіцца ад усё больш шырокага выкарыстання штучных матэрыялаў, сінтэтычнай ежы, ад мадэрнізацыі ўсіх бакоў побыту людзей. Нельга адмовіцца ад павышэння аўтаматызацыі і ўзбуйнення прамысловай



Фота Юрыя ЗАРЫТОЎСКАГА

вытворчасці, нягледзячы на звязаныя з гэтым сацыяльныя праблемы.

Нельга адмовіцца ад будаўніцтва ўсё больш магутных цеплавых і атамных электрастанцый, ад даследаванняў у галіне кіруемай тэрмаядзернай рэакцыі, паколькі энергетыка — адна з асноў цывілізацыі. Я дазволю сабе згадаць у гэтай сувязі, што 25 гадоў назад мне разам з маім настаўнікам, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па фізіцы Ігарам Яўгенавічам Тамам, давялося стаяць ля пачатку даследаванняў кіруемай тэрмаядзернай рэакцыі ў нашай краіне. Цяпер гэтыя працы набылі велізарны размах, даследуюцца самыя розныя напрамкі, ад класічных схем магнітнай тэрмаізаляцыі да метадаў з выкарыстаннем лазераў.

Нельга адмовіцца ад пашырэння работ па асваенні калязямнога космасу і па даследаванні далёкага космасу, у тым ліку ад спроб прыёму сігналаў ад незямных цывілізацый — шанцы на поспех, верагодна, малыя, але ж вынікі могуць быць грандыёзныя.

Я назваў толькі некалькі прыкладаў, іх можна множыць. У жыцці ўсе галоўныя бакі прагрэсу цесна звязаны між сабою, ніводзін з іх нельга адмяніць, не рызыкуючы парушыць увесь будынак цывілізацыі; прагрэс непадзельны. Аднак асаблівую ролю ў механізме прагрэсу іграюць інтэлектуальныя, духоўныя фактары. Недаацэнка гэтых фактараў, асабліва распаўсюджаная ў сацыялістычных краінах, магчыма, пад уплывам вульгарных ідэалагічных догмаў афіцыйнай філасофіі, можа прывесці да скрыўлення шляхоў прагрэсу ці нават да яго спынення, застою. Прагрэс магчымы і небяспечны адно пад кантролем Розуму. Найважнейшая праблема аховы асяроддзя — адзін з тых прыкладаў, дзе асабліва відавочная роля галоснасці, адкрытасці грамадства, свабоды перакананняў. Толькі частковая лібералізацыя, якая наступіла ў нашай краіне пасля смерці Сталіна, зрабіла магчымымі памятныя ўсім нам публічныя дыскусіі першае паловы 60 гадоў, але эфектыўнае яе вырашэнне патрабуе далейшага ўзмацнення грамадскага і міжнароднага кантролю. Ваеннае выкарыстанне дасягненняў навукі, раззбраенне і кантроль над ім — другая такая ж крытычная галіна, дзе міжнародны давер залежыць ад галоснасці і адкрытасці грамадства. Памянёны прыклад кіравання масавымі паводзінамі людзей, пры сваёй знешняй экзатычнасці, таксама вельмі актуальны ўжо цяпер.

Свабода перакананняў, наяўнасць адукаванай грамадскай думкі, плюралістычны характар сістэмы адукацыі, свабода друку і іншых сродкаў інфармацыі — усяго гэтага дужа не хапае сацыялістычным краінам з-за іх эканамічнага, палітычныга і ідэалагічнага манізму. Тым часам гэтыя ўмовы жыццёва неабходныя не толькі дзеля таго, каб пазбегнуць злоўжыванняў прагрэсам, мажлівых і праз няведанне, але і для ягонай падтрымкі. Асабліва важна, што толькі ў атмасферы інтэлектуальнай свабоды магчымая эфектыўная сістэма адукацыі і творчага ўзаемаразумення пакаленняў. І наадварот, інтэлектуальнае заняволенне, улада бюракратыі, канфармізм, разбураючы спярша галіны ведаў, літаратуру і мастацтва, непазбежна прыводзяць затым да агульнага інтэлектуальнага заняпаду, бюракратызацыі і фармалізацыі ўсяе сістэмы адукацыі, да заняпаду ў навуковых даследаваннях, знікнення атмасферы творчага пошуку, да застою і распаду.

Цяпер, у палярызаваным свеце таталітарныя краіны дзякуючы дэтанту[1] займелі магчымасць своеасаблівага інтэлектуальнага паразітызму — і, здаецца, калі не адбудуцца тыя ўнутраныя зрухі, пра неабходнасць якіх мы ўсе марым, хутка ім давядзецца ўстаць на гэты шлях. Адзін з магчымых вынікаў дэтанту менавіта такі. Калі гэта здарыцца, небяспечнасць агульнасусветнай сітуацыі можа адно павялічыцца. Усяму свету жыццёва неабходна ўсеагульнае супрацоўніцтва паміж краінамі Захаду, сацыялістычнымі і краінамі ў стадыі развіцця, уключаючы абмен ведамі, тэхналогіяй, гандаль, эканамічную, у прыватнасці, харчовую дапамогу. Аднак гэтае супрацоўніцтва павінна адбывацца на аснове даверу адкрытых грамадстваў, як кажуць, з адкрытай душою, на аснове сапраўднага раўнапраўя, а не на аснове страху дэмакратычных краін перад іх таталітарнымі суседзямі. Супрацоўніцтва ў гэтым апошнім выпадку азначала б проста спробу задобрыць жудаснага суседа. Але такая палітыка заўсёды адно часова адцягвае бяду, якая ў хуткім часе вяртаецца ў іншыя дзверы з удзесяцяронымі сіламі, гэта проста новы варыянт мюнхенскай палітыкі. Трывалы поспех дэтанту магчымы толькі тады, калі з самага пачатку яму спадарожнічае няспынны клопат аб адкрытасці ўсіх краін, аб павелічэнні ўзроўню галоснасці, аб свабодным абмене інфармацыяй, клопат пра абавязковае выкананне ва ўсіх краінах грамадзянскіх і палітычных правоў — карацей кажучы, пры дапаўненні разрадкі ў матэрыяльнай сферы раззбраення і гандлю разрадкай духоўнай, ідэалагічнай сферы. Пра гэта выдатна сказаў прэзідэнт Францыі Жыскар д'Эстэн у час свайго візіту ў Маскву. Дальбог, варта перажыць папрокі некаторых дальнабачных прагматыкаў з ліку ягоных суайчыннікаў дзеля таго, каб падтрымаць важнейшы прынцып!

Перш чым перайсці да абмеркавання праблем раззбраення, хачу скарыстаць магчымасць і яшчэ раз нагадаць некаторыя свае прапановы агульнага характару. Гэта, перш за ўсё, ідэя стварэння пад эгідаю ААН міжнароднага Кансультатыўнага Камітэта па пытаннях раззбраення, правоў чалавека і аховы навакольнага асяроддзя. Камітэту, як на маю думку, павінна быць дадзена права атрымання абавязковых адказаў ад усіх урадаў на ягоныя запыты і рэкамендацыі. Такі камітэт стаў бы важным рабочым органам для забеспячэння агульнасусветных дыскусій і галоснасці па самых важных праблемах, ад якіх залежыць будучыня чалавецтва. Я чакаю падтрымкі і абмеркавання гэтае ідэі.

Я таксама хачу падкрэсліць, што я лічу асабліва важным шырэйшае выкарыстанне войскаў ААН для купіравання міжнародных і міжнацыянальных узброеных канфліктаў. Я вельмі высока ацэньваю магчымую і неабходную ролю ААН, я лічу яе адной з галоўных надзей чалавецтва на лепшую будучыню. Апошнія гады — цяжкія, крытычныя для гэтай арганізацыі. Я пісаў аб гэтым у кнізе «О стране и мире», ужо пасля яе выхаду ў свет вартай жалю падзеяй было прыняцце Генеральнай Асамблеяй (да таго ж без абмеркавання па сутнасці) рэзалюцыі, якая абвясціла сіянізм формаю расізму і расавай дыскрымінацыі.

Пераходжу да аднае з цэнтральных праблем сучаснасці — да раззбраення. Я падрабязна выклаў сваю пазіцыю ў кнізе «О стране и мире». Неабходна ўзмацненне міжнароднага даверу, дасканалы кантроль на месцах сіламі міжнародных інспекцыйных груп. Усё гэта немагчыма без пашырэння разрадкі на галінку ідэалогіі, без павелічэння адкрытасці грамадства. У гэтай жа кнізе я падкрэсліў неабходнасць міжнародных пагадненняў аб абмежаванні паставак зброі іншым дзяржавам, спынення новых распрацовак сістэм зброі па спецыяльных пагадненнях, пагаднення аб забароне сакрэтных работ, ліквідацыі фактараў стратэгічнай няўстойлівасці, у прыватнасці, забароны боегаловак, якія дзеляцца.

Як я ўяўляю сабе ідэальнае агульнасусветнае пагадненне аб раззбраенні ў тэхнічным плане?

На маю думку, такому пагадненню мусіць папярэднічаць афіцыйная (не абавязкова адразу адкрытая) заява пра аб'ём усіх відаў ваеннага патэнцыялу (ад запасаў тэрмаядзерных зарадаў да прагнозаў кантынгентаў ваеннаабавязаных), з указаннем прыкладна ўмоўнай разбіўкі па раёнах «патэнцыяльнай канфрантацыі». Пагадненне павінна прадугледжваць у якасці першага этапу ліквідацыю пераваг аднаго боку над другім асобна для кожнага стратэгічнага раёна і для кожнага віду ваеннага патэнцыялу (вядома, гэта толькі схема, ад якой непазбежны пэўныя адхіленні). Такім чынам будзе выключана, па-першае, што пагадненне ў адным стратэгічным раёне (скажам, Еўропе) будзе выкарыстана для ўмацавання ваенных пазіцый у другім раёне (скажам, на савецка-кітайскай мяжы); і, па-другое, будуць выключаны магчымыя несправядлівасці з-за цяжкасці колькасна супаставіць значнасць розных відаў патэнцыялу (напрыклад, цяжка сказаць, колькім зенітным устаноўкам ПРА эквівалентны адзін крэйсер і г. д.). Наступным этапам скарачэння ўзбраенняў павінна стаць прапарцыянальнае скарачэнне адначасова для ўсіх краін і ўсіх стратэгічных раёнаў. Такая формула «збалансаванага» двухэтапнага скарачэння ўзбраенняў забяспечыць безупынную бяспеку кожнай краіне, безупынную раўнавагу сіл у кожным раёне патэнцыяльнай канфрантацыі і адначасова радыкальнае вырашэнне эканамічных і сацыяльных праблем, выкліканых мілітарызацыяй. На працягу многіх дзесяцігоддзяў варыянты падобнага падыходу вылучаліся шматлікімі экспертамі і дзяржаўнымі дзеячамі, аднак дагэтуль поспех вельмі нязначны. Але я спадзяюся, што цяпер, калі чалавецтву рэальна пагражае гібель у вогнішчы тэрмаядзерных выбухаў, розум людзей не дазволіць гэтага канца. Радыкальнае збалансаванае раззбраенне сапраўды неабходнае і магчымае, як частка шматбаковага і складанага працэсу вырашэння грозных неадкладных праблем усяго свету. Тая новая фаза міждзяржаўных адносін, якая атрымала назву разрадкі або дэтанту і, верагодна, мае сваім кульмінацыйным пунктам Хельсінкскую нараду, у прынцыпе адкрывае пэўныя магчымасці прагрэсу ў гэтым напрамку.

Заключны акт Хельсінкскай нарады прыцягвае нашую ўвагу тым, што ў ім упершыню афіцыйна адлюстраваны комплексны падыход да вырашэння праблем міжнароднай бяспекі, які ўяўляецца адзіна магчымым; у акце ёсць глыбокія фармуліроўкі аб сувязі міжнароднай бяспекі з абаронаю правоў чалавека, свабоды інфармацыі і свабоды перамяшчэння і важныя абавязкі краін-удзельніц, якія гарантуюць гэтыя правы. Відавочна, вядома, што гаворка ідзе не пра гарантаваны вынік, а менавіта пра новыя магчымасці, якія могуць быць рэалізаваныя адно ў выніку доўгай планамернай працы, з адзінай і паслядоўнай пазіцыяй усіх краін-удзельніц, асабліва дэмакратычных краін.

Гэта датычыць, у прыватнасці, праблем правоў чалавека, якой прысвечана апошняя частка лекцыі. У нашай краіне, пра якую я зараз буду гаварыць пераважна, за тыя месяцы, што прайшлі пасля Хельсінкскай нарады, увогуле не адбылося якога-небудзь істотнага паляпшэння ў гэтым кірунку; у асобных пытаннях назіраюцца нават спробы прыхільнікаў жорсткага курсу «закруціць гайкі».

Па-ранейшаму ў тым самым стане знаходзяцца важныя праблемы міжнароднага інфармацыйнага абмену, свабоды выбару краіны пражывання, паездак для вучобы, работы, лячэння, проста турызму. Каб канкрэтызаваць гэтае сцвярджэнне, я прывяду некалькі прыкладаў — не ў парадку іх важнасці і не імкнучыся да паўнаты.

Вы ўсе ведаеце не горш за мяне, што дзеці, скажам, з Даніі могуць сесці на ровары і весела даехаць да Адрыятыкі. Ніхто не ўбачыць у гэтых дзецях «малалетніх шпіёнаў». Але савецкія дзеці гэтага не могуць! Вы самі можаце развіць гэты прыклад (і ўсе астатнія) на мноства аналагічных сітуацый.

Вы ведаеце, што Генеральная Асамблея пад ціскам сацыялістычных краін прыняла рашэнне, якое абмяжоўвае тэлевізійнае вяшчанне са спадарожнікаў. Я лічу, што сёння, пасля Хельсінкі, ёсць усе падставы для яго перагляду, для мільёнаў савецкіх грамадзян гэта вельмі цікава і важна.

У СССР якасць пратэзаў для інвалідаў вельмі нізкая. Але ніводзін савецкі інвалід, нават маючы выклік ад замежнай фірмы, не можа выехаць па гэтым выкліку за мяжу.

У савецкіх газетных кіёсках нельга купіць некамуністычных замежных газет, дый з камуністычных прадаецца далёка не кожны нумар. Нават такія інфармацыйныя часопісы, як «Америка», вельмі дэфіцытныя і прадаюцца ў мізэрнай колькасці кіёскаў, а разыходзяцца імгненна і зазвычай «з нагрузкаю» нехадавых выданняў.

Кожны, хто хоча эміграваць з СССР, павінен мець выклік ад блізкіх сваякоў. Шмат для каго гэтая праблема невырашальная, напрыклад, для 300 тысяч немцаў, якія хочуць выехаць у ФРГ. (Квота на выезд складае для немцаў усяго пяць тысяч чалавек на год, інакш кажучы, выезд распланаваны на 60 гадоў.) За ўсім гэтым — вялікая трагедыя. Асабліва трагічнае становішча асоб, якія жадаюць злучыцца з раднёю ў сацыялістычных краінах — за іх няма каму заступіцца, дэспатызм уладаў не мае мяжы.

Свабода перамяшчэння, выбару месца працы і жыхарства па-ранейшаму парушаецца для мільёнаў калгаснікаў, а таксама для тысяч крымскіх татар, 30 гадоў таму назад з вялікімі жорсткасцямі выселеных з Крыма і дагэтуль пазбаўленых права вярнуцца на родную зямлю.

Заключны акт Хельсінкскай нарады зноў пацвердзіў прынцыпы свабоды перакананняў. Але патрабуецца вялікая і ўпартая барацьба, каб гэтыя палажэнні акту мелі не толькі дэкларатыўнае значэнне. У СССР многія тысячы людзей прыгнятаюцца сёння за перакананні ў судовым і ў несудовым парадку — за рэлігійныя вераванні і жаданне выхоўваць сваіх дзяцей у рэлігійным духу; за чытанне і распаўсюджванне (часта проста за азнаямленне 1—2 чалавек) непажаданай уладам літаратуры, зазвычай абсалютна легальнай па дэмакратычных нормах, напрыклад, рэлігійнай; за спробу пакінуць краіну; асабліва важная ў маральным плане праблема ганення асоб, якія пакутуюць за абарону іншых ахвяр несправядлівасці, за імкненне да галоснасці, у прыватнасці, за распаўсюджванне інфармацыі аб судах, ганеннях за перакананні, аб умовах у месцах зняволення.

Невыносная думка, што цяпер, калі мы сабраліся ў гэтую залу, на святочную цырымонію, сотні і тысячы вязняў сумлення пакутуюць ад цяжкага шматгадовага голаду, ад амаль поўнай адсутнасці ў ежы бялкоў і вітамінаў, ад адсутнасці лекаў (вітаміны і лекі забаронена дасылаць у месцы зняволення), ад цяжкай працы, дрыжаць ад холаду і сырасці і знясілення ў цёмных карцэрах, вымушаныя весці няспынную барацьбу за сваю чалавечую годнасць, за перакананні супраць машыны «перавыхавання», а фактычна злому іхняе душы. Асаблівасці сістэмы месцаў зняволення рупліва ўтойваюцца, дзесяткі людзей пакутуюць за яе выкрыццё — гэта лепшы доказ рэальнасці абвінавачвання ў яе адрас. Нашае пачуццё чалавечае годнасці патрабуе неадкладнай замены гэтае сістэмы для ўсіх зняволеных, якія б вінаватыя яны ні былі. Але што сказаць пра пакуты нявінных? Аднак самае жахлівае — пекла спецпсіхбальніц Днепрапятроўска, Сычаўкі, Благавешчанска, Казані, Чарняхоўска, Арла, Ленінграда, Ташкента...

Я не магу сёння расказваць пра канкрэтныя судовыя справы, пра канкрэтныя лёсы. Есць вялікая літаратура (я звяртаю тут Вашую ўвагу на выданні выдавецтва «Хроніка-Прэс» у Нью-Йорку, якое перадрукоўвае, у прыватнасці, савецкі самвыдаўскі часопіс «Хроника текущих событий» і выдае аналагічны інфармацыйны бюлетэнь). Я проста назаву тут, у гэтай зале, імёны некаторых вядомых мне вязняў. Як Вы ўчора ўжо чулі, я прашу Вас лічыць, што ўсе вязні сумлення, усе палітзняволеныя маёй краіны падзяляюць са мною гонар Нобелеўскай прэміі міру.

Вось некаторыя вядомыя мне імёны: Плюшч, Букоўскі, Глузман, Мароз, Марыя Сямёнава, Надзея Святлічная, Стэфанія Шабатура, Ірына Калінец-Стасіў, Ірына Сенік, Ніёле Садунайтэ, Анаіт Карапецян, Осіпаў, Кранід Любарскі, Шумук, Вінс, Румачык, Хаўстаў, Суперфін, Паўлайціс, Сімуціс, Караванскі, Валерый Марчанка, Шухевіч, Паўленкаў, Чарнаглаз, Абанькін, Сусленскі, Мешанер, Святлічны, Сафронаў, Родэ, Шакіраў, Хейфец, Афанасьеў, Мо-Хун, Бутман, Лук'яненка, Агурцоў, Сергіенка, Антанюк, Лупынос, Рубан, Плахатнюк, Каўгар, Бялоў, Ігруноў, Салдатаў, Мяцік, Юшкевіч, Кійрэнд, Здаровы, Таўмасян, Шахвердзян, Заграбян, Айрыкян, Маркасян, Аршакян, Міраўскас, Стус, Свярсцюк, Кандыба, Убожка, Раманюк, Вераб'ёў, Гель, Пранюк, Гладко, Мальчэўскі, Гражыс, Прышляк, Сапеляк, Калінец, Супрэй, Вальдман, Дзямідаў, Барнічук, Шаўковы, Гарбачоў, Вярхоў, Турык, Жукаўскас, Сенькіў, Грынькіў, Навасардзян, Саартс, Юры Вудка, Цуцэ, Давыдаў, Балонкін, Лісавы, Пятроў, Чакалін, Гарадзецкі, Чарнавол, Балахонаў, Бондар, Калінічэнка, Каломін, Плумпа, Яўгліс, Федасееў, Асадчы, Будулак-Шарыгін, Макаранка, Малкін, Штэрн, Лазар Любарскі, Фельдман, Ройдбурт, Школьнік, Мурженка, Фёдараў, Дымшыц, Кузняцоў, Мендзялевіч, Альтман, Пэнсан, Хнох, Вульф Залмансон, Ізраіль Залмансон і многія іншыя. У несправядлівай ссылцы — Анатоль Марчанка, Нашпіц, Цытлёнак. Чакаюць суда — Мустафа Джамілёў, Кавалёў, Цвердахлебаў. Я не змог назваць усіх вядомых мне вязняў з-за адсутнасці месца, яшчэ больш я не ведаю альбо не маю пад рукою даведкі. Але я ўсіх маю на ўвазе ў думках і прашу прабачэння ў тых, каго не назваў. За кожным названым і неназваным імем — цяжкі і гераічны чалавечы лёс, гады пакут, гады барацьбы за чалавечую годнасць.

Кардынальнае вырашэнне праблемы ганенняў за перакананні — вызваленне на аснове міжнароднага пагаднення, магчыма, рашэння Генеральнай Асамблеі ААН, усіх палітзняволеных, усіх вязняў сумлення ў турмах, лагерах і псіхіятрычных бальніцах. У гэтай прапанове няма ніякага ўмяшання ва ўнутраныя справы якой-небудзь краіны, бо яно ў роўнай ступені распаўсюджваецца на ўсе краіны, на СССР, Інданэзію, Чылі, ПАР, Іспанію, Бразілію, на ўсе іншыя краіны, і таму, што абарона правоў чалавека абвешчана Усеагульнай дэкларацыяй ААН міжнароднай, а не ўнутранай справаю. Дзеля гэтае вялікае мэты нельга шкадаваць сіл, які доўгі ні быў бы гэты шлях — а што ён доўгі, гэта мы бачылі пад час апошняй сесіі ААН. На гэтай сесіі ЗША зрабілі прапанову аб палітычнай амністыі, але потым знялі яе, пасля спробаў шэрагу краін занадта (як на думку дэлегацыі ЗША) пашырыць рамкі амністыі. Я шкадую аб тым, што здарылася. Але зняць праблему нельга. І я глыбока перакананы, што лепш вызваліць нейкую колькасць людзей у чым-небудзь вінаватых, чым трымаць у няволі і катаваць тысячы невінаватых.

Не адмаўляючыся ад кардынальнага вырашэння, сёння мы павінны змагацца за кожнага чалавека асобна, супраць кожнага выпадку несправядлівасці, парушэння правоў чалавека — ад гэтага залежыць надта многае ў нашай будучыні.

Імкнучыся да абароны правоў людзей, мы павінны выступаць, як на маю думку, абаронцамі ў першую чаргу ні ў чым не вінаватых ахвяр рэжымаў розных краін, без патрабавання знішчэння і татальнага асуджэння гэтых рэжымаў. Патрэбны рэформы, а не рэвалюцыі. Патрэбна гібкае плюралістычнае і талерантнае грамадства, якое ўвасабляе ў сабе дух пошуку, абмеркавання і вольнага, недагматычнага выкарыстання дасягненняў усіх сацыяльных сістэм. Што гэта — разрадка? канвергенцыя? — справа не ў словах, а ў нашай рашучасці стварыць лепшае, больш добрае грамадства, лепшы сусветны парадак.

Тысячы гадоў таму чалавечыя плямёны праходзілі суровы адбор на выжыванне; і ў гэтай барацьбе было важным не толькі ўменне валодаць дубінкаю, але і здольнасць да розуму, да зберажэння традыцый, здольнасць да альтруістычнай узаемадапамогі членаў племені. Сёння ўсё чалавецтва ў цэлым вытрымлівае падобны экзамен. У бясконцай прасторы павінны існаваць многія цывілізацыі, у тым ліку больш разумныя, больш «удалыя» за нашую. Я абараняю таксама касмалагічную гіпотэзу, згодна з якой касмалагічнае развіццё сусвету паўтараецца ў асноўных сваіх рысах бясконцую колькасць разоў. Пры гэтым іншыя цывілізацыі, у тым ліку больш «удалыя», павінны існаваць бясконцую колькасць разоў на «папярэдніх» і «наступных» да нашага свету старонках кнігі Сусвету. Але ўсё гэта не павінна змяншыць нашага святога імкнення менавіта ў гэтым свеце, дзе мы, як успышка ў змроку, узніклі на адно імгненне з чорнага нябыту несвядомага існавання матэрыі, ажыццявіць патрабаванні Розуму і стварыць жыццё, вартае нас і Мэты, якую мы цьмяна ўгадваем.

Пераклаў з рускай
Мікола СЦЕПАНЕНКА.

[1] Дэтант — разрадка міжнародных адносін. (Рэд.)

# РАЗВІТАННЕ

## З Андрэем Дзмітрыевічам САХАРАВЫМ











Фота Цімура ГРЫБА





# НЕ МАГУ ПАСТУПІЦЦА ПРЫНЦЫПАМІ!

«У вашым часопісе № 3 за мінулы год апублікаваны артыкул «Калі спяваюць генералы...», у якім аўтар апісвае асабістыя ўражанні ад прысутнасці Ю. М. Чурбанава на ўрачыстасцях пры адкрыцці мемарыялу абароны Брэсцкай крэпасці ўвосень 1971 года. Тут жа змешчана і фатаграфія прэзідыума камсамольскай канферэнцыі воінскай часці ўнутраных войскаў МУС у час выканання «Інтэрнацыянала», на якой можна ўбачыць і мяне — генерала, намесніка міністра ўнутраных спраў БССР. З ёй манціруецца такі тэкст: «А тым самым вечарам (восенню 1971 г.) у гатэлі Юрый Міхайлавіч крычаў на намесніка міністра ўнутраных спраў рэспублікі і камандзіра з унутраных войскаў: «Маўчаць, калі з вамі гаворыць намеснік начальніка Палітупраўлення. На гаўптвахце згнаю, у лесе даслужваць будзеце».

Мяркуючы па фатаграфіі, п'яная лаянка Чурбанава скіравана ў мой адрас, аднак у гэты час я ў Брэсце не быў і на ўрачыстасцях увогуле не прысутнічаў.

Так што, фальсіфікацыя — відавочная.

Далей у артыкуле напісана, як Чурбанаў блюзнерскі выконвае на камсамольскай канферэнцыі воінскай часці партыйны гімн «Інтэрнацыянал»: «Старанна падпяваюць афіцэры і генералы, камандаванне часці ўнутраных войскаў. Цікава, пра што яны думаюць у гэтае імгненне? Бо ж яны... старэйшыя таварышы, ведаюць, хто такі Чурбанаў». І далей: «На дварэ 1973 год... Спець з ім у прэзідыуме — вялікая радасць і гонар. І фатограф апынуўся тут своечасова... З «самім» зняўся, во як пашанцавала».

Якія злыя, прыніжальныя словы дапускае аўтар у адрас прэзідыума і мяне асабіста!

На фатаграфіі буйным планам зняты два генералы — Чурбанаў і я. Стаяў я побач з прадстаўніком унутраных войскаў краіны, а не з зяцем Брэжнева, і на канферэнцыю я быў запрошаны як прадстаўнік МУС БССР. Партыйны гімн «Інтэрнацыянал» я спяваў разам з дэлегатамі канферэнцыі, але не падпяваў Чурбанаву, як гэта трактуецца.

Гонар для мяне — не пустое слова, а прынцып усяго майго жыцця, ягоны сэнс — служэнне Радзіме. Я пражыў 71 год і ні разу не паступіўся прынцыпамі прыстойнасці, ні перад кім не ўніжаўся і нікому не прыслугоўваў. Думаю, што імкненне аўтара ачарніць усіх прадстаўнікоў старэйшага пакалення не робіць гонару савецкаму журналісту. Нашае пакаленне стварала падмурак перабудовы, сённяшняга прасвятлення.

З 1938 года да пачатку Айчыннай вайны я служыў на мяжы з Афганістанам, дабравольцам пайшоў на фронт у ліпені 1941 года. У чэрвені 1942 года ў складзе спецатрада закінуты ў тыл ворага ў Расонскі раён Віцебскай вобласці, быў намеснікам камандзіра партызанскай брыгады імя Ракасоўскага. У час вайны быў паранены і кантужаны. Пасля вайны жыву і працую на Беларусі — 18 гадоў на партыйнай рабоце, а з 1966 года па 1984 год — да адыходу на пенсію — працаваў намеснікам міністра ўнутраных спраў БССР, званне генерала прысвоена мне ў 1968 годзе, яшчэ да прыходу Чурбанава ў сістэму МУС СССР.

Апублікаваны вашым часопісам артыкул, сама яго назва — гэтыя няўдала перафразаваныя словы з песні «Когда поют солдаты — спокойно дети спят». Як жа разумець «Калі спяваюць генералы...»? Што ж тады адбываецца?

Артыкул і падтасаваная да яго фатаграфія з'яўляюцца публічнай абразаю ўсяго прэзідыума камсамольскай канферэнцыі і мяне асабіста, як адзінага (апроч Чурбанава) генерала.

Вы без усялякіх падстаў знявславілі мяне на ўсю рэспубліку, у якой я з 1942 года ваяваў супраць фашыстаў і сумленна працаваў, дый цяпер, як ветэран вайны, беларускі партызан, вяду грамадскую работу сярод моладзі.

Вы мяне маральна прынізілі перад народам Беларусі. І як мне цяпер глядзець людзям у вочы? Вы ж мяне паказалі падхалімам!

Я патрабую, каб вы на старонках часопіса публічна папрасілі прабачэння перада мною і членамі прэзідыума канферэнцыі. У адваротным выпадку я буду вымушаны звярнуцца ў Народны суд, каб абараніць свой гонар.

Г. І. КАЗАРЦАЎ

*Люстраная зала*

**АД РЭДАКЦЫІ:**

Паважаны Георгій Іванавіч!

Публікуем Ваш ліст без якогасьці намеру ўступаць у палеміку. Усяго некалькі слоў. У 1971 годзе ў Брэсце Вас сапраўды не было, і Вы дарэмна прымаеце п'яную лаянку Чурбанава на свой конт. Як мы ведаем, у кожнага міністра ёсць нямала намеснікаў. Але гэта між іншым. Галоўнае, што Вы нічога не ведалі пра сапраўдную, а не «закулісную» дзейнасць былога начальніка Палітупраўлення УВ МУС СССР Чурбанава, гэтаксама ж, як і іншыя генералы і афіцэры, якіх мы бачым на здымку. Што ж датычыць асабіста Вашай баявой біяграфіі, то публікацыяй фатаграфіі мы, безумоўна, не хацелі кінуць цень на Ваш паслужны спіс. Нам хацелася паразважаць пра некаторыя моманты зусім яшчэ нядаўняе гісторыі, калі на многіх пасадах, у тым ліку і на такіх ключавых, як МУС СССР, маглі апынуцца дачаснікі і авантурысты. Згадзіцеся, што Чурбанаў і «Інтэрнацыянал» разам не стасуюцца.

Вольга ЯГОРАВА

# ВОСЬ МАЯ ВЁСКА

*Успамін пра мінулае лета*

## РАНІЦА

...Па-ранішняму звонка дзынькае настылая за дзень шыбіна. Стукне аб масніцу скінутая з канапы кніжка. Рыпнуць дзверы. Разбуджаная раней чым звычайна, незадаволена забрэша з двара лагодная Муха. Ей у адказ здалёку крыкне певень.

Гаспадыня дома ў квяцістым сарафанчыку спыняецца на ганку сустракаць сонца. Нясмелыя, але промні асвятляюць суседскую ёўню, жоўтыя бабкі спелых снапоў. Антонаўка за плотам схіляе галіны тужэй за ўчарашнія, прымушаючы яблыню адвешваць паклон зямлі. Соладка пахнуць начныя кветкі.

Яніна саскоквае з ганка. За ёй — муж яе, Фёдар, у спартыўных штанах і красоўках. Па чарзе паліваюць адно аднаму на рукі з вялікай конаўкі. Фёдар мыецца шумна. Яніна ціха, быццам гуляючыся, адной далонькай, маленькай, як у дзяўчынкі.

Ен стукае малатком, забіваючы калкі, размячаючы месца пад будучы склеп. Мяркуе, дзе паставіць гараж. Яна — на градах. Падвязала, каб не рассыпаўся, пераспелы мак (да свята і госцю — у пірог). Пачала збіраць на закрутку зялёныя пухірыстыя агуркі — «кракадзільчыкі», як прыдумалі дзеці. Пяцігадовая Алена, Воўка, які толькі на год маладзейшы за яе, і Лёшка, яму хутка два... Іх ранак яшчэ не настаў. Сапуць дружна, у тры носікі,— самы сон. Сонца стукаецца ў акенца нячутна. Маці з бацькам не хвалююцца — не засняць. Хітрая і дакладная кошка Кацька скочыць праз фортку — прама ў дзіцячы пакой.

Снедаюць разам. Белы абрус на стале. Без цэлафанавай плёнкі наверх, як у многіх. З цэлафанам, лічыць Яніна, абрус — не абрус.

— Па тры штукі на дзень выварваю,— між іншым кідае яна,— затое белы...

І на белым — белае. Аўсяная каша, сала, вермішэль, маладая бульба, яйкі, хлеб. Ямо моўчкі і спакойна, з задавальненнем, па-вясковаму, нягледзячы на ранні час,— напярэдадні вялікі дзень,— і сапраўды, хочацца есці.

На вёсцы ляпаюць весніцы. Камбайнерам пара. Пачаўся дзень. Гарачы і прагны: жніво. Гэта адчуваюць нават дзеці. Трэба даціць малако. І не варта прасіцца з бацькам — нельга зламаць яго.

Фёдар імкліва ўстае з-за стала. Увесь на рабоце ўжо: грунтоўны. Гаспадар дома. Гаспадар зямлі. Ляпаюць весніцы за ім. І Яніна перапыняе ранішнюю маўклівасць. Правяла мужа. Як бы мімаходзь, прыбіраючы талеркі, мыючы дзяцей, увесь дзень гаворыць яна пра Фёдара.

— Новую «Ніву» яму далі. Нанерваваўся, пакуль усю да шрубчыка перабраў. Кожны год што-небудзь новае. То трактар, то касілка. Усё пад сваю руку трэба падагнаць,— Яніна спрытна ставіць посуд у секцыю,— я яму заўсёды насустрач іду. Зірніце, цэлую шафку ў новай паліраванай сценцы аддала пад жалезкі.

Як жа інакш, калі муж механізатар?

Узялася над бакі зусім па-бабску. Ніколі не скажаш — 24 гады маладзіцы.

Вясковыя, яны ўсе ўжо да 17-ці гадоў сапраўдныя гаспадыні. Калі, вядома, любяць і шкадуюць сваіх маці. Усё ўмеюць: і карову дояць, і падлогу скрабуць, і грады полюць, і ручнік умеюць вышыць, і посцілку выткаць. І не абы-як, з настроем, з фантазіяй, адна перад адной. Маці — перад дачкой. Дачка — перад маці. Дарма сказаць — свой побыт, свой дом.

Але пакідаюць дзяўчаты бацькоўскі дом. Вясковыя скрозь, а ўсё роўна, па інерцыі, едуць у горад. Выходзяць замуж. Пакідаюць сваіх хлопцаў без вявест. Так і Яніна. Колькі часу пражыла ўпоперак сябе? Цэлыя два гады. Тыцнула пальцам у газетную рэкламу, наздагад, і трапіла на загатоўшчыка і закройшчыка верху абутку. Што гэта за прафесія?! У 17 год няма калі думаць пра гэта. Да таго ж, ледзь не на другі дзень пасля знаёмства Фёдар «выкраў» у Яніны пашпарт і ўпотай падаў заяву ў загс. Паступіў па-мужчынску, ухваляе Яніна, рашучы. А калі атрымалі позву на райвыканкам,— плакала. «Ішла на пасяджэнне — і не ведала, што замуж выходжу!»

...Вяселле гулялі вясковае, а жыць— зноў у горад. Пачалі чакаць Алёнку — стала зразумела, што трэба ў вёску.

Яніна расказвае паволі, спяшацца няма куды: дома. Гэта ў Фёдара ў полі — паспешлівасць. Не адстаць бы ад звенявога — вядомага на ўсё акругу камбайнера Яўгена Іванавіча Бурака. Ураджай выдаўся добры — не страціць бы.

Кашуля ў Фёдара кожны дзень быццам соллю пасыпана. Толькі паспявай, гаспадыня, праць.

Не шкадуе аб горадзе? Не, ніколькі не шкадуе, гэта відаць.

— Калі б праз горад не прайшла, і Фёдара не сустрэла б!

## ПОЎДЗЕНЬ

Фёдар убірае пшаніцу прама за вёскай. Як не зірнуць, пакуль спіць маленькі Лёшка? Самі — у поле. Алена з Воўкам — навыперадкі. Пяць чырвоных кропак налічылі ўдалечыні, на жоўтым. Якая бацькава «Ніва» — не адгадаеш. Поле — адно цэлае. Ідзе збожжа.

І складаецца на хаду казка пра зярнятка.

Жыло-было зярнятка ў засеках. Сумна стала яму. Выйшла ў поле. А тут — дождждык. Прарасло зярнятка. Коласам стала. Наляцеў вецер. Рассыпаў зерне. Стала поле калосся. Прыйшоў гаспадар. Зірнуў: вось дык цуд...

Яніна задумалася — што далей?

— Трэба татку з камбайнам паклікаць,— падказвае Воўка.

На полі, дзе працуе звяно Яўгена Іванавіча Бурака, чыста, як у доме ў добрай гаспадыні. Нават на горшых землях узялі зараз з кожнага гектара цэнтнераў на дзесяць-дванаццаць больш збожжа, чым бралі раней. Хоць разлічвалі на плюс пяць — шэсць. Увайшлі (і гэта было няпроста) у інтэнсіўную тэхналогію раней за іншых. Усю мінулую пяцігодку даказвалі самім сабе, крок за крокам, ці будзе добры вынік. Цяпер маюць вопыт. І дзеляцца ім. Да ўсесаюзнага семінара і аграномы, і механізатары — усе рыхтавалі сваю праўду пра хлеб.

...Прачнуўся і плакаў разбуджаны Лёшка. А на стале, на бачным месцы, запіска ад Фёдара. «Я — у Казахстане».

Вось дык справы! Цэлую гадзіну новы бацькаў камбайн у полі шукаем, а яго і след прастыў. Бачу, што і для Яніны гэта нечаканасць. Але ў жніво ўсякае можа здарыцца...

На вуліцы гуляюць дзеці. Мы з Янінай здымаем белую бялізну — увесь двор завешалі. На пліце «даходзіць» сапраўдны палявы суп: з бульбай, зяленівам і грыбамі. Але Фёдар не пакаштуе яго. Пачынаем закатваць агуркі-«кракадзільчыкі». Разліваем у слоікі марынад, рыхтуем лісце, лушчым часнок.

— Ці паспеў паабедаць перад ад'ездам? — перажывае Яніна.

У калгасе імя Гастэлы для камбайнераў двухразовае гарачае харчаванне ў полі. Абеды бяруць у сталічным рэстаране. Вязуць прама да камбайнаў. Смачна і выгадна. Крыху даражэйшыя абеды? Але рабочыя рукі на жніве яшчэ даражэйшыя.

А ў вёсцы, у Скарынічах, перабоі з хлебам. Магазін зачынены. Аўталаўка раз на тыдзень, і тое не заўсёды. Добра, што Мінск побач. Добра, пагаджаецца Яніна, калі з горада вязеш абрыкосы ці персікі. Але — хлеб!..

І зноў наша размова пераходзіць на справы жыццёвыя, на дом.

— Я так радавалася,— адкрываецца Яніна,— калгас нам кватэру выдзеліў. Не на пустое месца прыйшлі, а на гатовую яблыню, прама перад хатай. Суседка здзівілася: чаму радуешся? Дзічка! А мне дык усё роўна — дрэва. Гусцей за ўсё цвіла. Вокны мыла, каб і шыбін не відаць. Налюбавацца не магла: яблыня!

Заканчэнне на стар. 35.








# ЗАЛАТЫ БАЛЕТ БЕЛАРУСІ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 2.*

...Стыль і чуллівасць І. Душкевіч пакараюць. Яе Кармэн — не спакусніца, а рамантызаваны Елізар'евым гімн кахання. Яе дуэты з У. Івановым (Хасэ) шчырыя і пераканаўчыя.

...Беларускія артысты балета таленавітыя і дужа прывабныя. Яны натхнёна выконваюць фантазійную харэаграфію Елізар'ева.

...Зусім нядаўна, на працягу 6 тыдняў у Калізеі праходзілі гастролі Вялікага тэатра і, шчыра кажучы, гэтыя спектаклі былі трохі сумнаватымі. Таму так прыемна адчуць дыханне свежага ветру, якое прынеслі артысты з Мінска. Наш папярэдні вопыт кантактавання з савецкім балетам — гэта сустрэчы толькі з Вялікім і Кіраўскім. У нас упершыню з'явілася магчымасць убачыць рэгіянальную савецкую трупу ў Лондане, і сапраўды, можна ўпэўнена сказаць, што мы атрымалі вялікае задавальненне,—менавіта гэтая трупа прапануе жывы, цікавы рэпертуар.

...Яны — па-боску адметныя. Гэта, бясспрэчна, балетны гурт са сваім творчым крэда.

...Прыемна адзначыць, што, насуперак нашым уяўленням аб рабоце савецкіх харэографаў, творчасць Елізар'ева не прывязана да мінуўшчыны. Здаецца, ён лёгка паламаў перажыткі і стварыў работы, адпаведныя сучасным ідэям.

...В. Елізар'еў, галоўны балетмайстар гэтае прэстыжнае трупы, лічыцца адным з трох лепшых балетмайстраў Савецкага Саюза. Яговыя спектаклі заўсёды арыгінальныя, бліскучыя, іх любіць публіка.

...У асобе Камкова беларуская трупа мае аднаго з самых геаічных выканаўцаў ролі Спартака — магутнага цэласкладу, самаахвярнага змагара, які пакутуе з пераканаўчай шчырасцю. Ен цудоўны ў сваіх працяглых сола.

...Адмысловыя дэкарацыі і касцюмы, незвычайная, часта гуманістычная харэаграфія, цёплыя адносіны, якія ўзнікаюць паміж артыстамі і аўдыторыяй, выклікалі ўсхваляваную рэакцыю ўсяе глядацкае залы.

...Бліскучы залаты танец персідскіх лялек элегантна і прывабна выканалі Т. Шэметавец і В. Захараў.

...Беларускі балет пераканаўча прадэманстраваў, што ён, бясспрэчна, дадае новыя вымярэнні папулярнаму савецкаму балетнаму спектаклю.

...З 20 пастановак «Спартака» ў Савецкім Саюзе гэтая, бясспрэчна,— адна з найлепшых.

...Ніколі не прыходзілася бачыць пару (І. Душкевіч і А. Куркоў) з такой самааддана́сцю і страснасцю.

...Бадай, найбольш прывабная асаблівасць Беларускага балета ў тым, што ён дазваляе танцу гаварыць за сябе.

...У Вялікабрытаніі адбыліся гастролі аднаго з найбольш прызнаных балетных гуртоў СССР — Беларускага балета, які атрымаў найвышэйшыя адзнакі савецкае крытыкі і меў трыумфальныя гастролі больш як у 10 краінах.



**Славамір МРОЖАК**

*Апавяданне*




Настаў доўгачаканы дзень сустрэчы двух вядомых цяжкаатлетаў. Змагаліся: Шатан-Мэты і Грос-Пітон. Ужо напачатку гледачы адчулі, што ніводзін з іх не здолее здабыць рашучай перавагі. Роўныя ў вазе, аднолькавай будовы, абодва дагэтуль непераможныя, у атацы кожны з іх сустракаў моцную абарону, абодва з абароны пераходзілі ў нечаканую атаку. Іхнія рухі, хуткія на пачатку сустрэчы, рабіліся ўсё больш запаволенымі па меры таго, як узаемна перапляталіся, блыталіся, як целы барцоў стваралі ўсё больш і больш складанае спляценне. Выдавала на тое, што гэта дужаюцца паміж сабой не два мужчыны, а калышыцца на месцы адна пачвара, надзеленая падвойнай колькасцю чалавечых канечнасцяў. Напачатку суддзя яшчэ выконваў свае абавязкі, яшчэ адрозніваў, які ступак або палец якому з цяжкаатлетаў належаў, але ж потым, у выніку агульнай скручанасці, выконваць ролю арбітра сталася немагчымым без дапамогі шпількі, якою суддзя ўпорваў у сумніцельную частку цела, каб па крыку пазнаць уладальніка. Аднак супраць такога метаду неўзабаве паўсталі гуманісты, і давялося ад яго адмовіцца. Далейшае судзейства сталася звычайнай павагай да фармальнасці.

Публіка, што па самы край напаўняла залу, перакрытую вялікім купалам, напачатку захлыналася ў захапленні, уражаная магутнасцю гэтай сустрэчы, ускоквала з месцаў, крычала, усімі магчымымі сродкамі выказвала свае прыхільнасці. Але ішоў час, а шанцы абодвух цяжкаатлетаў заставаліся роўнымі, і надзея на якую-небудзь раптоўную змену ў раскладзе сілаў рабілася дарэмнай, то ў адным, то ў другім месцы можна было заўважыць праявы калі не абыякавасці, дык ва ўсякім разе стомы. Відовішча рабілася і сапраўды залішне статычным. На рынгу ў белым святле ўсё больш нерухомеў шар напятых да апошняга мышцаў. Гэты шар час ад часу то ледзь заўважнай дэфармацыяй, то невялікім зрухам нагадваў аб нечалавечых намаганнях, якія змыкаў у сабе. Першыя праявы незадаволенасці пачалі выказваць людзі з убогім унутраным светам, яны патрабавалі гвалтоўных дзеянняў, але скора і інтэлігенцыя пачала выказваць нясмелыя пратэсты. Гадзіны цягнуліся, аж надышла хвіліна, калі шар на рынгу — апроч усё мацнейшага бляску поту: нібыта барцоў пакрылі нікелем — нічым больш не выказваў трагічнай і ўзрастаючай напругі барацьбы. Да таго ж час быў той самы, каб павячэраць і легчы ў ложак. Барацьба ж павінна была даць вынік, скончыцца безумоўнай перамогай аднаго з бакоў. Цікаўнасць яшчэ ўтрымлівала гледачоў на трыбунах, і таму аб спыненні сустрэчы нельга было і думаць. Усеагульная незадаволенасць, стома, голад, што назалялі натоўпу, непрыемныя думкі аб познім вяртанні дадому — усё гэта паціху настройвала супраць спартыўных уладаў. Ужо пачуліся злосныя выгукі, ужо ў бок суддзі крыкнулі нешта прыкрае. У такіх умовах, калі барацьбу нельга было весці далей, але ж і не ўяўлялася магчымым яе спыніць,— трэба было знайсці якое-небудзь трэцяе выйсце.

Пасля кароткай нарады суддзі паведамілі праз дынамікі, што такое выйсце знойдзена. Барацьба будзе аднаўлена заўтра. Аднак якім чынам запэўніць цяжкаатлетам тую самую пазіцыю, у якой матч будзе спынены? Як справядліва захаваць перавагі, што на гэты час здабыў кожны з майстроў? Абодва будуць апячатаны ў цяперашняй паставе так, як ёсць, і застануцца на рынгу ажно да ўзнаўлення барацьбы. Назаўтра пасля таго, як сарвуць пломбы, наступіць развязка.

Рашэнне прынялі воплескамі. Натоўп запоўніў праходы, а камісія прыступіла да апячатвання барцоў.

Зала пусцела, бальшасць рэфлектараў згасла. І толькі прыбіральшчыцы яшчэ соваліся ў глыбіні, але і яны неўзабаве сышлі з палаца спорту. На рынгу засталіся толькі барцы, сплеценыя ў шар, паверхню якога ўкрывалі чырвоныя плямы дбайна пастаўленых пячатак.

Паколькі іхнія галасы знаходзіліся ў сярэдзіне складанай канструкцыі, утворанай ў выніку працяглага змагання, то і паразумецца можна было адносна лёгка, не напружваючы голасу. У разгорнутым выглядзе абодва ўражвалі агромністым ростам, аднак тады няцяжка было заўважыць, што галовы ў іх несуадносна малыя ў параўнанні з тулавам. Занятыя барацьбой, ні адзін ні другі ніколі не ўдаваліся ў развагі, праца думкі была для іх невядомым заняткам. Таму яны і дасягнулі такіх цудоўных вынікаў у барацьбе. Цяпер, пакуль яшчэ імі кіраваў запал, Шатан-Мэты і Грос-Пітон хаця і знерухомелі, але ўсё яшчэ выдавалі хрыпы і воклічы, якія глухім рэхам аддаваліся пад купалам пустой залы. Аднак, якім моцным ні быў дух барацьбы, абставіны пачалі браць над ім верх.

Холад паволі разыходзіўся па пустой і змрочнай зале, разам з гледачамі барцы страцілі і стымул да змагання. Яны паціху астывалі і нарэшце па апошніх словах кляцьбы завісла працяглая цішыня. Трапіўшы ў новыя, невядомыя ім умовы, цяжка дыхалі, шукалі нечага ў сабе.

— Пітон...— вымавіў нарэшце Шатан-Мэты.

— Што? — азваўся Грос-Пітон.

— Ты тут?

— Тут.

— Я таксама,— падсумаваў Шатан, і зноў запала маўчанне. Аднак невядома, ці то проста дзеля немагчымага доўгага існавання побач дзвюх істот без узаемных кантактаў якога-небудзь роду, ці то дзеля таго, што Грос-Пітон пазайздросціў праціўніку з-за першынства ў артыкуляцыі, ва ўсялякім разе праз хвіліну пачуўся Пітонаў голас, які складаным шляхам, паміж рамёнаў, лытак, ступакоў, сцёгнаў, трыцэпсаў і мышцаў карку трапіў нарэшце ў вуха да Шатана-Мэты.

— Я — гэта я...— перакананa засведчыў Пітон.

Шатан-Мэты здзівіўся:

— Я — гэта я,— выказаў пратэст,— а не ты. Ты — гэта цалкам іншае.

— Здаецца, зразумеў? — узрадаваўся свайму адкрыццю Грос-Пітон.— Папросту, нас двое.

— Магчыма, чакай, але ж і мне таксама нешта ўспамінаецца,— прыпыніўся Шатан-Мэты.— Два... зараз... зараз...— і задумаўся ажно да болю.— Вялікае памяшканне, у ім я, зусім малы, дзіцё, адчыненыя вокны, вясновы дзень і кабета каля чорнай паверхні, нешта накшталт табліцы, штосьці на ёй піша... Былі там і іншыя дзеці...

— Можа, гэта яшчэ з войску? — намагаўся дапамагчы яму Грос-Пітон.

— Не, тое адбывалася раней.

— Зразумеў! — крыкнуў Грос-Пітон у прасвятленні.— То школа! Двойчы два!

— Адкуль ведаеш? — недаверліва спытаў Шатан-Мэты.— Сапраўды! Цяпер прыгадаў, што менавіта гэта яна пісала на дошцы нечым такім белым і маленькім... Але адкуль ты ведаеш?

— Сам не магу зразумець...— годна засароміўся Пітон.— Так прыйшло да галавы.

Размова разгортвалася далей. І не дзіва. Каб знішчыць нуду доўгіх, знерухомленых пячаткамі начных гадзін, запоўніць чымсьці пустку, якую ўтварыла бяздзейнасць мышцаў, перагаворваліся патроху. Інакш цяжка было б ім зносіць холад і цішыню, што панавалі пад агромністым купалам. Кволае аварыйнае асвятленне акрэслівала ў цемры толькі рынг і спляценне чалавечых целаў на ім, густа ўкрытае чырвонымі плямамі пячатак. Апоўначы яшчэ мацней схаладала і на шары выразна праступіла гусіная скура.

Знутры спляцення гучаў голас:

— Пітон, скажы. Калі купец набыў паўтузіна яблыкаў па тры грошы, з іх прадаў два яблыкі па пяць грошай, а рэшту па чатыры, то колькі ён зарабіў?

— Зараз падумаю, але спачатку ты мне адкажы. Ехалі два цягнікі...

— Якія яшчэ цягнікі?

— З пункту А выязджае першы цягнік і едзе сабе, другі выязджае з пункту В і рухаецца яму насустрач. Гэты, з пункту А, мае хуткасць пяцьдзесят тры кіламетры ў гадзіну, а гэты, з пункту В — семдзесят пяць. Праз колькі часу і дзе яны сустрэнуцца, калі адлегласць ад пункту А да пункту В чатырыста восемдзесят кіламетраў?

Самотная цемра запоўніла залу: трапятала вакол рэфлектара і не звяртала ўвагі на шар. А той прамаўляў нешта сам да сябе, шаптаў, спрачаўся аб нечым.

Гадзіны міналі ў цішыні, холадзе цемры. Брыла на рынгу адказвала сама сабе, ледзь чутны, сцішаны голас гучаў глыбока ў яе нетрах, пульсаваў, знікаў, узвышаўся. Краналіся розныя справы, ставіліся пытанні, гучалі адказы, кожным разам больш складаныя. Высока, пад купалам, дзе дах быў са шкла, ужо мігацеў бледны, няпэўны світанак.

— Пітон, што лепей: быць альбо не быць? — загадаў нарэшце Шатан-Мэты.

— Усё залежыць ад таго,— разважна прамовіў на гэта Грос-Пітон,— які ўчынак з'яўляецца больш шляхетным — пераадолець цяжкасці і, нягледзячы на іх, працягваць існаванне ці справакаваць канец, хаця б і з дапамогаю кавалка металу.

— Горш за ўсё няпэўнасць,— кінуў Шатан-Мэты пад бязгучны акампанемент святла, што ўсё адчувальней запаўняла прастору пад купалам.— Бо невядома, што потым. Калі б гэта было вядома, то хто б трываў зняважу ад асоб з кепскім характарам, непашану праваў або бессэнсоўнасць улады.

Усё ніжэй апускалася ранішняе святло, прымушала мізарнець лямпы над рынгам. Настойлівы шэпт Пітона сачыўся з-пад пячатак:

— А вось калі б узяць масу ды ўзвесці яе ў квадрат, а потым — бэнц! — памножыць на хуткасць святла, ну і сталася б тады!..

Але было ўжо за позна. Першыя гледачы з'явіліся ў зале.

**З польскай пераклаў Максім КЛІМКОВІЧ.**

**Сяргей ГАЛАВЕЦКІ**

# ТУПІК

## СПОВЕДЗЬ МАЛАДОГА АРХІТЭКТАРА

Збочваю ў ціхі завулак, праходжу метраў дзвесце, і перада мною паўстае стары занядбаны парк з утульным школьным стадыёнчыкам, на якім хлапчукі ганяюць мяч. Афарбаваны восеньскай лістотаю, ён здаецца асабліва ветлівы. У гэтую ідылічную прыгажосць нясмела, назграбна ўштукоўваецца 4-х павярховы будынак, спраектаваны вопытнай, але нядзёрзкай рукою архітэктара.

Перад шклянымі дзвярыма са сціплым надпісам «Мінскграмадзянпраект» — кветнік без кветак і дзве свежаафарбаваныя лавы. У вестыбюлі ціха і прасторна. Няўважліва пазірае вахцёр з тварам Булата Акуджавы. З ласкавай матчынай усмешкаю прымае гардэробшчыца плашч.

— Не падкажаце? На якім паверсе кабінет дырэктара?

— Трэці паверх, налева.

— Дзякуй.

— Няма за што.

Дырэктарскія дзверы абабітыя прыгожым дэрмацінам. Сакратарка, ведама ж, друкуе на машынцы штосьці тэрміновае.



— Леанід Віктаравіч у сябе? — счытваю з шыльдачкі на дзвярах.

— У сябе.

Акуратна націскаю на чорную ручку, яна такая ж рэспектабельная, як і самі дзверы.

— Дзень добры, можна?

Кабінет абсталяваны проста, без вычварнасці, аднак ёсць у ім нешта ўрачыстае. Напэўна, гэта за кошт роўных радоў пустых крэслаў уздоўж сцен.

З-за стала мне ківае мужчына з дбайна прычасанай сівой фрызураю і бездакорна павязаным гальштукам.

Жэстам рукі ён прапануе мне сесці. На хвілінку я сумеўся, не ведаючы, на якое з чатырох крэслаў сесці. Саджуся на другое.

— Малады архітэктар?

— Ён самы.

Паўза.

— ... Гм... Якая была тэма дыплома?

— Вышынны маналітны будынак як важны горадабудаўнічы акцэнт любога буйнога горада.

— ...Зразумела... Ну і як абараніліся?

— Паспяхова.

— Спорт, грамадская работа?

— Займаўся лёгкай атлетыкай, магу згуляць у футбол, баскетбол. Браў удзел у рабоце студэнцкага тэатра.

— Добра-а-а.. Ну, у нас работа маштабная, аб'екты адказныя, працы шмат, іншы раз прыходзіцца затрымлівацца звышурочна. Аднак, спадзяюся, вы паспяхова ўпішацеся ў рэжым нашага інстытута... Працаваць будзеце ў майстэрні № 2... А зараз зайдзіце ў аддзел кадраў — заўтра на працу. Жадаю поспехаў!

Ён перагнуўся цераз стол і паціснуў мне руку.

Спускаючыся па лесвіцы, прыпыняюся на другім паверсе ля дзвярэй з шыльдачкаю «Начальнік М-2». Можа, зайсці?.. Не... Заўтра... Заўтра... Заўтра!..

...Поўзаю на карачках па доўгім плакаце, раскладзеным на падлозе вестыбюля, заканчваю апошнюю літару «А» ў лозунгу: «Усе сілы, веды і вопыт табе, пяцігодка»... Да плаката падыходзіць група мужчын у рэспектабельных касцюмах. У цішыні вестыбюля іхнія крокі гучаць гулка, як прысуд... Групу дагаляе сухарлявы мужчына ў белым халаце з элегантнай барodкаю. Яго заносіць трохі ўперад, і ён тармозіць ля самага краю плаката. Гэта мой работадавец — галоўны архітэктар майстэрні Фёдар Аўдзеевіч.

Наведнікі моўчкі глядзяць на плакат, а я гляджу на іхнія фізіяноміі. Яны непранікальныя. Адзін, крайні, дастае з кішэні ўчацвёра складзеную газету і нешта звярае.

— Дазвольце, але ж у цытаце не «веды і вопыт», а «вопыт і веды»,— ён водзіць галавою ў розныя бакі, не ведаючы, на чый конт аднесці прэтэнзію — на мой ці на Фёдара Аўдзеевіча. Гэта мая прамашка. Я згубіў паперку з цытатаю і размясціў словы, спадзеючыся на свой розум. Аднак я не спяшаюся пакаяцца і безуважна ваджу наском чаравіка па ўзорах на бетоннай падлозе.



Мал. Генадзя БАНКОВА



— Да заўтра перарабіць,— рэзюміруе мужчына ў цэнтры, звяртаючыся да Фёдара Аўдзеевіча. Пасля гэтага група ў касцюмах разварочваецца і выходзіць.

Фёдар Аўдзеевіч выразна глядзіць на мяне, але ягоная прыродная інтэлігентнасць не дазваляе яму сказаць усё, што ён пра мяне думае.

— Возьмеце ў памочнікі Андрэя,— суха кідае ён і разварочваецца, каб пайсці.

— Тут яшчэ коска патрэбна перад «пяцігодка», заварот,— папраўляюся я.

— Коску пакуль не стаўце,— кажа ён, не азіраючыся, і выходзіць, пакідаючы мяне сам-насам з плакатам.

Сашкрабаю лязом кляксу з чарцяжа. Праца ювелірная. Важна не прадзерці дзірку, хоць клякса і не мая.

«Рып — рып, рып»,— нараджаецца свая мелодыя. Мелодыя ляза і калькі, і яшчэ мая... Да мяне падыходзіць кіраўнік групы Валерый Сямёнавіч. Ён выкладвае перада мною груду калек з чарцяжамі і па-бацькоўску кладзе руку на плячо:

— Вось табе, Сярожа, добрая работа. Рабі і думай пра што-небудзь прыемнае.

Гэта азначае: работа такая тупая, што рабіць яе лепш з ампутаваным мозгам, нават без спіннога. Але спачатку яна... захапляе. Ствараеш уже не мелодыю, а рытм: дыхнуў на штамп — ляпнуў, дыхнуў — ляпнуў...

Але праз дваццаць такіх плескачоў надакучвае, а яшчэ праз пяцьдзесят здаецца, што ніколі не спынішся, аднак чуецца званок на абед і рука падае, як шлагбаум.

Сяджу ў сталовай, ем малочны суп за 5 кап. паўпорцыі. Насупраць мяне — Акцябрын Аркадзьевіч. Неверагодна мілы стары з маляўнічай сівой барадою і такой самай шавялюраю. Але сёння ён чымсьці засмучаны:

— ...Я яму і кажу: «Не трэба мне гэтага месца намесніка начальніка майстэрні. Дайце мне старшага архітэктара са 160 рублямі. У мяне яшчэ мая ветэранская пенсія, мне, старому, хопіць. А працаваць я буду ўдвая лепш, чым раней». А ён мне: «А што ж вы раней удвая лепш не працавалі? Вы ведаеце, я вам не дам старшага архітэктара, а дам проста архітэктара са 115 рублямі».

Уяўляеш, які нягоднік? Ну я яму на 115 руб. і нараблю. Падлюга...

У мяне, між іншым, таксама 115 руб. На малочны суп нарабляю.

Добрасумленна штрыхую зямлю. Перада мною ляжыць груда калек, у якіх трэба нешта заштрыхаваць, нешта падчысціць лязом. Вочы стаміліся, хочацца спаць. Раптам ззаду:

— Ну вось, зноў Сярожа запароў чарцёж.

Гэта Ганна Паўлаўна — жанчына, якая любіць кантраляваць маю работу. Мінулы раз я прадрапаў дзірку ў кальцы, зразаючы чыюсьці кляксу.

— Хіба так па ГОСТу зямлю штрыхуюць?

— А як?

— Як? Як? Тры штрышкі — паўза — тры штрышкі. Час ужо ведаць.

— Адкуль?

— Хіба ў інстытуце не праходзілі?

— Не праходзілі.

— А на «металічных канструкцыях»?

— Там былі фермы, а яны — высока над зямлёю.

— Ну, ведаеш, Сярожа!.. І ўвогуле, справа ў тым, што ты — малады архітэктар, а да работы ставішся абыякава.

— Наўрад ці на белым свеце знойдзецца чалавек, які рабіў бы гэтую работу з вялікім натхненнем.

Ганна Паўлаўна ашарашана круціць галавою, заклікаючы ўсіх абурыцца маёй нахабнасцю. Але ўсе робяць выгляд, што надзвычай заглыбіліся ў чарцяжы.

Я бяру пад паху нейкі рулон і выходжу ў калідор. Трэба даць жанчыне выказацца. У калідоры сутыкаюся з начальнікам майстэрні. Ён, як заўсёды, нечым ці то ўсхваляваны, ці то напалоханы.

— Сярожа, зайдзіце да мяне.

Нічога добрага мне гэта не абяцае.

...Прыехаў у калгас. Адзін. Заходжу ў праўленне. Нікога. Зазіраю ў адны дзверы — нікога, у другія — нікога.

Падымаюся на другі паверх. У прыёмнай сядзіць сакратарка, чытае часопіс.

— Дзень добры.

— Вам чаго?

— З начальства хто-небудзь ёсць?

— Усе ў полі.

— А калі будуць?

— У дзве гадзіны павінен быць парторг.

Гляджу на гадзіннік — пачатак на другую.

За праўленнем стаіць прыбіральня з сілікатнае цэглы. Побач з туалетам — досыць густыя зарасці малін.

Ад няма чаго рабіць пашчыпаў малін.

Без пятнаццаці дзве сяджу на падваконні ў праўленні, махаю нагой. Цішыня. Моўчкі глядзяць на мяне перадавікі вытворчасці з прымружанымі вачыма і бледнымі тварамі. Відаць, што фатограф святла не пашкадаваў. Побач вісяць плакаты, дыяграмы, абавязацельствы. Трохі хвалююся. Наперадзе складаная размова. Але атмасфера супакойвае. За акном прайшоў маленькі дожджык.

Палова трэцяй... Нарэшце пачуліся крокі, і ў дзвярах з'явіўся невысокі брунет з чорнымі вусамі і вясёлым выразам твару. Для парторга, бадай, залішне малады.

— Дзень добры.

— Дзень добры.

— Вось чакаю парторга.

— Гэта я.

— Тады прыбыў да вас механізатарам.

— Выдатна.

— Але механізатарам працаваць не магу.

— Чаму?



— Бо не ўмею вадзіць трактар, дый правоў не маю.

— Што ж. Паставім на іншыя работы.

— Ад іншых работ маю права адмовіцца.

— Як адмовіцца?

— Бо прысланы механізатарам.

— Ну дык якога чорта цябе прыслалі! Едзь, адкуль прыехаў,— нарэшце раззлаваўся парторг.

Разводжу рукамі: «Маўляў, я толькі ахвяра». Ціхенька разварочваюся і выходжу, пакуль ён не перадумаў.

Сяджу — штрыхую зямлю. Тры штрышкі — паўза — тры штрышкі.

Галоўнае — не збіцца з рытму. У дзверы зазірае начальнік майстэрні.

—Сярожа, дапамажы, калі ласка, вынесі смецце з пакоя Фёдара Міхайлавіча.

Заходжу ў пакой: на апушчаным кульмане стаіць шклянка з зубной шчоткаю і пама́тым цюбікам пасты, побач ляжыць паўшакаладкі і надкусаны яблык, у куце пакоя — груда паламаных крэслаў.

— Куды несці?

— Уніз.

— Куды ўніз?

Але начальнік ужо схаваўся за дзвярыма.

Я раззлаваўся і вынес хлам у вестыбюль.

— Ты што гэта? — спытаўся вахцёр з тварам Булата Акуджавы.

— Начальства загадала.

Сяджу — штрыхую зямлю. Званок па тэлефоне. Трубку здымае Валерый Сямёнавіч.

— Гэта цябе, Сярожа.

Я адразу разумею, у чым справа, і спускаюся ў вестыбюль. Вахцёр ужо чакае мяне са зласлівай усмешкаю.

— Ты б яго яшчэ сабе на галаву вываліў,— пачынае ён сваю здзеклівую атаку. Але я напагатове.

— Калі б я вываліў яго сабе на галаву, дык ён бы рассыпаўся з прычыны сваёй няўстойлівасці.

Паўза.

— Ты б яго яшчэ... мне на стол паклаў,— не здаецца вахцёр.

— Калі б начальства загадала пакласці на стол, я паклаў бы на стол.

Бяру смецце і выношу яго ў сутарэнне. Падымаюся па апошнюю партыю хламу. Да мяне падыходзіць вахцёр, асцярожна бярэ мяне за локаць.

— Ну ты гэта, хлопец... Мяне ж яны таксама лаюць...

З разуменнем ківаю. Ціснем адзін аднаму рукі.

...Мы хлопцу жыццё ламаем! — усхвалявана выкрыквае жанчына са стомленым тварам.

— Але калі ён сам хоча, значыцца, трэба адпусціць,— рэзонна пярэчыць Фёдар Аўдзеевіч.

—Не ведаю, не ведаю, не ведаю...— узнервавана бубніць Віталь Андрэевіч. Яму хочацца падпісаць маю заяву. Інстытут чакаюць вялікія скарачэнні. Ён ужо занёс пяро. Але нешта яго стрымлівае.

— Вы ў начальніка аддзела кадраў былі?

— Быў.

— Ну?

— Не пярэчыць.

Пяро з рыпеннем праслізгвае па паперы і, пакінуўшы след закавырыстага піруэта, узлятае ўверх. Я — вольны.

Уладзімір РЭКШАН

спецыяльна
для «Крыніцы»



# КАЙФ-2

Урывак
з амаль дакументальнай
аповесці

*Заканчэнне. Пачатак у № 1.*

— А што гэта азначае?

— Гэта азначае рэдагаванне тэкстаў. Складанне артыкулаў і буклетаў. Што такое Рок-клуб? Дзіцячыя гульні! А тут будзеш жыць па законах Шоу-Бізнесу. А Шоу-Бізнес — гэта вялікія грошы! — сказаў ВЧШБ, а я адказаў:

— Падумаю,— і мы развіталіся, а пасля сталі сустракацца досыць часта, і я спрабаваў пры сустрэчах гнуць сваё:

— Навошта «Музычны Цэнтр Імя Цябе»? Давай лепш назавём цэнтр «Пецярбург». Будзеш перыядычна збіраць стары «СПб». Будзе натуральным існаванне пры ім «СПб-II». А то мяне рокеры забадаюць... Хай раскрутка і пракат новых гуртоў, але... думка!.. можна правесці Паэтычны Семінар. Я ведаю цікавых маладых піітаў. Пазнаёмім іх з музыкантамі...

— Падумаем, падумаем,— адказвае ВЧШБ.

Мы сустракаемся і думаем у розных месцах.

Мы сустракаемся і думаем у царкве, дакладней — у сутарэннях былой царквы, пераўтвораных па законах Шоу-Бізнесу ў незалежную лазню з басейнам, «відыкам» і астатнімі аксесуарамі, што ў кайф.

Сгорблены служка прыносіць фінскае піва ў бляшанках і знікае ў паветры.

А я ўсё разважаю.

А ВЧШБ мне кажа:

— Кароціч, Яўтушэнка, Вазнесенскі... Каго хочаш выпішу. Станем і цябе раскручваць,— а я:

— Калі усё гэта пад рубрыкай «Пецярбург», то ў кайф і «СПб-II», — кажу ў адказ.

А вакол піва двое з адной газеты, адзін адразу з дзвюх студый — жуюць рыбку і адпачываюць.

А круглы руды здаравяк з двума венікамі выскоквае з парылкі, уводзіць ВЧШБ, пасля зноў прыводзіць таго, кладзе на канапу і ламае адмысловым масажам, вяртаючы да жыцця.

— Што ж гэта вы, хлопцы, пра Такога-Сякога ўжо другі артыкул, а пра «Музычны Цэнтр Імя Мяне»?..

Хлопцы адпачываюць, жуюць, а праз тыдзень у прэсе з'яўляецца артыкул...

I вось афішы на восеньскіх сценах.

Розныя аб'явы на сцяне крытага стадыёну і афішы «СПб-II».

Вялікі Карзінін і Выдатны Зайцаў Мікіта дапытваюцца:

— Гэта што такое? Гэта ты, ці што?

— Не-а,— лёгкая ўсмешка і лёгкая перавага.

Але ж трэба праслухаць і «СПб-II» з Музычнага Цэнтра «Пецярбург», і я крочу ў залу, дзе ўжо сядзяць новыя дурыкі, што прыйшлі за бацькоўскія грошы, каб слухаць фанаграмы зусім «Ласкавага маю».

«Ага,— думаю,— «СПб-II» будзе перад імі размінаць публіку». «СПб» выбягаюць на сцэну і даволі скавана (хвалююцца!) выяўляюць экстаз у «паўметале», а пасля гучыць лірыка, з якой запамінаю толькі словы: «Русские... Русские...»

Што ж — фанабэрыстая думка,— даволі прыстойныя валасата-аздобленыя хлопцы, граюць няблага. Але куды ім да сапраўднага кайфу!

Так і думаю месяц, а праз месяц «СПб» з рускімі круцяць у «До и после полуночи», потым «Взгляд» і недзе яшчэ ў Маскве, а на мяне насядаюць рокеры, а рок-дылетант таксама нападае, і ўсё адно і тое ж несправядлівае:

— Як жа ж? Прадаў ідэю, гісторыю ленроку! Трэба рабіць нешта! — а я:

— Так ад МЦ «Пецярбург» хай «СПб-II»,— апраўдваюся, а мне:

— «Два» ужо няма ў афішах, і цэнтра «Пецярбург» няма, але ёсць «Цэнтр Імя Яго» — вымаўляюць, дый жонка, гледзячы з камунальнай кухні ў акно, за якім пачалася гнілая зіма, кажа:

— Пайшлі ты іх усіх як мага далей.

Гляджу на жонку, што глядзіць у акно, за якім гнілая зіма, і адказваю:

— А дзіцятка? А ты? Пойдзеш працаваць у ліцейны цэх, ці што?

А дзіцятка бегае побач і глядзіць на мяне, а я гляджу на жонку, што глядзіць у акно, за якім гнілая зіма, і так весела:

— Тата-мама — бі-бі. Тата-мама — бі-бі.

— Дык вось,— гляджу на ўсё разам.— Нічога я не прадаў. Калі яны жадаюць мець моднага пісьменніка, хай плоцяць.

— Добра,— згаджаецца.— Хай плоцяць.

Дарэчы, з грашыма разабраліся элементарна: на паперы атрымліваю як малады інжынер, а зверху, без папер, каб выходзіла як у Генеральнага Дырэктара.

Рок-дылетант спрабуе абараніць у «Вячорцы»: «... мне вельмі цікава — як цяперашнія музыкі «СПб-II» не саромеюцца выступаць пад чужымі імёнамі? Справа ж не ў папулярнасці старой групы... Уявім на хвілінку, што мы ўбачым на экране новы гурт пад назвай «БІТЛЗ».

Але цягнік, падобна на тое, ужо пайшоў, і я самаабараняюся прыдуманымі тэзісамі: а) калі новы «СПб» стане выдатным гуртом, то мне будзе прыемна, што іх нешта зніт́оўвае са мною; б) калі новы «СПб» не стане выдатным гуртом (я і думаю так), то мне будзе прыемна, што стары «СПб» на фіг не пераплюнеш, і мы назаўсёды прыжыліся ў гісторыі айчыннай рок-музыкі.

Тым часам у «Музычным Цэнтры Імя Яго» я старанна займаюся align лухтою.





**РЭКШАН і ЗАЙЦАЎ.** Фота Наташы ВАСІЛЬЕВАЙ (*Ленінград*)

ВЧШБ плавае ў басейне пасля пацення:

— У «Пецярбурга» аналаг «Бон Джоўі»,— кажа, а я ўспамінаю: «Так, бачыў кліп, такія ж кудзеры ў саліста, нават мікрафонная стойка і сам мікрафон аднолькавыя».— Возьмем іншы аналаг — «Статус Кво». У мяне новы бэнд на раскрутку пойдзе — «Пасажыры». Зробіш ім пару тэкстаў па аналагах.

— Ес, іт із,— адказваю і забіраю касету з запісам «Статус Кво», а назаўтра сустракаюся з «Пасажырамі». Нармальна — маладыя, вясёлыя такія хлапчукі.

Сяджу, пішу, ламаю галаву над «Статус Кво», каб задаволіць Шоу-Бізнес. Думаеце, проста нанізваць рускую фразу на кароткую англійскую? Цяжка! Галоўнае — дакладна сфастрыгаваць прыпеў.

«Нам надо быть сильней! Надо быть сильней! Надо быть! Надо быть сильней!» — прапяваю ў соты раз, і «Статус Пасажыры» гатовыя. Яны запускаюцца у зборных праграмах, маладыя, вясёлыя...

ВЧШБ кажа мне зноў у лазні (за паўгода жыцця ў «Шоу-Бізнесе» я намыўся):

— Ёсць штатаўскі аналаг «Чорнага і белага». I ёсць наш мулат. Трымай касету. Трэба збацаць некалькі тэкстаў.

— Ес, іт із,— адказваю і забіраю касету са штатаўскай музыкай, а назаўтра сустракаюся з хлопцамі. Класны гурт збіраецца, думаю, класныя хлопцы.

Ламаю галаву. У запеве заканчваецца «ін зэ ўайт» — перакладаем па-руску «называй». Цяжка, але збіваю ў прымітыўны сэнс. Але прыпеў — гэта рэп, гэта шмат слоў, гэта значыцца, чортава колькасць слоў на тэму «чорнае і белае». Выклікаю на дапамогу паэта Геху Грыгор'ева. А што — профі! Геха бегае па літаратурным буфеце са шклянкаю кефіру і спрабуе працаваць у стылі «штатаўскі рэп», але спецыфіка тут іншая, і ў выніку усё ж такі атрымліваецца ў мяне, і нават, што ж, не без палёту, не без фантазіі, а некаторыя радкі я проста люблю і нават памятаю.

Напрыклад: «Белеет парус одинокий в Черного моря мгле». Ці: «Черные очи страстные очень в белом лице вдвойне». Ці яшчэ лепш: «В черном смокинге и в белых ботинках блондинку любит брюнет».

Вось і зусім класіка: «В черной комнате, в черном гробу лежит в белых тапочках враг!»

Душу, аднак, выварочвае. Есць, значыцца, душа. Шкада юнацтва і сяброў, што прайшлі праз юнацтва, як праз строй.

Па дамове іду ў Сур'ёзную Газету і па дамове ж задаю пад выглядам чытача пытанне: «Ці праўда, што «Санкт-Пецярбург-II» (укруціў усё ж такі «двойку») будзе выступаць у Сан-Рэма?» — і сам адказваю, што, маўляў, не ясна, не дакладна, але ёсць шанц, і пра далейшае паведамім. Такая мярзотная рэклама, але ў душы — кака!

Разважаем з ВЧШБ пра Рок-клуб, і я кажу: «У цябе рэпутацыя хрэновая», а ВЧШБ нервуецца:

— Што Рок-клуб! Я любога куплю! Калі рокер будзе ведаць, што за канцэрт гарантавана трыццаць рублёў, калі яго жонка і дзеці будуць ведаць, тады я і пагляджу, што яны заспяваюць пра рок-ідэю. Яны будуць у мяне — вось дзе!

... Добра, адпачываю і пішу, быццам вынік, рэкламныя старонкі на гурты для іншаземнага карыстання.

«... Цяжкая, гарадская рок-балада, якую грае пяцёрка музыкаў. Барочная вытанчанасць кампазіцый і іміджу, разлічаная строгасць аранжыроўкі, радасны тэнар саліста, натуральнасць сцэнічнае раўнавагі — усё гэта гаворыць пра вялікія магчымасці «Санкт-Пецярбурга...»

«...Сваім рокам «Эверэст» звяртаецца не да асобы, а да Чалавецтва, Сусвету, Бога... Лепшыя песні гучаць, як голас Прарока...»

«Гэтыя энергічныя хлопцы трывала стаяць на зямлі, яны ведаюць, чаго жадаюць і як дасягнуць мэты... «Нам надо быть сильней!» — паўтаралі музыкі з «Пасажыраў», і ўдача ўсміхнулася ім... Гэтыя музыкі з тае пароды людзей, якія нават не ведаюць, як адказаць: «так» ці «не» — і адказваюць «так»...

— Што вы любіце больш за ўсё?

— Так! — адказваюць «Пасажыры».— Мы любім перабудову, публічнасць і англійскі гурт «Статус Кво».

У ВЧШБ з'явіліся яшчэ два гурты, але праспекты трэба было рыхтаваць тэрмінова, а іхнюю музыку я не чуў, і таму напісаў такую прыгожую хлусню, што другія асобнікі проста парваў, каб не бачыць і забыць. Але ВЧШБ спадабалася, і я яшчэ раз атрымаў зарплату Генеральнага Дырэктара.

А потым усе з'ехалі на гастролі з нейкім зусім «Ласкавым маем», і мне было лягчэй сысці па-англійску.

* * *

Што ж, маюць рацыю Распуцін і Бялоў, якія ненавідзяць рок, бо ненавідзяць яны не рок, а яго сурагат. Дзе было ім даведацца пра рок-класіку і палюбіць яе? Але сурагат ёсць і ў літаратуры, дзе яго стае пад завязку.

А з пісьменнікам (гэта для ВЧШБ) змагацца складана, нават нельга, яго можна толькі забіць. Хаця і гэта не жарт — вунь, зусім «Ласкавы май» стаў амаль сіцылійскай каморай.

Досыць, аднак, гаварыць пра тое, што не каштуе столькі слоў. Рок — гэта вялікая музыка, і разам з ёй мы прайшлі складанае, але шчаслівае жыццё.

**Падрыхтаваў і пераклаў**
**на беларускую мову**
**Уладзіслаў АХРОМЕНКА.**

# ПРАГНОЗ НА СМЕРЦЬ

Валерый ЛАПІН

## 1. ТУЗІН ПЕРШЫХ

Поўную гарантыю таго, што вы яшчэ не інфіцыраваны новым і непераможным пакуль што вірусам, можна атрымаць, ведама ж, адно ў дактароў.

А дактароў цяпер цікавяць пераважна людзі з «групы рызыкі». Таму сярэднестатыстычны малады чалавек ніякіх спецыяльных праверак не праходзіць і самому гэтаму факту вельмі рады.

— Мною не цікавяцца. Значыцца, у мяне ўсё о'кэй.

Медыцына вымушана супакойваць нас сваёй бяздзейнасцю, бо на сапраўды эфектыўныя прафілактычныя дзеянні ў яе няма ні сілы, ні сродкаў.

Досыць верагодна, што носьбітаў віруса СНІД на Беларусі зусім не 12, як паведамілі мне ў Рэспубліканскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі.

Гэта толькі выяўлена — 12, а калі гэтую лічбу памножыць хоць бы на дзесяць — дык і тады (як на думку многіх спецыялістаў, добра знаёмых з праблемамі наркаманіі, прастытуцыі, гомасексуалізму і інфекцыйных захворванняў, стаматалогіі, донарства, хірургіі, сексалогіі і г. д.) мы атрымаем больш праўдзівае, ды ўсё ж дужа прыблізнае ўяўленне пра сапраўдныя маштабы атакі «чумы XX стагоддзя» на рэспубліку.

Сёння ў друку перыядычна з'яўляюцца звесткі па СССР і па астатнім свеце аб распаўсюджванні захворванняў сіндромам набытага імунадэфіцыту. Нашыя лічбы тут «сціплыя», калі параўноўваць з США ці з Францыяй. Менавіта таму пры публікацыі падобных аналізаў нам даюць падставу супакоіцца і ўзбадзёрыцца: Савецкі Саюз, маўляў, аднесены Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя (СААЗ) да «трэцяе групы» краін, да так званае «групы найменшае рызыкі».

Гэта вельмі абнадзейвае.

У Мінску зарэгістравана 1000 прастытутак. Не ведаю, колькі іх у Парыжы, але дакладна вядома — прэзерватывы там ёсць. У любой аптэцы, у любы час дня і ночы. Зрэшты, калі недзе далёка СНІД знаходзіць свой «пажыўны булён» у прытонах і на хвалях дзіўнае пакуль што для нас «свабоды нораваў», дык савецкі вірус пойдзе (і ідзе!) іншым шляхам. Тое, што здарылася ў Элісце і Валгаградзе, наводзіць на думку: людзі ў белых халатах могуць стаць актыўнымі распаўсюджвальнікамі новае эпідэміі. А дэфіцыт медыцынскіх інструментаў аднаразовага выкарыстання, экзатычныя, як на погляд усяго свету, метады і ўмовы лячэння хворых плюс непахісная безадказнасць і дзікая галеча, якія пануюць у нашых клініках,— усё гэта можа дужа дапамагчы збыцца прагнозам СААЗ, аптымістычным у дачыненні да 1/6 часткі сушы Зямлі. Тым больш, што дадзеныя, згодна з якімі нашую краіну далучылі да «трэцяе групы», бралі і давалі ў СААЗ, мяркую, мы самі.

Колькі ўжо разоў родная дзяржава незразумела каго падманвала! З войскамі ў Егіпце, з рэактарам у Чарнобылі, з нітратамі ў гароднiне... Тым больш сёння — у час, калі казаць праўду не грэх — добра было б сумленна побач з лічбамі «вакол СНІДу» публікаваць і лічбы, якія тлумачаць, чаму многія з нашых дактароў у любы момант могуць стаць злачынцамі. Ну, напрыклад, чаму б не паведаміць грамадскасці:

— Дактары аддзяленняў артапедычнай стаматалогіі атрымліваюць за год толькі... 20—24 дыскі на адточку зубоў. Поўная стэрылізацыя дыскаў не дасягаецца! Трэба столькі ж дыскаў, колькі пацыентаў. А пацыентаў — сотні. У кожнага стаматолага. І не за год нават — за квартал.

Такая кароткая інфармацыя цяпер нашмат важнейшая нам, чым грувасткія артыкулы з загалоўкамі тыпу «Хвароба маральнасці». Што, дзеці ў Калмыкіі былі амаральныя?

А калі ўжо ўсур'ёз гаварыць пра маральнасць, дык трэба пачынаць з таго, што зусім амаральна прымушаць дактароў рызыкаваць жыццём сваіх пацыентаў.

Спытайцеся сёння ў любога сумленнага стаматолага, і ён вам растлумачыць:

— У нас усе асноўныя інструменты стопрацэнтнай стэрылізацыі не паддаюцца. Апынецца ў крэсле носьбіт віруса — наступных пацыентаў я заражу неадменна. І мяне будуць судзіць. Тут — або звальняцца трэба (а што ад гэтага зменіцца?!.), або дамагацца, каб у нас нарэшце з'явіліся ў неабходнае колькасці (лепш за ўсё — аднаразовага выкарыстання) боры і шпрыцы, пульпаэкстрактары і абразіўныя матэрыялы. Бо ж эндадантычны інструментарый павінен быць стэрыльны! І дамагаемся — дамагаемся нармалёвых умоў працы, але пакуль што нічога не мяняецца, праўда, абяцанні ёсць...

Гэта мы паслухалі стаматолага. А колькі дактароў іншых спецыяльнасцей (хірургі, акушэры, гінеколагі і г. д.) баяцца сёння не столькі нават лаўкі падсудных, колькі — стаць віноўнікамі чыіхсьці смерцяў, стаць «саюзнікамі» віруса і захварэць самім, заразіць сваю сям'ю.

## II. СНІД НЕ ЖАРТУЕ

Цяпер, калі мы ведаем, што папраўляць здароўе ў бальніцах і клініках стала не зусім бяспечна для жыцця, вельмі карысна запытацца:

— А дзе ж яшчэ ў досыць маральнага чалавека можа адбыцца сустрэча са СНІДам? Пры якіх акалічнасцях?

Я зараз пакіну ў спакоі камароў, клапоў і іншых крывасмокаў. Хоць некаторыя спецыялісты па СНІДу — даводзілася чуць — ужо дапускаюць «чыста тэарэтычную» магчымасць заражэння, якое можа адбыцца ў лесе альбо, напрыклад, у якойсьці трэцяразраднай гасцініцы, не асабліва спешчанай увагаю санэпідэмстанцыі.

Добра, з камарамі і клапамі ваюють ва ўсім свеце. Не будзем адракацца, лепш пацікавімся: а чаму гэта на Захадзе ў аптэчках вадзіцеляў цяпер абавязкова павінны быць гумовыя пальчаткі? І чаму нашыя шафёры баяцца адправіцца ў рэйс без ёду і кравастынальнага жгута, аднак ні пра якія амаль хірургічныя пальчаткі ў сваіх аптэчках і не чулі?

Усё вельмі проста.

На дарогах здараюцца аварыі. Сур'ёзная аварыя — гэта кроў, гэта першая дапамога, якую здзяйсняюць не дактары, а хутчэй за ўсё вадзіцелі альбо іхнія пасажыры.

Людзі могуць (пры ўратаванні параненых) парэзаць аб шкло рукі і... Вось таму ў аптэчках і павінны мецца пальчаткі.

А ў нас пальчатак у аўтамабілях няма. Бо не хапае іх нават бальніцам.

А нашыя дзіцячыя садочкі, дзе пірке робяць адной і той жа вострай стальной пласцінкаю тысячам дзяцей? Праўда, пласцінку стэрылізуюць у спірце. Але спірт СНІДу амаль як звычайная вада.

Тут можна згадаць яшчэ некалькі падобных прыкладаў. Прыкладаў, якія ясна паказваюць: яшчэ невядома, хто — дактары ці людзі з «групы рызыкі» стануць лепшымі «саюзнікамі» СНІДу, што — дэфіцыт чыстага кахання ў грамадстве альбо дэфіцыт медыцынскага інструментарыя — стане самым надзейным «праваднiком» жахлівае інфекцыі.

Асуджаных на смерць носьбітаў віруса СНІДу будзе ўсё болей і болей. Знікла надзея на тое, што хоць бы адзінкі з іх не захварэюць і не памруць ад «чумы XX стагоддзя».

Паводле даных СААЗ кожную хвіліну рэгіструецца новы выпадак безнадзейнага захворвання. На аснове гэтага факта робіцца прагноз:

— Да 2 000 года, калі ў самы бліжэйшы час не будзе знойдзены радыкальны сродак барацьбы са СНІДам, колькасць толькі хворых (а не носьбітаў віруса!) дасягне 5—10 мільёнаў чалавек.

Па сутнасці, самой прыродаю нам аб'яўлена вайна. Як гэта здарылася, яшчэ невядома. Нешта кажуць пра вынікі выпрабаванняў ядзернае зброі, забруджвання навакольнага асяроддзя, афрыканскіх малпаў і саміх неграў (якія больш за ўсіх пакутуюць ад эпідэміі)... Але, у рэспубліку эпідэмію СНІДу «імпартавалі» студэнты-замежнікі і нашыя былыя камандзіраваныя за мяжу спецыялісты.

Ну і што зараз? Вярнуць упушчаную магчымасць кантролю, змяніць нешта ўжо нельга.

Зараз можна толькі добраахвотна і вельмі разумна займацца прафілактычнымі мерамі. Але гэтага няма. Дакладней, эфектыўнасць і накіраванасць такіх мераў выклікаюць шмат пытанняў.

Напрыклад, некаторыя заходнія дактары настойваюць на тым, што ўсе асобы, якія маглі быць інфіцыраваныя нават 8—10 гадоў назад, абавязкова павінны прайсці праверку.

У рэспубліцы такіх шырокіх праверак ніхто не практыкуе. А патрэбныя яны? Неабходныя. Чаму — растлумачу. У большасці універсітэцкіх і іншых інтэрнатах усе сямідзесятыя гады жылі побач студэнты-замежнікі і нашыя, савецкія. Студэнты і студэнткі ў 18—25 гадоў. Той самы ўзрост, калі пяць ці шэсць гадоў чакання дыплома, «сапраўднага жыцця» здаюцца велізарным тэрмінам. А калі яшчэ і каханне? Няхай на кароткі час, аднак...

Але трэба прызнаць: студэнцкія «оператрады» нашмат часцей, чым дзяўчат — будучых спецыялістаў, праводзілі сярод ночы з пакояў прадстаўнікоў свабодалюбівае Афрыкі дачок афіцэраў, афіцыянтак, звычайных прастытутак.

Дзе яны цяпер усе?



И. Савченко '89

Асабіста я ведаю лёс толькі аднае. Тая, якую затрымліваў дзесьці на поўдні маёр міліцыі Мікалай Сцяпанавіч Рафальскі. Выпадак досыць вядомы ў Мінску. Дзяўчына ў ложку забіла свайго цёмнаскурага сябра. За здраду.

А хто дасць гарантыю, што з месцаў зняволення пасля 3—8 гадоў, праведзеных за кратамі, выходзяць цяпер здаровыя людзі, хоць у мінулым яны і «калоліся», і пры тым мелі прытоны і ведалі каля «інтурыстаўскіх» гатэляў кожны куточак? Ніхто не дасць ніякае гарантыі.

У прыгарадзе Мінска — Бараўлянах ёсць інстытут удасканальвання дактароў, дзе вучыць калег пісьменна «даваць бой» СНІДу выдатны спецыяліст — практык і вучоны Сяргей Георгіевіч Маслоўскі. Гэты чалавек некалькі гадоў працаваў у Афганістане, дапамагаў там людзям абараняцца ад усялякіх інфекцыйных захворванняў. А там іх — процьма...

Я спытаў ў яго:

— У Афганістане вы процістаялі хваробам «брудных рук». Цяпер займаецеся праблемаю «чумы XX стагоддзя». Дзе ў нас не будзе СНІДу?

— Лекаў ад невылечнае хваробы нам чакаць яшчэ доўга. Нейкія крокі наперад ёсць, але да перамогі вельмі далёка. Таму рэальныя «контрнаступы» на эпідэмію чакаюцца ў бліжэйшы час там, дзе працуюць выдатна падрыхтаваныя дактары, дзе няма асаблівага дэфіцыту лекаў і інструментаў, дзе насельніцтва навучыцца пазбягаць заражэння.

## III. «СЕКСУАЛЬНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ» АДМЯНЯЕЦЦА?

Паводле ўсіх прагнозаў пік эпідэміі СНІДу прыйдзецца на першае дзесяцігоддзе трэцяга тысячагоддзя.

Апошнія дзесяць гадоў XX стагоддзя мы будзем жыць усё больш баючыся непераможнага віруса.

Але наш страх будзе адрозніваццa ад страху Захаду.

У нас спакваля разгортваецца той працэс, які 20 гадоў назад «там» назвалі «сексуальнай рэвалюцыяй».

У гэтым наша бяда. Бо побач падымуцца два «пікі»: эпідэміі і «свабоды паводзін».

«Сексуальная рэвалюцыя» ўжо дзесьці побач. Яе раскаты чутныя, прыкметы — відавочныя.

Але «рэвалюцыі» можа і не быць. Калі мы неадкладна не возьмемся за тое, за што ўзяліся адразу пасля такіх «рэвалюцый» разумныя галовы найбагацейшых краін.

А яны заняліся палавым выхаваннем дзяцей, давялі да каласальна нізкага ўзроўню колькасць абортаў, размежавалі такія паняцці, як «секс», «эротыка» і «парнаграфія».

Яны «дазволілі» сабе зразумець, што людзі ў 16, 20, 30, 40 і 60 гадоў — розныя людзі. Розныя ў адносінах да інтымнага жыцця, жанчыны, сям'і...

У нас чамусьці існуюць толькі тры ўзроставыя мяжы:

— з 16 гадоў ідзі і глядзі любое кіно;

— з 18 гадоў можаш жаніцца;

— з 21 года станавіся ў чаргу па гарэлку.

Пры гэтым тэма культуры палавых зносін (як, зрэшты, і культуры піцця) нават і не прапануецца маладым людзям на абмеркаванне, з мэтаю выпрацоўкі ўласных адносін да яе.

А «сексуальная рэвалюцыя» ў Еўропе і ў ЗША была, па-сутнасці, менавіта пратэстам маладых супраць двудушша «маралі бацькоў»... Няўжо гэта наш рок — заўсёды вучыцца толькі на ўласных памылках і ігнараваць веды суседзяў? Хоць і ў нас жа ў дваццатыя гады (з якімі публіцысты цяпер часта параўноўваюць канец васьмідзесятых) былі «нефармальныя» рухі «Далоў сорам!» і «Далоў нявіннасць!»...

Ні СНІД, ні прастытуцыю, ні аборты школьніц адмяніць нельга. Але можна наладзіць выпуск аднаразовых (не толькі шпрыцаў!) медыцынскіх інструментаў, можна зацікавіць прадпрыемствы ў вырабе не толькі «тавараў для народа», але і «тавараў для забеспячэння здароўя народа». Якіх менавіта? Розных! Ад процізачаткавых сродкаў і айчынных дыскаў на абточку зубоў да веласіпедаў. А пакуль у нас абмяркоўваюцца толькі «валютныя» шпрыцы ды кантроль донарскае крыві.

Ні «здрады» сужэнцаў, ні «дашлюбныя сувязі» адмяніць нельга. Але можна дужа многае зрабіць дзеля таго, каб людзі не паміралі ад свайго невуцтва, ад няведання.

І нядбайнасць, абыякавасць у медыцыне таксама адмяніць нельга. Але можна не толькі апладзіраваць, напрыклад, доктару Фёдараву, а галоўнае — вучыцца ў МІТК «Мікрахірургія вока». Вучыцца прафесіяналізму, адказнасці, рэалізму жыцця.

# ЦІ МОЖА ЧАС КЛАСЦІСЯ НА ЗЯМЛЮ?

## ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТАЎ МІНСКІХ АЎТАРАЎ-ВЫКАНАЎЦАЎ



### АНАТОЛЬ

— А развітальную вячэру нам зладзілі ў рэстаране на Эйфелевай вежы.

Я ахнуў. Нават не спытаўся, што ім у рэстаране тым падавалі: узбітае суфле, запечанае ў духоўцы? Крабаў з маянэзам і сырам? Якая розніца, калі — у Парыжы! Калі — на Эйфелевай вежы!

За паўгода да гэтае размовы, у золкім снежні 1988-га сядзелі з Анатолем Длускім у ягонай творчай лабараторыі — маленькім пакойчыку інтэрната работнікаў культуры. Анатоль расказваў пра калектыў з гучнай назваю «Сэйф-пасаж», з якім вось-вось мусіў выехаць на гастролі. Не ў Францыю, зусім нават у другі бок свету — туды, дзе назвы Амур і Ціхі акіян успрымаюцца гэтаксама ж будзённа, як у нас Свіслач, ці, скажам, Браслаўскія азёры. І не было ў Анатолевым голасе ні энтузіязму, ні натхнення. І не таму што турнэ па малаабжытых мясцінах Далёкага Усходу — гэта не прагулка па Елісейскіх палях (пра тое, што гэта стане мажлівым, ён тады і не падазраваў). Дамоклавым мячом вісеў над толькі што створаным калектывам фінансавы план. А план — гэта значыць таропка арганізаваны гастрольны «чос», амаль без якойсьці рэкламы, без нармальных умоў адпачынку і рэпетыцый.

Сумная атрымалася ў нас гутарка. Вось каб ён меў свой тэатр! Ну няхай не тэатр нават — спектакль, створаны з разлікам на ягоныя творчыя мажлівасці. Спектакль, іграючы які, яму хацелася б кожнага разу паміраць на сцэне. Ужо ёсць песні ў такі спектакль — ён браў гітару і спяваў мне свае новыя работы. І быў зусім не падобны на таго апантанага, заваднога Анатоля Длускага, якога я ўпершыню ўбачыў на сцэне аднаго мінскага палаца культуры ў 85-ым.

Тады ён хутка заваяваў глядацкую ўвагу. Ягоныя эфектныя, надзвычай тэмпераментныя выступы як найлепш супалі з атмасфераю ўнутранага разнявольвання, што зацвярджалася тады ў грамадстве. Прыхільніцы закідвалі яго запіскамі з натрабаваннямі неадкладна распавесці, хто ён такі і адкуль узяўся, падазраючы, відавочна, што смуглявы твар і кучаравая чорная шавялюра нясуць у сабе тайну экзатычнага паходжання. Даўсі ахвотна тлумачыў, што так, сапраўды, мама ў яго італійскае крыві, тата — француз, а сам ён родам з мястэчка з дзіўным назовам Тучу. І ўсё роўна як пацвярджаючы гэта, выконваў баладу на французскай, дэманструючы «фірмовы парыжскі» прынонс. Пасля такога дывертысменту не адразу верылася, што ніякі ён «не Жан, не Бельмандо, не Поль...», і што мястэчка Тучу знаходзіцца пад старажытным горадам Нясвіж — там «не Жан, не Поль» пражыў усё сваё дзяцінства, адно да заканчэння сярэдняе школы і паступлення ў мінскі тэатральна-мастацкі інстытут.

З тэатрамі яму, актору па прафесіі, не шанцавала. Ні лялечны, дзе ён працаваў адразу пасля заканчэння інстытута, ні маладзёжны, куды перабраўся з лялечнага, не ўлічвалі спецыфікі ягонага таленту, у якім акцёрскі пачатак актыўна дапаўняецца імкненнем выказаць сябе ў песні. Тэатры, дзе ён служыў, не давалі яму, маладому чалавеку, які адчуваў ап'яненне моцным уплывам Высоцкага, аніякае мажлівасці раскрыцца.

І тады ён пайшоў у філармонію, у той самы калектыў з амаль што французскай назваю «Сэйф-пасаж». Ідэя стварыць на прафесійнай эстрадзе нешта накшталт сатырычнага тэатра-шоу памерла, аднак, ледзь паспеўшы з'явіцца на свет: гнаць план і адначасна займацца творчай працаю Анатоль не ўмеў. І не хацеў.

Думаю, з яго выйшаў бы адмысловы эстрадны артыст — такі, якога нам цяпер дужа не хапае. Ён мог бы добра спяваць пад акампанемент эстраднага калектыву. І мецъ поспех. Адзін-адзінюткі зроблены сумесна з аркестрам запіс, пракручаны па радыё, адразу прыцягнуў да сябе ўвагу слухачоў, абагнаўшы па папулярнасці работы многіх рок-калектываў...

Цяпер Анатоль Длускі — артыст мінскага тэатра сатыры і гумару «Хрыстафор». На сцэне «Хрыстафора» ўжо прыжыліся героі ягонага «Маналога сучаснага мешчаніна» і шэрагу іншых сатырычных работ. Прыжывуцца, напэўна, і сур'ёзныя лірыка-драматычныя балады. Анатоль на гэта вельмі разлічвае, рыхтуе ў тэатры спецыяльную праграму.

... А ў Францыю ён ездзіў удзельнікам фестывалю французска-савецкае моладзі. Шмат спяваў там, праўда, пераважна ў невялікіх сяброўскіх кампаніях. Вельмі задаволены тым, як прымалі ягоныя песні. А што, раптам калі-небудзь і ягоны хрыплаваты барытон загучыць у Парыжы са сцэны канцэртнае залы — калі ўжо не знакамітае «Алімпіі», дык хоць бы «Бабіно»! Чаго на свеце не бывае, га?..

### БАРЫС

Па натуры Барыс Вайханскі — чалавек мяккі, не прабіўны. І песні піша адпаведныя — задуменныя, лірычныя, толькі зрэдку прыпраўляючы некаторыя з іх неззласлівым гумарам. Наватарскія пошукі, якія сатрасаюць жанр апошнія гады, як і ўсялякія модныя тэмы, яго не натхняюць. Яму больш даспадобы заставацца традыцыяналістам, нават рызыкуючы пры гэтым здацца старамодным новаму пакаленню слухачоў.

Адсутнасць прабіўных якасцей не перашкодзіла яму, аднак, першым з мінскіх аўтараў-выканаўцаў выпусціць пласцінку на фірме «Мелодия» (як, зрэшты, і ўзысці за дзесяць гадоў да таго на вышэйшую прыступку ганаровага п'едэсталу найпрэстыжнейшага ў краіне Грушынскага фестывалю аўтарскае песні).

Выхад пласцінкі, першай і ўсё яшчэ адзінай у дыскаграфіі мінскіх бардаў, некаторыя расцанілі як факт настолькі неверагодны, што яму адразу ж было дадзена дастутнае тлумачэнне: лапа! Што і тлумачыць: прафесійныя артысты ледзь-ледзь на фірму грамзапісу прабіваюцца (дый тое далёка не ўсе), а тут — самадзейны аўтар! Ніякае лапы, інакш кажучы, рукі, і ў паміне не было. Ні вялікай, ні маленькай. Пашчасціла — што ж, напэўна. А вось рукі не было. Кажу пра гэта ўпэўнена, бо за працэсам нараджэння пласцінкі назіраў з пачатку і да канца.

У сярэдзіне васьмідзесятых «Мелодия» звярнула ўсё ж свой погляд не толькі на рок, але і на аўтарскую песню. Пачалі выходзіць пласцінкі маскоўскіх бардаў, ленінградскіх... Аўтараў і выканаўцаў з Мінска гэтае хваля ўпарта абыходзіла. Як на погляд міністэрства культуры рэспублікі, што давала заяўкі на фірму «Мелодия», дык жанра аўтарскае песні проста не было. Што заставалася рабіць у такой сітуацыі? Толькі адно: паспрабаваць праявіць ініцыятыву «знізу».

На адным круглым стале з удзелам работнікаў культурнага фронту настырныя журналісты выклалі перад міністрам культуры рэспублікі (цяпер былым)



буклет пра Вайханскага, выдадзены... ў Душанбэ (на той час Барыс быў адным з найактыўнейшых у канцэртнай дзейнасці аўтараў-выканаўцаў). Натуральна, прагучала і пытанне: раз нашых аўтараў прызнаюць далёка за межамі рэспублікі, ці ёмка не зважаць на іх дома? Эфект быў што трэба: Вайханскага ўключылі ў заяўку на «Мелодию».

Пласцінка выйшла ў канцы 89-га. Дзіўна, але на тое, каб яе запісаць і выпусціць у свет, фірме грамзапісу спатрэбілася ў тры разы меней часу, чым пайшло на ўзгадненне па інстанцыях. Так што, шаноўныя аўтары і выканаўцы, запасайцеся цярпеннем!

У стыхію аўтарскае песні Барыс акунуўся ў перыяд яе найвышэйшага росквіту, звязанага з імёнамі бардаў першага пакалення. Не буду іх пералічваць — іх і так усе ведаюць. Моцны ўплыў зрабілі на яго работы Булата Акуджавы і Аляксандра Дольскага. Барыс лёгка ўпісаўся ў лірыка-драматычны струмень жанра і дагэтуль ён у яго любімы. Пласцінка якраз і дае досыць поўнае ўяўленне аб гэтай, асноўнай, грані ягонай творчае манеры. Есць, праўда, на ёй работы іншага плану — тэатральныя, створаныя па матывах камедыі Гогаля «Рэвізор». Тэатральных песень, дарэчы, у Барыса назбіралася досыць шмат — апошнія гады яго часта запрашаюць папрацаваць у тэатры. Апроч іх, ёсць у ягоным рэпертуары песні проста жартаўлівыя, уключаныя ў канцэртныя праграмы дзеля разрадкі. Адна з іх — пра няўдаліцу-школьніка, якога так дапяклі настаўніцкія рэкамендацыі, што ён рызыкнуў трохі пафантазіраваць: вось каб завесці яму ручную змяю ды прыцягнуць у школу, ды напалохаць ёю надакучлівых настаўнікаў. Немудрагелістая гэтая балада ў свой час даставіла Барысу багата клопату. На нейкай нарадзе, у самым канцы застойнага перыяду, песенька пра змяю была прызнана грубым антыпедагагічным выпадам, які кідае цень на цнатліва-светлае аблічча савецкае сярэдняе школы. У выніку чаго ставілася пад сумненне і маральнае аблічча аўтара.

Зала ад душы смяецца, калі Барыс расказвае на канцэртах гэтую непрыдуманую гісторыю. Самому ж яму было тады зусім не да смеху. Як зрэшты, і многім ягоным братам па жанры. Ці шмат насмяешся, калі на кожнае прамоўленае табою са сцэны слова патрабаваўся афіцыйны дазвол, змацаваны пячаткаю?

Доўгі час яму прыходзілася сумяшчаць творчую дзейнасць з працаю па асноўнай спецыяльнасці, быць адзіным у рэспубліцы спеваком-рэвізорам (так што зварот да Гогаля зусім не выпадковасць!), да таго ж яшчэ, ён працаваў у Міністэрстве фінансаў рэспублікі. Пасля выхаду пласцінкі Барыс пакінуў рэвізорскую пасаду, перайшоў на творчую працу.

Цяпер ён проста піша песні. Разам з жонкаю Галінаю выступае з канцэртамі. Марыць выпусціць другі аўтарскі дыск і зборнік вершаў. Думаю, што выпусціць. Цярпення, ва ўсякім разе, у яго на гэта хопіць.

### АРЦЁМ

Арцём Цялегін яшчэ малады. Гэта галоўны ягоны недахоп. Калі б ён нарадзіўся гадоў на дзесяць-пятнаццаць раней — мы б, мажліва, ганарыліся цяпер не толькі хрэстаматыйна-бездакорнымі «Песнярамі», але і ўласнаю «Машынаю часу». Ці, скажам «Акварыумам».

На жаль, Арцём нарадзіўся, калі і Макарэвіч, і Грабеншчыкоў ужо пакаштавалі першыя кісла-салодкія плады нефармальнае папулярнасці. За спазненне прыходзіцца расплачвацца: арэол падпольнае славы наўрад ці «асвеціць» ягоную галаву. Хіба што час паверне назад і зноў вынесе рок, а разам з ім і аўтарскую песню за рысу афіцыйнага прызнання.

Аднак не дай бог! Няхай ужо лепш Арцём паходзіць без ззяння вакол сваёй расчасанай пад бітніка шасцідзесятых шавялюры, чым здарыцца такое!

Сам ён, аднак, лічыць, што, нягледзячы на эпоху перабудовы і галоснасці, час бесканфліктных песень яшчэ не прыйшоў. Есць яшчэ з кім і з чым ваявацъ. І Арцём вые:

Забавная площадь.  
Булыжник. Картины.  
Все в радужном свете.  
Гуляют кретины.

Зрэшты, такая эпатажная прамалінейнасць ягоных першых работ цяпер усё часцей замяняецца іншасказам, абагульнена-абстрактнымі характарыстыкамі вобразаў. Яго хваліое, што людзі, якія выдаюць сябе за герояў, далёка не заўсёды з'яўляюцца такімі на самай справе.

Но красная кровь  
на левом плече —  
Вовсе не след твоих ран.  
Ты просто пиджак того надел,  
кто вчера пошел на таран.

Скептычны погляд на рэчаіснасць не азначае, што Арцём — закончаны песіміст. Ці можна лічыць песімістам чалавека, які здзяйсняе адкрыцці, нават «лічачы пліткі ў тэатральнай прыбіральні»? І хто — песіміст ці аптыміст — здольны пераканана верыць у тое, што абавязкова павінен знайсціся чалавек, вельмі ў табе зацікаўлены, які жадае зрабіць з цябе зорку — на карысць сабе і на радасць гледачам?



У кішэнях Арцёма гуляе вецер — у дваццаць гадоў гэта вельмі рамантычна, хоць і прыносіць пэўныя нязручнасці. Затое ў ягонай галаве заўсёды паўнютка ідэй. Ён — дзіця горада, і па-за гарадскім антуражам я проста не магу яго ўявіць. Зразумела, куды і адкуль ён рухаецца, часам бывае так няпроста, як і ўлавіць цячэнне думак пад ягонай хіповай прычоскаю.

— Паслухай,— кажа ён.— А што калі я паспрабую запісаць чатыры папсовыя рэчы? Не рок, а менавіта папсу? Есць хлопцы, ёсць інструменты. Аранжыроўкі — класныя. Гэта будзе лепш за «Ласкавы май». Калі выпусціць пласцінку, яе будуць рваць з прылаўкаў. Варта паспрабаваць, га?

Яму вельмі хочацца працаваць прафесійна. Але на гэта патрэбны вопытныя дарадца, менеджэр — рэальны, не ўяўны. Які змог бы паставіць яму голас. Дзе ён, гэты менеджэр-дарадца?

Мне вельмі хочацца дапамагчы Арцёму ў пошуках. Я набіраю тэлефонны нумар чалавека, які сабаку з'еў (і не аднаго) на прафесійнае эстрадзе. І нават паспеў засняць на ёй сваю фабрыку зорак.

— Цялегін? — чуецца ў трубцы ласкавы тэнар.— Цікава працуе? Ну няхай падыдзе, з задавальненнем паслухаю.

Праслухоўванне заканчваецца поўным трыумфам Арцёма: столькі кампліментаў за раз яму яшчэ выслухоўваць не даводзілася. Але... работы яму на фабрыцы зорак пакуль няма. І ў бліжэйшае будучыні — на жаль! — не прадбачыцца. Прафесійнай эстрадзе не патрэбныя рамантыкі. Звычайная гісторыя: калісь ёй было і не да тых, хто цяпер — яе гонар. Так што не адчайвайся, Арцём!

Арцём і не адчайваецца. Ён верыць, што песні, у якіх

время ложится на землю,  
когда у него заплетаются ноги  
и рядом нет никого,

патрэбныя гледачу. Ён правільна робіць, што верыць. Інакш наўрад ці здолееш працаваць самааддана, без аглядкі. А калі працуеш так, што-небудзь пэўна атрымаецца.

Яму, маладому яшчэ зусім чалавеку, які ўступіў у дарослае жыццё без усялякае страхоўкі — у выглядзе нармальнае прафесіі ці, скажам, пастаяннага месца працы — вельмі важна быць пачутым.

...Пачуем?..

Фота А. ШЧУКІНА

# ЦЯЖКА ЗАСТАЦЦА САМІМ САБОЮ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на 2-й стар. вокладкі.*





вых катэгорый. Карціна можа падабацца альбо не, каларыт ці манера мастака могуць закранаць альбо пакідаць абыякавым, аднак нешта галоўнае ўсё ж ляжыць глыбей — у меры шчырасці аўтара, у асабістай выпакутаванасці гэтае пластычнае манеры. Пра такіх, як Тарасевіч, у XIX стагоддзі казалі: гэта жывапісец з тэндэнцыяй. Тэндэнцыя гэтая — старая як свет: вучыцца ў прыроды. Прырода заўжды была адпраўной кропкаю рэалізму, такой застаецца яна і дагэтуль — лічыць Тарасевіч. Так, ён мяркуе, што ў аснове ягонае методы ляжыць рэалістычнае спазнанне свету, і спачатку гэта можа здацца, мякка кажучы, дзіўным. Рэаліст, але не копііст (капіравальшчык) прыроды. Ен піша толькі тое, што бачыць побач — дрэвы, траву, птушак з наваколля Валілаў (вёсцы, дзе ён жыве), і горы, мора — тое, што бачыў у паездках. Іншая справа, што ўбачанае ў прыродзе на сваіх карцінах ён зводзіць да знака, вобраза, сімвала. Часта прыходзілася чуць ля ягоных карцін: «Пэцканіна, так і дзіця зможа». Я думаю, параўнанне з дзіцячым малюнкам не выпадковае. Дзіцячы малюнак — ідэальны: суцэльная гармонія — і няма ніякіх







праблем у выкананні задуманага, няма «пакутаў творчасці». Дзеці малююць, як птушкі спяваюць, і ў геаметрычнасці нанесеных Тарасевічам ліній ёсць нешта дзіцячае, ёсць дзіцячае бачанне свету, можа, штосьці ад гульні ў крыжыкінулікі. Але заўсёды гэта высокі прафесіяналізм. Хаця б таму, што даросламу, каб выказаць складаную думку ці лаканічную, ёмістую ідэю, няхай нават анекдот, трэба добра валодаць той моваю, якою ён карыстаецца. У Тарасевіча гэтая ідэя чытаецца выразна. Лёнік кажа: «Мы ведаем залішне шмат, каб думаць так, як думае дзіця, і нам застаецца адно шкадаваць аб гэтым. Мы часта не разумеем сэнсу дзіцячых работ, значыцца, нешта мы незваротна страцілі, а шкада».

Піша ён лёгка і хутка, можа, з боку здаецца, што задужа хутка і лёгка. І, тым часам, вельмі важна, што Тарасевіч здольны на доўгае творчае напружанне, інакш кажучы, умее засяроджана працаваць над карцінаю, падсумоўваючы мноства асобных разрозненых уражанняў.

Узлёт ягоны быў імклівы. Толькі закончыўшы ў 1984-ым годзе Варшаўскую Акадэмію мастацтваў, ён атрымлівае запрашэнне выставіцца ў сусветна вядомай польскай галерэі «Роксаль». Галерэя разаслала рэпрадукцыі ягоных работ сваім партнёрам у розныя краіны... і пасыпаліся запрашэнні. Аднак шлях да прызнання не быў лёгкі. Лёніку давялося на сябе адчуць дзейнічанне прынцыпу «В своем отечестве пророков нет». Лёнік лічыць гэта тыпова славянскай рысаю. Што ж, яму ёсць з чым параўноўваць. Доўгім было неразуменне — і спецыялісты сумняваліся, ці жыццяздольнае гэтае мастацтва сёння, людзям уласцівы гістарычны скепсіс. Але Тарасевічу пашэнціла, ягонае бачанне жыцця і прыроды нібыта вачыма прачалавека стала ў наш урбанізаваны, тэхнічны век блізкае і патрэбнае іншым людзям.

Лёнік просты і натуральны ў кантакце. Падкупляюць ягоныя адкрытасць і шчырасць. Ужо з першых хвілін размовы з ім трапляеш у палон ягонае абаяльнасці. Тыповы «вясковы» беларус. Есць у ім штосьці ад Несцеркі, аднак Несцеркі з глыбінёю філасофскіх меркаванняў. У сябе на бацькаўшчыне, на Беласточчыне, ён адзін з лідэраў беларускага маладзёжнага руху, штатны мастак часопіса «Сустрэчы», шмат працуе ў тыднёвіку «Ніва». Шмат ездзіць па свеце. Я раптам падумаў: што было б, не скажы тады, пасля вайны, Сталін сваёй сумна вядомае фразы: «Панцелеймон, подари!»? Не ўступіў бы першы сакратар ЦК КПБ і не трапіла б Беласточчына разам з болей чым 500 тысячамі беларусаў у склад Польшчы — і як тады б склаўся лёс мастака Тарасевіча?

Я закончыў інстытут у адзін год з Лёнікам. Заканчваўся перыяд застою, пад ціскам догмаў і формул знікалі з мастацтва рэшткі жыватворнае свежасці. У той час як Лёнік, адкрыўшы выставу, гуляў па ўзбярэжнай Стакгольма, у Мінску чыноўнікі з крыкам «Хіба гэта мастацтва!» гналі ў карак авангардыстаў з іхнімі карцінамі па ўзбярэжнай Свіслачы.

Цяпер шмат што мяняецца.

Якія планы ў яго сёння? На гэтае пытанне пакуль адказу няма.

Бо сапраўдны мастак там, дзе яго яшчэ няма.

Фота Яўгена СКУРАТОВІЧА

















# НАШЫ РАДАСЦЬ І ПРАБЛЕМЫ

На пачатку сёлетняга навучальнага года ў Рускай Праваслаўнай Царкве падвоілася колькасць духоўных семінарый: да трох ранейшых — Маскоўскай, Ленінградскай, Адэскай — далучыліся яшчэ тры: Мінская, Кіеўская і Табольская.

Мінская духоўная семінарыя, захаваўшы ў сваёй назве імя беларускае сталіцы, знаходзіцца ў сценах Жыровіцкага Свята-Успенскага манастыра, які на працягу некалькіх стагоддзяў быў асяродкам царкоўнага жыцця беларусаў.

Традыцыя духоўнае адукацыі пры Жыровіцкім манастыры пачынаецца ад школы для сялянскіх дзяцей, што існавала тут на пачатку XVI стагоддзя. У XVII—XVIII стст. пры Жыровіцкім базыльянскім манастыры працавала філасофская школа. У 1828 годзе тут пачала сваю дзейнасць духоўная семінарыя, вядомая ў гістарычнай літаратуры пад назваю Літоўскай (у той час Жыровіцкі манастыр быў цэнтрам вялікай Літоўскай уніяцкай епархіі). Пасля 1839 года, калі уніяты былі вернутыя ва ўлонне Праваслаўнае Царквы, Літоўская семінарыя, ужо праваслаўная, працягвала рыхтаваць служыцеляў алтара. У 1845 годзе Літоўская семінарыя разам з епархіяльным упраўленнем была пераведзена ў Вільню, дзе існавала да 1947 года.

А ў Жыровіцкім манастыры на базе мінскіх пастырскіх курсаў, арганізаваных на год раней, пачала працу Мінская духоўная семінарыя. Да канца пяцідзесятых яна функцыянавала нармальна, даючы штогод новае папаўненне свяшчэннаслужыцеляў.

З канца 50-х гадоў у савецкім кіраўніцтве сталі дамінаваць валюнтарысцкія тэндэнцыі. У паветры лунала ідэя хуткае пабудовы камунізму, пры якім рэлігія не павінна мець месца. У канцы пяцідзесятых — пачатку шасцідзесятых улады ўсімі сіламі прымушалі Царкву адміраць. Паменшылася колькасць дзейных храмаў, многія з іх прыйшлі ў запусценне. У той самы час сваю дзейнасць спынілі пяць з васьмі семінарый нашай Царквы, у тым ліку Мінская (у 1963 годзе). У тыя ж семінарыі, што засталіся, набор быў абмежаваны, і ў наступныя дзесяцігоддзі архірэі вымушаныя былі высвячваць асоб, якія не мелі багаслоўскай адукацыі. Гэта, безумоўна, негатыўна ўплывала на ўсё царкоўнае жыццё.

Адроджаная ў 1989 годзе, Мінская духоўная семінарыя ставіць сабе за мэту падрыхтоўку адукаваных праваслаўных свяшчэннаслужыцеляў, якія добра ведаюць праваслаўнае веравучэнне, богаслужэбны статут і літургічныя традыцыі Царквы, знаёмыя з каталіцкім і пратэстанцкім багаслоўем, з асноўнымі палажэннямі веравучэнняў нехрысціянскіх рэлігій. Мы хочам бачыць у нашых студэнтах глыбокую веру, цвёрды хрысціянскі светапогляд, высокую духоўнасць, царкоўную набожнасць, чалавечнасць і патрыятызм.

У гэтым навучальным годзе ў семінарыі займаюцца 40 вучняў. Палавіна з іх прыехалі да нас з Расіі і Украіны. Яны вывучаюць восем прадметаў: біблейскую гісторыю (8 гадзін на тыдзень), катэхізіс (6 гадзін), літургіку (6 гадзін), гісторыю Рускае Царквы (2 гадзіны), царкоўныя спевы (6 гадзін), царкоўнаславянскую мову (4 гадзіны), беларускую мову (2 гадзіны) і рускую мову (2 гадзіны). Юнакі, якія скончылі школу не на Беларусі і не знаёмыя з нашаю мовай, вывучаюць яе па асобнай праграме.

У наступныя гады нашы студэнты будуць вывучаць Біблію, дагматычнае багаслоўе, асноўнае багаслоўе, параўнальнае багаслоўе, маральнае багаслоўе, практычнае кіраўніцтва для пастыраў, сектазнаўства, замежную, лацінскую і старажытнагрэчаскую мовы. Мы плануем таксама ўвесці двухгадовы курс гісторыі хрысціянства на Беларусі.

Балючым пытаннем для семінарыі з'яўляецца бібліятэка. Нам вельмі патрэбная царкоўная літаратура, а яна ў нашай краіне амаль не выдаецца. Застаецца спадзявацца, што ў некаторых дзяржаўных бібліятэках рэспублікі захаваліся дарэвалюцыйныя выданні рэлігійнай літаратуры і яны будуць перададзеныя семінарыі, як гэта зрабіла нядаўна галоўная бібліятэка краіны, перадаўшы больш як пяцьдзесят тысяч дарэвалюцыйных царкоўных выданняў Маскоўскай духоўнай акадэміі.

Варта жалю, што ў семінарскай бібліятэцы няма ніводнае кнігі царкоўнага зместу на беларускай мове. Калі ў Расіі і на Украіне на працягу пасляваенных дзесяцігоддзяў рэгулярна выдаваліся, хоць і абмежаваным тыражом, царкоўныя часопісы і календары, было колькі выданняў Бібліі, Новага Запавету і праваслаўнага малітваслова, дык на Беларусі за ўсе гады Савецкае ўлады не з'явілася ніводнага царкоўнага выдання. Сёння перад намі стаіць задача выпрацаваць беларускую царкоўна-багаслоўскую тэрміналогію. У сувязі з гэтым мы былі б вельмі радыя атрымаць ад беларусаў, якія жывуць на Захадзе, іх царкоўныя выданні на роднай мове.

Есць у семінарыі і праблемы побытавага характару. Памяшканняў, у якіх яна цяпер размяшчаецца, ледзь хапае для 40 вучняў, а трэба ж улічыць, што на працягу трох гадоў колькасць выхаванцаў будзе павялічвацца. Трэба паскорыць працэс вяртання семінарыі некалі забраных у яе будынкаў.

Наша семінарыя пакуль што не прымацаваная да гандлёвае базы, як гэта зроблена ў Маскоўскай, Ленінградскай і Адэскай семінарыях. Эканом манастыра вымушаны пастаянна шукаць прадукты ў магазінах.

Выклікае неўразуменне здыманне дзяржавай падаткаў са стыпендый нашых вучняў. Агульнавядома, што даходы ўсіх савецкіх грамадзянаў, якія не перавышаюць 70 рублёў на месяц, не падлягаюць абкладанню падаткамі. Але для вучняў духоўнае семінарыі робіцца выключэнне: штомесяц, атрымліваючы 15-ці рублёвую стыпендыю, яны выплочваюць 22 капейкі падаходнага падатку і, калі не ўзялі шлюб, 90 капеек падатку на халасцякоў. Чаму падаткі са сваёй стыпендыі не ўносяць у казну студэнты дзяржаўных навучальных установ?

Вельмі здзіўляе і сістэма абкладання падаткамі выкладчыкаў. Падатак вылічваецца з сумы гадавога даходу, якую атрымліваюць шляхам множання месячнага акладу на дванаццаць, і выплочваецца кожны квартал. Напрыклад, пры штомесячным акладзе 250 рублёў квартальны падатак складае 235 руб. 35 кап. Гэта значыць, што практычна трэцяя частка заробку выкладчыка ідзе ў дзяржаўны бюджэт. Ен, выяўляецца, большы даўжнік перад дзяржаваю, чым школьны настаўнік, чым выкладчык тэхнікума, ВНУ. Інакш, як дыскрымінацыйнай, гэтую сістэму абкладання падаткамі не назавеш. Дарэчы, у Эстонскай ССР яна ўжо скасаваная. Там паводле рашэння ўрада асобы, якія працуюць у рэлігійных установах, ураўнаныя ў правах з усімі астатнімі грамадзянамі.

Такі сёння стан спраў у Мінскай духоўнай семінарыі. Аднаўленне яе дзейнасці — падзея надзвычайнай важнасці: ад гэтага часу святароў для беларускіх праваслаўных прыходаў будуць рыхтаваць без адрыву ад роднае зямлі, роднае мовы і культуры.

**Святар Сергій ГАРДУН,**
**сакратар Мінскай духоўнай семінарыі**








«Рок для Арменіі». Пад гэтым дэвізам у Вялікабрытаніі выдадзены дыск, зборы ад продажу якога паступяць у фонд дапамогі ахвярам армянскага землятрусу 1988 года. Назва пласцінкі — «Дым над вадою», па загалоўнай песні ўсяго альбома, дыппаплаўскага суперхіта 70-х. Выканаўцы — зборная каманда эліты брытанскага року: Дэвід Гілмар, Рычы Блэкмар, Пол Роджэрс, Кіт Эмерсан, Брус Дыкенсан, Роберт Тэйлар...

Легендарны гітарыст групы «Кінг Крымсан» Роберт Фрып прыступіў да запісу новага дыску.

Лідэр «Айран Мэйдэн» Брус Дыкенсан выказаў жаданне наведаць з гастролямі Савецкі Саюз. Дыкенсан лічыць, што пасля зняцця «жалезнае заслоны» і наведвання СССР «жалезнай лэдзі» Маргарэт Тэтчэр настаў час «жалезнае дзевы» — менавіта так перакладаецца назва ягонай групы.

«Куін» прыступілі да працы над чарговым альбомам. Мяркуецца, што запісваццa ён будзе ў Швейцарыі.

Зорка папулярнае музыкі Ольвія Ньютан-Джон наведала Лацінскую Амерыку, дзе прыняла ўдзел у здымках чатырохсерыйнага фільма бразільскага тэлебачання, прысвечанага праблемам аховы трапічных лясоў. Ольвія, якую даўно хвалююць пытанні аховы прыроды, з'яўляецца членам лос-анжэлескай экалагічнай арганізацыі «ЭКО», у якую ўваходзяць пісьменнікі, сцэнарысты, мастакі і музыканты. Нядаўна Камітэт па ахове навакольнага асяроддзя выбраў поп-зорку сваім ганаровым членам.

«Ламбада» — так называецца самы папулярны за апошнія месяцы танцавальны еўрахіт у выкананні бразільскае групы поп-музыкі «Калма». У лістападзе мінулага года спецыяльны хіт-парад танцавальнае музыкі аб'явіў «Ламбаду» «каралеваю дыскатэк».

У кастрычніку 1989 года выйшаў у свет новы альбом Кейт Буш. Дыск, названы «Пачуццёвы свет», досыць незвычайны і ў музычным і ў тэкставым планах. У якасці музычных інструментаў, апрача традыцыйных, выкарыстаны званы, скрыпка, бузукі (грэчаскі народны музычны інструмент) і нават гук біча. Тэксты «Пачуццёвага свету» навеяны матывамі рамана Джэймса Джойса «Уліс». Тры тыдні запар дыск трымаўся на першых месцах лонданскіх хіт-парадаў, і толькі ў канцы лістапада апусціўся з 3-га месца на 12-ае.

Падрыхтаваў
Уладзімір КВЯТКОВІЧ.



Сяргей ДУБАВЕЦ

# ХТО ТАМ?

Гутарка пойдзе не пра смерць эрцгерцага Фердынанда ці расстрэл радыёактыўных аблокаў, не пра завароты рэк, кішок і мазгоў, не пра тэрарыстаў, наркаманаў, рокераў і прастытутак, а пра маладую беларускую літаратуру... Ці ж не праўда, апошнія тры словы выглядаюць у пералічаным шэрагу тэм надзвычай цнатліва і недарэчна? Маладая беларуская літаратура... Між тым, некаторыя аўтары аб'ядноўваюць і замацоўваюць гэты шэраг адным таўром — «нефармалы» ці, як кажуць недасведчаныя людзі,— «ненармалы».

Прызнаюся, мне ёсць што сказаць і пра прастытутак. І я скажу, хоць бы дзеля таго, каб яшчэ больш узмацніць кантраст і падкрэсліць цнатлівасць выразу «маладая беларуская літаратура».

У 1928 годзе ў часопісе «Беларуская мэдычная думка» нехта А. Н. Шапіра змясціў артыкул «Прастытуцыя ў БССР і за мяжой», дзе прыводзіцца такая статыстыка:

На 1 жніўня 1889 г. у межах Менскай, Магілёўскай ды Віцебскай губэрняў зарэгістравана 430 прастытутак. Гэта 8 прастытутак на кожныя 100 тысяч насельніцтва. Адпаведна па гарадах: Менск — 65, Віцебск — 53, Бабруйск — 37, Гомель — 22, Слуцак — 12, Полацак — 8, Быхаў — 8, Рагачоў — 7. З іх 50,5 % — мясцовыя. Сацыяльнае паходжанне: з сялян — 26 %, з дваран — 2,8 %, з купецтва — 2,3 %, з мяшчан — 64 %, з салдатак — 4,7 %, іншыя — 0,2 %. Цяпер параўнаем.

У 1927 годзе прастытутак зарэгістравана 342. Гэта ўжо 7 на кожныя 100 тысяч насельніцтва. Адпаведна па акругах: Менская — 70, Магілёўская — 67, Бабруйская — 49, Гомельская — 42, Віцебская — 42, Аршанская — 37, Мазырская — 6, Полацкая — 29. Асноўная характарыстыка: малады век, беднасць сем'яў, нізкі культурны ўзровень і недастасаванасць да працы...

На жаль, у мяне няма сучаснае статыстыкі, бо сённяшніх прастытутак ніхто, здаецца, не рэгіструе, адно пішуць паўсюль, што іх вельмі шмат.

Але вернемся да ёгаў... да дадаізму... да індуктыўнае метады раскрыцця злачынстваў... Не. Да маладой беларускай літаратуры. Гэтая тэма — як лязо. Настолькі вузкая і вострая, што, ідучы, абавязкова закранеш чыю-небудзь асобу. Таму я ўвесь час і саслізгваю з яе на такія тэмы, пра якія яна не піша і ў якіх сённяшні журналіст пачуваецца ўпэўнена і бяспечна.

Наогул беларускія пісьменнікі жывуць досыць ізаляваным літаратурным жыццём, і іхнія выступы ў школах ды бібліятэках толькі падкрэсліваюць гэтую ізаляванасць.

Беларускія пісьменнікі не прадаюцца. З гэтай прычыны можна шкадаваць (маўляў, нікому не патрэбныя), а можна і ганарыцца (маўляў,— не матэрыял для статыстыкі А. Н. Шапіры).

Беларускія пісьменнікі маюць мізэрныя наклады. У часопісе — да 10 тысяч, у кніжцы — дзве ці пяць тысяч. Гэта 1 часопіс на кожную тысячу насельніцтва БССР (для параўнання: 1 «Огонек» прыпадае на кожных 90 жыхароў СССР) і 2—5 кніжак на кожныя 10 тысяч. Без уліку таго, што большая частка гэтай літаратуры ідзе ў бібліятэкі і ў макулатуру. Словам, публікавацца пабеларуску сёння — амаль тое самае, што пісаць «у стол».

Магчыма, сярод старэйшых пісьменнікаў ёсць і больш спрыяльная статыстыка, але наша гутарка — пра маладых.

Хто гэта такія? Каб адказаць, адной сучаснай статыстыкі мала, нават калі б яна й была. Тут трэба ўбачыць структуру літаратурнага працэсу, правесці тэарэтычную экспертызу і зрабіць крытычную інтэрпрэтацыю кожнага, каму засвярбела пяро ў руках. А мы ў такія гушчары яшчэ не лазілі. У нас комплекс анамаліі, «сям'і адзінай». Як бы мы ні казалі пра сябе — нацыянальная літаратура! ці — традыцыі і наватарства! ці — дасягненні, дасягненні! ці — планетарны кантэкст! ці — пад знакам высокага гуманізму! — усе гэтыя словы аб'ектыўна застаюцца толькі загалоўкамі матэрыялаў сямейнай насценгазеты, аўтары, рэдактары і выдаўцы якой — бабуля, дзядуля, тата, мама і мы з братам. Да таго ж кожны з нас у гэтай газеце чытае толькі тое, што напісаў сам. Так атрымліваецца. Мы ніколі не станем аналізаваць адно аднога. Хіба што цётка Клава, калі зойдзе, дык скажа, чый матэрыял лепшы і без памылак. Але — заўважце — яна ўжо чалавек з іншай сям'і, з сям'і дзядзькі Валодзі, хоць і аднога з намі роду.

У «сям'і адзінай» беларускіх літаратараў ёсць і яшчэ адна асаблівасць, якая не дазваляе ім грунтоўна высветліць, хто ёсць хто. Справа ў тым, што наша «сям'я» нейкім парадаксальным чынам належыць да групы рызыкі... Бачыце, навошта мне ў пачатку давялося ўзмацняць кантраст? Ужо зносіць у аналогіі...

Беларускі пісьменнік піша з аглядкай. Ен ад пачатку ўпэўнены, што ён не Бальзак і не Габрыэла Містраль. Але — тс-с-с! Пра гэта гаварыць не прынята. Бо тады адразу разбураецца ілюзія, імя якой: «сучасная беларуская літаратура». Разбураецца хоць бы ўжо таму, што гэтая літаратура абсалютна стратная і выходзіць на грошы, якія беларускія выдавецтвы зарабляюць на масавых рускамоўных выданнях таго ж Бальзака, Гамсуна ці Набокава... А самае галоўнае, што беларуская літаратура стратная наўмысна! Есць выключэнні — Караткевіч, напрыклад, ці Быкаў. Але не могуць жа ўсе пісаць на такім узроўні, дый навошта ім гэта, калі і так усё нармалёва: выдавецкая палітыка, кнігі, літаратура, чытач — гэта ўсё, вядома, ілюзорнае, затое ганарары — сапраўдныя! А пачніся заўтра гасразлік, рэалістычная выдавецкая палітыка, давядзецца дыферэнцыраваць, і ў сённяш-

нім шэрагу роўных, у «сям'і адзінай» апынуцца і таленты і нездары. Ну як гэта сказаць тату, што ён зноў прынёс у насценгазету нецікавы артыкул? Гэта ж наш тата, родны... Усім — па цукерцы, а тату, значыцца,— не?..

Між тым, сапраўдны талент — гэта толькі палова з'явы, ці нават менш. Яму неабходныя: крытычнае забеспячэнне, інтэрпрэтацыя і месца ў табліцы элементарных часціц беларускай і агульнай літаратуры, каб было відаць — хто там? — самабытны творца з новым словам ці звычайны эпігон. Без усяго гэтага сапраўдны талент — як адкрыты кадзілак у саракаградусны мароз — прастудны і недарэчны.

Дык што ж такое малады творца? На маю думку, узрост тут ні пры чым. Пакаленне — таксама. Напрыклад, 35-гадовы М. Мятліцкі, лаўрэат камсамольскай прэміі БССР за паэзію, бачыцца мне ў адным пакаленні з ветэранамі Н. Гілевічам ці І. Чыгрынавым, а 42-гадовы А. Разанаў... Ягонае пакаленне, магчыма, яшчэ не прыйшло. А. Бембелю 50, але свой ён сярод 20-гадовых, і шмат хто (ад бескультур'я, вядома) называе яго на «ты»...

Літаратура не дзеліцца па ўзросце: на старых і маладых. Яна дзеліцца на таленты і графаманаў. Вось таленты якраз і асацыююцца з азначэннем «маладыя», а графаманы наогул не маюць узросту. Таму пра графаманаў, а таксама пра канфармістаў, эпігонаў і «масавых» — якіх маса — паэтаў я распавядаць не буду.

Такім чынам, сучасны малады беларускі літаратар — гэта творца, які стаў не фактам, але з'явай літаратурнага жыцця, але не атрымаў афіцыйнага прызнання, не памёр і не трапіў у школьны падручнік, г. зн. не кананізаваны.

Гэта як у войску. Салдат, які не дазваляе здзекавацца з сябе цынічнаму «дзеду», дзембелю, сяржанту і афіцэру, а калі сам даслужвае да «дзеда», не здзекуецца з «маладых» і трымаецца з імі нароўні, усе два гады ў вачах камандзіра застаецца натурыстым салагам. Выслуга, чын і званне маюць сваю вартасць толькі для графаманаў. Таленты групуюцца паводле поглядаў і адчуванняў, а найчасцей увогуле сядзяць па адным.

Сяржанты ўрэшце звыкаюцца, што гэтыя «малады дзед» парушае іхні «закон», не ганяе салагаў, але ўсё адно лічаць яго чужаком у сваёй кампаніі. Яны тут — яркія асобы — збіраюцца ў зямляцтвы, у сваю «сям'ю адзіную», пільнуюцца ранжыру, але, вышэйшы па дзембель, некуды прападаюць, быццам іх і не было ніколі. А той самотнік, інтэлігенцік, застаецца асобай і ў цывільнай вопратцы. Тое самае адбываецца і ў асяроддзі літаратараў, калі за дзембель прыняць фізічную смерць творцы.

Яшчэ гадоў 10 таму Саюз пісьменнікаў Беларусі не мог і думкі дапусціць, што ў літаратуру цекалі прыйдзе такая шматаблічная і адукаваная змена, якая прыходзіць сёння. Памятаю, як у тагачасным друку маладога паэта хвалілі за тое, што ён добра валодае беларускай мовай. Тады, у канцы 70-х, капітаны СП узялі курс на дно (пасля нас хоць патоп!) і, не бачачы, не жадаючы бачыць вартых пераемнікаў, кінуліся актыўна выдаваць уласныя кніжкі, цешачы сябе зямнымі дабротамі. Яны вырашылі, што раз ужо наканавана ім стаць апошняй кропкай у нацыянальнай літаратуры, дык трэба стаць тлустай кропкай. Візуальна тлустай, вядома, а не якасна.

Што ж, іхні прагматычны песімізм меў пад сабой падставы, хоць і даводзілася ахвяраваць такімі асобамі, як Міхась Стральцоў, Алесь Разанаў ці Алесь Наўроцкі і яшчэ сёй-той. Іх пашальмоўвалі ў друку, высылалі ў правінцыю. Яны былі выродкамі ў «сям'і адзінай».

Тым часам усё вакол, без чаго не можа існаваць і развівацца літаратура — мова, традыцыі, гістарычная памяць, культура — усё выміраля. Каб спыніць гэты працэс, трэба было ахвяраваць сабой, а гэта зусім няпроста. Асабліва калі ты бязбедна і ўвогуле забяспечана жывеш, маеш сям'ю і сякую-такую вядомасць. Нашы капітаны — учарашнія вяскоўцы, заваёўнікі горада — на першае месца (і гэта заканамерна) заўсёды ставілі ўласны побыт. Ужо іхнія дзеці — месцічы ў другім пакаленні — будуць прыўлашчваць горад духоўна, за што бацькі не раз папракнуць іх адрывам ад нацыянальна-этнаграфічных каранёў.

У той час, пра які я кажу, дзяцей яшчэ не было. Яны не прадбачыліся. І першай нечаканасцю для СП стаў Лявон Галубовіч. Вясковы электрык, таленавіты ад прыроды. Што рабіць? Вырашылі ўпісаць Галубовіча ў сваю кропку. Так і быць, няхай будзе «беларускі Рубцоў», «последний поэт деревни» (на тое, што беларускіх паэтаў можа даць горад, яны ўжо не спадзяваліся), «лебядзіная песня»... Ажно Галубовіч паехаў у Маскву вучыцца, а да ўсяго яшчэ кінуў піць. Словам, «выміраць» ён не збіраўся. Чым, дарэчы, парушаў планы капітанаў, паводле якіх гэткі талент мусіць паціху співацца ў сваім Вароніне.

Капітанам падабаўся ціхі будаўнічок Віктар Шніп, які з торбачкай вершаў хадзіў па рэдакцыях і сціпла прапаноўваў свой тавар. Бралі. Свой хлопец. Не ведаю, чаму, але такіх аднолькава любяць і ў мяшчанскіх сем'ях, і ў групах рызыкі. Такі, як кажуць, муху не пакрыўдзіць, а галоўнае, ніколі не будзе выстаўляцца перад табой ні розумам, ні спрытам. Наадварот, ён дэманстратыўна шэры.

Ажно пазней Шніп таксама заняўся вучобай і хутка разабраўся, што беларускія літаратурныя адміралы — зусім не апошнія ў свеце паэтычныя аўтарытэты. І Шніпа пагнала ў рост. Магчыма, за ягоную нізку вершаў у «Крыніцы» (№ 6 за 1989) гадоў 10 таму яго б моцна ўдарылі ў друку, а то й выгналі б з СП. Бо гэта таленавітая нізка. Можа, Шніп і стаў тым «апошнім беларускім паэтам», які зразумеў, што ён не апошні...

Але пра што я казаў? Ага. Галубовіч з'ехаў у Маскву. Сталічны майдан нацыянальнае літаратуры захоўваў спакой, і капітаны маглі ратаваць свой курс на дно. Не надта ім хацелася саступаць свае частыя пазіцыі ў выдавецкіх тэмпланах дзеля няпрошанай змены. Вось чаму змена тым часам набіралася моцы на правінцыі і далёка за межамі Бацькаўшчыны.

У Наваполацку, дзякуючы намаганням Уладзіміра Арлова, гісторыка па адукацыі, які хутка прайшоў стадыю наследвання Караткевічу і стаў пісаць па-сутнасці белетрызаваныя нарысы пра падзеі і асобаў беларускае мінуўшчыны,— дзякуючы яму ўзнікла цэлая суполка адметных творцаў. Сяржук Сокалаў-Воюш — паэт і бард — заняўся літаратурным забеспячэннем новае хвалі нацыянальнага адраджэння, апякуючыся на зменлівыя густы і прыхільнасці шырокае публікі, прапануючы «Высоцкага», «адэсітаў», лозунгі часу ў беларускай агортцы. Вінцэсь Мудроў адразу пачаў пісаць у традыцыі тады яшчэ нерэабілітаванага А. Мрыя (для недасведчанага чытача гэтую традыцыю акрэслю імёнамі О'Генры, М. Зошчанкі). Алег Мінкін, які, на маю думку, найлепш адчувае мелодыку беларускага слова, пісаў вершы на тэрыторыі ад Цюмені да Берасця...

У Менску было ціха.

Леаніда Дранько-Майсюка, які з агульнае масы вылучыўся быў своеасаблівым эстэцтвам, хутка прыручылі. Алесь Пісьмянкоў і Уладзімір Ягоўдзік не выбіваліся з традыцыі. Алесь Асташонак, падобны да «нацыяналіста», аднак, не бунтаваў. Сяго-таго проста не друкавалі.

Між тым, бунт выспяваў.

Бембель выдаў дзве свае кніжкі за мяжой: адну ў Лондане, другую ў Нью-Йорку. З'явілася шумная «Талака», якая патрабавала адраджэння мовы і культуры. Сакрэты пісьменніцкае «сям'і» проста ў «Литературную газету» вынесў А. Сідарэвіч. Абхітрыўшы тутэйшых ідэолагаў і цэнзуру, В. Рагойша ў той самай «ЛГ» рэабілітаваў Алеся Гаруна, распладзіліся беларускамоўныя рок-гурты і барды, па руках пайшоў беларускі самвыдат, у тым ліку і літаратурны, дзе пра ўсё і ўся гаварылі, што думаюць і публікавалі тых, хто ну ніяк не ўваходзіў у планы СП...

Словам, адусюль пайшлі сігналы блізкага краху стабільнага курсу на дно. І ў палітыцы, і ў эканоміцы, і ў культуры. Бунт пачынаўся па-за межамі СП, без удзелу капітанаў. Бо капітанаў у навакольным жыцці задавальняла абсалютна ўсё, за выключэннем, хіба, становішча з беларускай мовай. Вось каб нічога не змяняючы, перакласці аб'ектыўную рэальнасць у БССР на мову! Дарэчы, такую пазіцыю капітаны захоўваюць і сёння.

Але вернемся на некалькі гадоў назад, на Фрунзе, 5.

Нежылы адміністрацыйны будынак, які з выгляду нагадвае ці то клуб ветэранаў вайны і працы, ці то сучасны басейн з саўнай, ці то нямецкі дот,— захоўваў спакой. Хто не ведае: у гэтым элітарным будынку брэжнеўскага часу, у які грошай укладзена больш, чым густу, і месціцца культурнае падраздзяленне — Міністэрства літаратурных спраў БССР. Пішчалаўскі замак. Замак Кафкі. Бастылія. Сымболь манапалізму ў нацыянальным прыгожым пісьменстве. Арганізацыя-ўласнік усёй літаратуры, усіх літаратурных выданняў, ахоўнік ідэалагічнае прававернасці, адзіна правільнага курсу. Адбылося тое, што павінна было адбыцца. Манаполія, якая ў часы таталітарызму стаяла скалой і працавала, як гадзіннік, пад першым дэмакратычным ветрыкам пачала гнісці і рассыпацца.

У такія моманты — гісторыя ведае — лёгка ўзнікаюць культы. Ссумавалая па мінулым публіка прагне цвёрдай рукі, прарока і масавага псіхозу.

І собіла ж у такі вось момант увайсці ў будынак на Фрунзе, 5 Толіку Сысу — выпускніку Гомельскага, як ён кажа, «універмагу». Дабрадушны і бесшабашны Толік, які «касіў пад Разанава»


Фота Цімура ГРЫБА

(гэта таксама ягоныя словы) на нейкі час міжволі апынуўся ў цэнтры ўвагі.

— Глядзіце, хто прыйшоў! — ускрыкнулі капітаны. Яны ўжо зразумелі, што курс непазбежна мяняецца, але трэба і пры новым курсе — прынамсі да пенсіі — захаваць свае месцы на капітанскім масціку, а значыць, зусім ігнараваць няпрошаную змену не выпадае.

— Глядзіце, хто прыйшоў! — закрычала следам літаратурная грамадскасць.

Я нездарма двойчы ўжыў назву вядомай п'есы, бо прыйшоў той самы.

Ведаеце, што трэба, каб стаць прарокам? Скрайні інфантылізм плюс фамільярная пагарда да правілаў паводзінаў, маветон. І лічыце, што вы ўжо на карціне А. Іванова. А каб не толькі з'явіцца, але і застацца — прарокам, святаром ці фюрэрам — вам трэба яшчэ жалезная воля і — зноў — здольнасць да ахвяры. Гэтае апошняе, бадай, самае складанае...

Зрэшты, я не пра тое. Сыс прыйшоў не адзін. Разам з ім прыйшоў Адам Глобус — чалавек «з іншай оперы», з іншымі мэтамі і са сваёй камандай: У. Сцяпанам, М. Клімковічам і М. Шайбаком. Капітаны ўзялі Глобуса ў прыдачу да Сыса.

Магчыма, калі б Сыс і Глобус прыйшлі ў адной асобе, які-небудзь культ бы атрымаўся. Сысу бракуе прагматызму, ведаў, культуры і ўседлівасці Глобуса. Глобусу не хапае самаўпэўненасці і шаманскага тэмпераменту Сыса. Прарока не атрымалася. І я думаю — гэта добра. Прарокам заўсёды ламаюць хрыбты, а нам і так больш чым дастаткова нацыянальных трагедый.

(Між іншым, ёсць і такая думка: гэтыя двое прыйшлі як Купала і Колас! «Мы з Тамарай ходзім парай, мы з Тамарай — санітары»... Досыць тыповая, дарэчы, у гісторыі сусветнай літаратуры і культуры сітуацыя. Але заўсёды паводле характарыстык яна раскладаецца на два парадоксы: дух плюс культура (Купала) і прагматызм плюс зямля (Колас). У спалучэннях «дух плюс зямля» (Сыс) і «прагматызм плюс культура» (Глобус) парадаксальнасць страчваецца, а значыць, прападае і дзіва, без якога не можа быць прарока.)

І потым, быў тут яшчэ і трэці — крытык Алесь Бяляцкі, які, бадай, кампенсаваў недахопы Глобуса і Сыса. З гэтае кампенсацыі ўзнікла літаб'яднанне «Тутэйшыя». Колькі часу яно буяла, але хутка і зачаўрэла. Не можа суполка маладых творцаў існаваць здарова пры клубе ветэранаў, пры басейне, пры доце. Ей патрэбна ўласнае незалежнае выданне.

Глобус прыйшоў з камандай не проста так. Творцу трэба мець сваё асяроддзе. У рускамоўным горадзе беларускамоўнаму літаратару застаецца адно — ісці ў бастылію, шукаць суполнасці з тым, з кім чыста па-чалавечы ты, можа, гідзіўся б ісці па адным баку вуліцы. Але выбару тут няма. Калі ж у цябе сваё, асобнае ад манаполіі асяроддзе, якое ты хочаш,— тады іншая справа. Ці не ў гэтым адна з прычынаў поспеху наваполацкай суполкі?

Глобус схільны да касмапалітызму, а ягоная каманда — да апалітычнасці. Некаторым удаецца «апалітызавацца», а некаторыя натужна робяць выгляд, што яны апалітычныя.

Каб стаць касмапалітам — а для нас гэта, магчыма, заўтрашні дзень — трэба пракаўтнуць сваю нацыянальную сутнасць. Трэба, каб твая мова стала незаўважная як паветра, якім ты дыхаеш, каб нацыянальныя адзнакі табе самому не мулялі вока на кожным павароце, а сталі звыклымі як падлога і столь, як сцены ў тваім пакоі. Ажно...

Глобус стаіць ля стойкі бара і ніяк не вырашыць, што ўсё ж спытаць: чашечку кофе ці філіжанку кавы? Падыходзіць ягоная чарга, і «касмапаліт» Глобус замест кавы кажа: «Мы беларускі рух!».

З іншага боку, адраджэнская тэматыка — яшчэ гадоў 5 таму андэграўнд — сёння робіцца надзейным прыстанкам эпігонаў. Як быць? Трэба ўлічваць, што грамадзкія плыні на Беларусі сёння крыху змешчаныя. І апалітычны творца (а ў апалітызме зарука ягонай унутранай творчай свабоды) непазбежна трапляе ў шэрагі народнага фронту ці чаго падобнага. Калі ж ён прынцыпова не трапляе ў гэтыя шэрагі, ён усё адно палітызуецца, толькі ў іншы бок. Нейкай «дзіркі», нейкага вакууму для беларускага творцы няма. Няма вакууму паміж фразамі: чашечка кофе і філіжанка кавы. Сённяшні беларускі касмапаліт бярэ ўдзел у народным фронце і піша вершы пра бэз!..

Што далей? Чаканы бунт расцягнуўся ў часе. На штурм бастыліі адразу прыбегла недастаткова народу і некаторыя ўжо разышліся. Большасць назірае з боку. Тым часам усё яшчэ падбягаюць заднія. А. Жамойцін, І. Багдановіч, Т. Зіненка, Г. Булыка, А. Аркуш, А. Бадак, Г. Дубянецкая і Л. Рублеўская, С. Астраўцоў, Л. Вашко, Б. Пятровіч, П. Змітрук, І. Бабкоў... Увогуле шмат каго можна залічыць да няпрошанае змены.

З капітанскага масціка ўсё яшчэ гучаць словы пра беларускіх пісьменнікаў, як «адну сям'ю», і талент усё яшчэ не адрозніваецца ад шэрасці. Яшчэ прапануюць усім адзін метад і адну тэму. На гэты раз тэма для аднадумства — перабудова... Чуючы такое ў шматлікіх дакладах, я чамусьці абсалютна недарэчна кожнага разу ўспамінаю А. Н. Шапіру і ягоны артыкул «Прастытуцыя ў БССР». Прыходзіць у галаву і ўсё. Нічога не магу з сабой зрабіць. Можа, гэта залежыць ад дакладаў? І калі-небудзь я пачую такія даклады, якія не выклічуць кепскай асацыяцыі? Ці трэба, каб дакладаў не было наогул?

На надзвычайным пленуме СП БССР літаратурны адмірал І. Навуменка крыкнуў у залу: «Падыміце рукі, хто піша лепш за Навуменку!» Я адкажу. Бембель, Разанаў, Мінкін, Галубовіч, Шніп, Арлоў, Сокалаў-Воюш, Сыс, Мудроў... пішуць лепш за Навуменку. Цікавей. Іх варта чытаць.

Павел ЯКУБОВІЧ





# СІНДРОМ ЧОРНЫХ ГОР



Летась у лістападзе ў Мінск прыехаў Уладзімір Ляшчынскі, знакаміты тэлежурналіст. Вядомасць ён набыў яшчэ ў канцы сямідзесятых, калі давёў узначаленую ім перадачу «Служу Савецкаму Саюзу» да такіх фантастычных вышынь, што ўвесь асабісты састаў арміі і флоту аднадушна назваў перадачу «У гасцях у казкі». У сярэдзіне сямідзесятых майстар фантастычнага жанру разам з жонкаю — таксама журналісткаю — выехаў у Афганістан і шчодра абрушыў на савецкую тэлеаўдыторыю рэпартажы, у якіх праўдаю былі адно карціны прыроды. Усё астатняе, у тым ліку ўсхваляваны голас Ляшчынскага і спевы куляў, былі дэкарацыямі, на фоне якіх фальсіфікавалася праўда. І ўвогуле, калі мы ўсё-такі насмелімся назваць сярод галоўных творцаў афганскае авантуры Л. І. Брэжнева, Ю. У. Андропава, А. А. Грамыку, Д. Ф. Усцінава ды іншых вярхоўных стратэгаў нядаўняга часу, дык не трэба абыходзіць увагаю і такіх баталістаў-мастакоў, як Уладзімір Ляшчынскі. Гэта ад яго мы даведваліся пра неверагодную цеплыню, з якою афганцы сустракалі «шураві», ён красамоўнічаў пра тое, як савецкія матастралкі будуюць прававерным мячэці, а авіятары возяць на сваіх «вяртушках» цяжарных жанчын у радзільныя дамы Кабула і Баграма.

Трагедыя пераўтварылася ў фарс.

«Чорныя цюльпаны» плылі над Расіяй, несучы на крылах цынкавыя труны, а праграма «Час» вуснамі Ляшчынскага цынічна тлуміла ўсім нам галовы.

Упэўнены, што ніводная цывілізацыя не ведала нічога падобнага. Разумею, што гэта блюзнерства, але нават сумна вядомыя дэзінфарматары часоў другое сусветнае вайны лорд Хаў-Хаў і радыёсалавей вермахта генерал Дзітрых не маглі напусціць такога непрабівальнага туману, як гэты радавы аглядчык Дзяржтэлерадыё, акрэдытаваны для самаадданай службы ў імя ісціны на крывавай вайне...

А ў мінулым лістападзе У. Ляшчынскі ў якасці гэтакай гастралюючай знакамітасці прыбыў у Мінск. Я прыйшоў на ягоны «канцэрт». Божа! Па-мойму, Ілля Эрэнбург сканструяваў такую ідыёму — Павел Саўлавіч. Разумець яе можна як чароўнае мастацтва палітычнага пераўвасаблення. Што я пачуў гэтым вечарам? Выяўляецца, Ляшчынскі заўсёды быў перакананым праціўнікам пахода за Амудар'ю, выяўляецца, ён ужо тады ўнутрана абураўся жорсткасцю і таму цяпер гнеўна ўзвышае голас супраць віноўнікаў трагедыі і патрабуе заклікаць іх да адказнасці.

Яшчэ больш сурова У. Ляшчынскі закляйміў усіх у інтэрв'ю праграме «Крок». Не абышоў увагаю ён і тых, хто забяспечваў «ідэалагічную падтрымку» афганскім стратэгам. Сябе ён, безумоўна, у гэтым радзе не ўказаў, што дало мне падставу падумаць пра тое, наколькі блізка ляжаць першая і другая найстаражытнейшыя прафесіі.

Колькі іх сёння, ідэалагічных рыцараў застою, якія пнуцца раней за іншых крыкнуць нешта сугучнае агульнаму накірунку думак у гонар той загадкавасці, якая завецца чамусьці «генеральнай лініяй».

Я пайшоў з «канцэрта» Ляшчынскага не толькі таму, што немагчыма было слухаць відавочна запозненае прасвятленне былога ўлюбёнца Генеральнага штаба. У рэдакцыі, праз дзіўнае спалучэнне акалічнасцей, мяне чакала гутарка на гэтую ж праклятую афганскую тэму. У маю салдацкую маладосць, у невялікім ваенным гарадку я пасябраваў з сынам ротнага камандзіра Валодзькам, жывым, як ртуць, маленькім д'яблам, што вечна круціўся то ў спортгарадку, то ў казарме. Без усялякага гараскопу было відаць, што ў хлапчука — афіцэрскі лёс... Калі ў рэдакцыю прыйшоў ягоны бацька, я з цяжкасцю пазнаў у старым колісь бравага, заўжды начышчанага, надраенага, падцягнутага свайго капітана-ротнага.

— Вось якая бяда, сынок,— сказаў ён мне, звяртаючыся так, як прызвычаіўся здаўна ў сваёй роце,— бяда ў мяне з Валодзькам. Можа, дапаможаш чым-небудзь?

Віктар Мікалаевіч дастаў згорнуты ў трубачку стос папер. Што гэта былі за дакументы? Мне прыходзілася бачыць багата дакументальных сведчанняў розных злачынстваў, у тым ліку і здзейсненых у ваенны час. Але тое, што паўстала са старонак даведак, прысуду, нейкіх касацый і апеляцый, проста шакіравала.

Мне ўявілася...

Аднаго дня ў мотастралковы полк, які стаяў гарнізонам у зялёнай даліне каля адвесных скал Гіндукуша, паступіў загад правесці вайсковую аперацыю па выяўленні «бандфарміраванняў» (тады яшчэ не ўжывалі такіх слоў, як «маджахед», альбо «апазіцыянер», тады казалі проста — «бандыт», і ўсё!). Полк пагрузіўся ў БТРы і прымчаўся на ўказаны разведчыкамі «квадрат», да старажытнага, як уся гэтая зямля, выпаленага сонцам кішлака. Разведчыкі полка пастроілі жыхароў, ніякіх «бандытаў» не выявілася, і, мацюкнуўшыся, камандзір полка загадаў грузіцца і накіроўвацца на месца размяшчэння падраздзялення. Аднак на ўсякі выпадак у кішлаку засталося зводнае падраздзяленне, якім даручылі камандаваць сыну майго даўняга знаёмца-капітана. Уладзімір на той час ужо сам насіў тры зорачкі на пагонах і камандаваў ротаю. Ішлі дні, кішлак жыў сваім жыццём ад ранішняе малітвы да вячэрняга бляяння авечак, пад буйнымі, нізка навіслымі над гарамі зоркамі. Салдаты нудзіліся, камандзіры таксама. І тады, каб узняць баявы дух свайго воінства, камандзір роты загадаў вывесці некалькі «падазроных» старых і жанчын з кішлака. «Яны ўтойваюць тое, што ведаюць пра душманаў,— растлумачыў камандзір і загадаў: — «Агонь!».

Трупы спіхнулі ў прорву і вярнуліся ў ваенны лагер.

Потым ім загадалі вярнуцца, і ўся гэтая гісторыя неяк забылася. Аднак, забітыя былі з аднаго племені з Кармалем, да яго сёе-тое дайшло, і ўзняўся гвалт. Камандзіра роты, яшчэ некалькіх афіцэраў і тых, хто страляў, арыштавалі, потым судзілі.

Цяпер стары бацька прасіў дапамогі, прасіў вярнуць з калоніі свайго сына. Ён, стары служака, усё выдатна разумеў дый сам не раз бываў у трагічных сітуацыях. Але сына свайго ніяк не апраўдваў, проста баяўся, што памрэ і не пабачыць яго. Ён расказваў, як пад Кенігсбергам схапіўся з немцамі ў рукапашную, біўся лапатаю. Але каб палоннага расстраляць? «Былі, вядома, і на гэтую брудную справу ахвотнікі,— казаў ён,— але павер, сынок, такіх у батальёне ведалі ўсіх да аднаго і ніколі не дзяліліся з імі махоркаю».

Мы разважалі разам з ім, чаму Воўка, старшы лейтэнант, выпускнік вышэйшага ваеннага вучылішча, стаў нягоднікам. Гаварылі шмат пра што, а сышліся ў адным: куля, пушчаная ў мінулае, стала цяпер снарадным разрывам. Дзесяцігоддзі мы ўнушалі моладзі, што заўжды і ва ўсім маем рацыю, што нашыя танкі нясуць на брані перадавыя думкі і ідэі. У Прагу, да таго Будапешт, а потым вось у Кабул. І просты разанскі альбо магілёўскі хлопец так і мужнеў, шчыра ўсведамляючы, што мае права вучыць розуму і чэхаў, і славакаў, не кажучы ўжо пра нейкіх там «душманаў». А калі яны і праціўяцца гэтаму — ім самім горш. Не можаш — навучым, не хочаш — прымусім! А калі нехта з суайчыннікаў спрабаваў публічна засумнявацца ў гэтым «свяшчэнным праве» вучыць іншых у той час, калі самім яшчэ трэба было багата чаму навучыцца, то неадкладна ўключаліся ўсе «катэгорыі» пратэстуючых грамадзян. Пераважна ветэранаў і жанчын. Ветэраны патрабавалі спыніць «зарваўшыхся ачарніцеляў», а жанчыны бурна ўступаліся за «гонар сваіх сыноў». Згадайце вакханалію эмоцый на першым з'ездзе народных дэпутатаў у сувязі з выступленнем акадэміка Сахарава. Ну годзе, гэта справа мінулая. Мяне больш хвалюе, як даць адказ на ліст маці, якая расказала пра трагедыю сына. Да службы ён быў «абсалютна хатнім хлопчыкам», а вярнуўшыся з Афганістана, зрабіў жудаснае злачынства — з-за грошай забіў чалавека. Вядома, я не рашыўся б напрамую звязваць два факты з ягонай біяграфіі, але на судзе былы «воін-інтэрнацыяналіст» расказаў пра такія факты, што «грамадзяне суддзі» пачалі раіцца наконт назначэння паўторнай псіхіятрычнай экспертызы. Не, забойца быў у цвярозым розуме, але калі ён згадваў, як верталётчыкі дзеля забавы скідвалі за борт «душманаў», а некаторыя нашыя «бацькі-камандзіры» пасылалі хлопцаў у суседнія сады па вінаград, дзе тыя падрываліся на мінах, многае тлумачыла матывы жорсткага злачынства.

Чаму ж мы дагэтуль спрачаемся пра палітычныя аспекты вайны і па звычцы баімося, што нас назавуць «ачарніцелямі», калі сутыкаемся з праўдаю? А яна досыць жорсткая, каб не заводзіць размову ў сферу традыцыйных разваг «пра вернасць доўгу»...

Размова пра вынікі вайны, пра паводзіны на ёй нашых «афганцаў» (дарэчы, не разумею, чаму прыжылося гэтае слоўца, усё-такі ў Афганістан прыйшлі цераз Саланг не афганцы...) неабходна весці яшчэ і таму, што дагэтуль не створаны механізм, які выключаў бы любую міжнародную аферу. Згадваю, як у 1968 годзе па краіне хадзіў такі анекдот:

«— Што робяць у Чэхаславакіі нашыя дывізіі?

— Шукаюць «прадстаўнікоў рабочых», якія іх туды выклікалі на дапамогу».

Нясмешны анекдот. Асабліва, калі згадаць, што ў самы разгар вайны з Фінляндыяй Сталін таксама прыбег да такога трука, як стварэнне ў Тэрыоках «народнага ўраду» Фінляндыі, які нібыта папрасіў у Чырвонае Арміі «інтэрнацыянальнае дапамогі». Старыя фантомы, як высветлілася, не здаюцца ў архіў, а час ад часу ўзнікаюць як гістарычная рэальнасць.

Ад салдата патрабуецца зусім нямногае. Ягоная доблесць у выкананні загаду. Але ці кожны загад доблесны?

Калі паглядзець на гэтую маральную праблему скрозь прызму цяперашніх «шчыраванняў» У. Ляшчынскага альбо У. Праханава, дык простае пытанне стане зусім незразумелае. Выяўляецца, усё залежыць ад канкрэтных умоў. У 1983 годзе лічылася найвышэйшай «інтэрнацыянальнай вартасцю» страляць па загадзе сяржанта — камандзіра падраздзялення ў накірунку «падазронага» кішлака, а ў 1989-ым — гэта ўжо нонсэнс, бо ў гэтым кішлаку, як выявілася, жывуць такія ж людзі, як і мы з вамі, шаноўны чытач.

Адначасна з Ляшчынскім быў у Афганістане і іншы «камандзіраваны на вайну» афіцэр, вядомы беларускі пісьменнік. Відаць, ваяваў няблага, мае некалькі ордэнаў — баявых узнагарод. Кантужаны, шмат чаго перажыў... Ягоная апошняя кніга называецца «Сыны» і прысвечана маткам, якія страцілі дзяцей за чорнымі адгор'ямі. Нядаўна я перачытаў гэтую кнігу. Яна пра вайну, пра паходы. Але ў ёй няма нічога ад рамантыкі Кіплінга. У ёй — глыбокі роздум пра віну бацькоў перад дзецьмі, якія пасылалі ў атаку амаль што хлапчукоў. Пісьменнік цяпер, відавочна, шмат думае пра гэта. Я даведаўся з газет, што на ўвесь ганарар ад кнігі ён купіў тэлевізары і аб'ехаў дамы тых, хто страціў ногі і рукі, хто страціў у Афганістане вочы. Ён падараваў маладым калекам тэлевізары, рэпарцёры даведаліся пра гэта, расказалі ўсяму свету. Нехта бачыць у гэтым шырокі жэст пісьменніка, нехта паставіўся з разуменнем, а я паўтаруся: лічу, што ён вяртае свае пазыкі радавым тае зусім нясла́ўнае вайны.

Юрый СМІРНОЎ

# АНАТОМІЯ ДУМКІ

— Значыць, вы сцвярджаеце, што ваш розум абсалютна бясплодны? Гэта ў вас спадчыннае?

— Не, рэч у тым, што яшчэ нядаўна ў мяне атрымлівалася,— уздыхнуў я.— Хочаце тузін афарызмаў? Так... Глупства кідаецца ў вочы яркімі латкамі... Добрых думак не хапае нават на разлік за дурняў... Розум захаваў сябе ў блазенскім каўпаку, дурасць — у прафесарскай мантыі...

— Павольней і карацей! Вы не на футбольным полі. Але будзем працягваць. Такім чынам, апынуўшыся ў гутарцы бездапаможным...

— ...я апошнім часам раблю выгляд, што ўсе мае думкі захопленыя надзвычай важнымі рэчамі.

— Цудоўна! Але ведаеце, пра што ў такой сітуацыі найлепш думаць? Пра нашага вялікага Настаўніка, які сцвярджаў перад разумнікамі ўсяго свету: «Гора — ад розуму».

І кансіліум багавейліва закалыхаўся.

Манастыр, у якім я прасіў прытулку, належыў нябачнаму, аднак бязмежна уплывоваму ордэну Бяздумнасці. Ордэн з годнасцю выконваў сваю місію: выратаваць бессардэчна гнаную праз стагоддзі чалавечую дурасць. Ен раз за разам біў заклятага ворага смяротнымі ўдарамі, распыляючы мудрацоў па цытатніках, па гэтых могільніках мудрасці, што камянеюць ад харавога ўжывання.

У гэтае брацтва я рыхтаваўся ўступіць па парадзе настойлівага ігумена,— так, таго самага, які выславіўся ўменнем настойваць на пячорным пыле віно чалавечых адносін. Выпрабаванне, што чакала мяне, было б не па зубах нават граблям: спачатку — тыдзень не паказваць аніякіх прыкметаў жыцця, потым яшчэ адзін дзень і адну ноч выказваць выключна чужыя думкі. Згадзіцеся, граблі для такой задачы празмерна дасціпныя. І ўсё ж я ўправіўся і з першым — рашаючы ў галаве шахматныя эцюды, і з другім — успомніўшы на памяць урывак з «Сагі пра Фарсайтаў». Кансіліум яшчэ вагаўся, але ігумен настоіў на сваім: ува мне, у прынцыпе, выявіліся задаткі класічнага ардэнаносца. І неўзабаве я ўжо напяў на сябе мантыю ахоўнага колеру, такую цесную, што даводзілася пяць разоў адважыцца, перш чым раз уздыхнуць. Пабеглі насычаныя да выпадзення ў асадак дні каранціну.

Мяне пасялілі з братам, нават адзін цень якога нараджаў грэшны імпэт міласэрнасці. Бульдожы прыкус і пагляд сусліка выклікалі ванітную курчу, якую я ледзьве ўтаймоўваў. Уначы ён гвалціў пасцельную бялізну і спрабаваў у знямозе праглынуць падушку. Але з кучы анучаў усё-такі даносілася нешта накшталт: «Адна галава — добра, а дзве...»

Каюся, што ўчас не кінуўся насустрач гэтай забароненай страсці. Аднае раніцы брат з тагасветным ёкатам засунуў галаву ў фортку і на ўсю моц ляпнуў створкаю, пазбыўшыся такім хітрамудрым чынам вярэдлівага органа. Затым гэты ашчасліўлены самім сабою фантан падхапіў сваю адстаўную галаву і, непакоячыся, што я пачну рабіць перавязку, панёсся да ігумена. Вярнуўся задаволены сабою. Ігумен яго багаславіў.

Гэта быў для мяне сапраўдны знак божы, але я не спяшаўся выбраць павадыра ў лабірынце схаладнелых думак. Тут кожны блукаў адпаведна сваім схільнасцям. Адны катавалі свой розум, утрапёна глыталі дзесяткі кніг, прымудраючыся не атруціцца ніводнаю думкаю. Трэція да любой жыццёвай праявы дапасоўвалі філасофскі трактат ігумена. За гэта ім дазвалялася перапыняць усіх, нават — самога ігумена. Чацвертыя цвічылі памяць размаітымі камбінацыямі слоў і ўчынкаў грэшных братоў сваіх. Гэтых чацвертых усе мы, зрэшты, ведалі не горай за першых, другіх і трэціх. Бо ігумен меў бязгрэшную завядзёнку — знайсці ў натоўпе знаёмыя вочы і сурова запытацца: «Ну-тку, хто абарваў нітку мае размовы?..»

Паводле тутэйшай логікі мяне мелі за фанатычнага прыхільніка веры, бо з усяго зводу адвечнай дурасці я не здолеў узяць для сябе анічога. Зрэшты, немалая заслуга належыць тут мясцовым прапаведнікам, якіх знаходзілі ў самых лепшых еўрапейскіх лякарнях. Прапаведвалі яны запісаным на фанограф ігуменавым голасам і пры гэтым касавурыліся на глуханямога суфлёра з дручком. Мы бубнім услед за імі па сваіх тэкстах. Бубнім старанна!

Што ў манастыры сапраўды агоркла, дык гэта поліўка са святога духу, шчодра запраўленая фармалінам. Шмат у каго з гэтае прычыны слабелі мазгі і шэрае рэчыва плыло слоўным паносам. Каб не апруцянець, я прызвычаіўся красці з саду яблыкі спасціжэння дабрыні і зла. Сам жывіўся і прыяцеляў падгадоўваў.

Манастырскія гадзіннікі рэгулярна заводзілі ў адпаведнасці з хадой ігумена — калі ў яго ад доўгай прастрацыі кроў прылівала да ног і ён намагаўся яе разагнаць, шукаючы ерась. Апоўначы ж новых насельнікаў манастыра біла дрыготка ад вусцішнага скрыгатання. Гэта ігумен зацята лез на сцяну. Ен любіў яе — страсна, безразважна, прыніжаючы самога сябе і — узнёсла-высока: ад пандуса да гзымса. Хто асудзіць яго за гэта? Толькі сляпы не заўважыў бы незвычайнага падабенства сцяны з ідэалам. Гэты хаўрус аказаўся шчаслівым. Удваіх яны нарадзілі шырму.

Але час ляціць, нават калі ягоныя крылцы надзейна прыколатыя іголкамі ў музейнай калекцыі. Я чакаў у сваёй келлі, калі мяне паклічуць на хрышчэнне дурасцю. Ашчасліўлены фантан шамацеў у куце сваім цытатнікам. Са столі да яго, пагойдваючыся на ядвабавай пупавіне, ляніва планіраваў павук.

Я вырашыў: найвялікшым глупствам, глупствам па-за канкурэнцыяй было б сказаць тутэйшай публіцы ўсё, што я пра яе думаю. Я абдумаў тэзісы, а ў фінале выступлення дадаў некалькі выразаў, ад якіх сцены зрабіліся бурачковыя. І хоць неўзабаве яны пабялелі, мяне захацеў убачыць ігумен.

— У вас, браток, шнуркі на два дзюймы даўжэйшыя за мае,— пачуў я.

— Хочаце іх уцяць?

— Не дапаможа. Кажуць, вы пакутуеце ад бяссоння? Я пасяліў бы вас у ізалятары — але што могуць падумаць іншыя? Давядзецца адправіць вас назад — у жорсткі свет думак. Мы атрымалі загад магістра. Вось, чытайце: «...а нарушитель изгоняется из обители без одежды на возвращение». Так што ідзіце, і без усякага адзення!

— Злітуйцеся, на дварэ студзень! У загадзе яўная памылка, магістр хацеў сказаць: «без надежды»...

— Не бачу розніцы. Выгнанне — шлях да вяртання. А адзенне — нацыянальнае багацце. Я разумею, як гэта сорамна, але я вас выпушчу праз чорны ход.

Насценны гадзіннік сказаў «ку-ку». Ігумен пажвавеў.

— Будзем лічыць, што вы згадзіліся.

Я пайшоў развітацца з суседам, але ён ужо ператварыўся ў вопрадзень. Напэўна, зачапіў у экстазе павуціну і заблытаўся. Я ашчадна адарваў вопрадзень і паклаў грэцца на сонцы — свеціць роднае! Адчыніў дзверы і наткнуўся на сцяну, якая расчаравана ўздыхнула: «Ен апрануты!» Браты кінуліся ўцінаць шнуркі і адрываць кішэні. Карацей, матлашылі мяне, як капусту. Хутка шматкі маіх надзей віселі на абкладзеным вязкамі дроў крыжы, а я прыкрываў даланёю свой забаронны плод. З крыкамі «Дык ён жа голы!» мяне пацягнулі да запаветнай брамы. Я б вомельгам дабег і сам, але праз кожныя пяць крокаў мне пад ногі кідаўся ігумен, які прыпадачна выпручваўся і екатаў: «Ідзі без адзення!»

Каля брамы адбылася замінка. Ніхто не насмеліўся мне дапамагчы, і давялося самому, пад градам пустых позіркаў караскацца на пад'ёмны ланцуг. Нарэшце праз прачынены атвор дыхнула воляю, я ў два мігі скаціўся долу і меўся прамовіць мараль гэтай байкі, як у натоўпе закрычалі: «Трымай яго, ён нас зразумеў!» Даўно зразумеў, браткі, позна спахапіліся. Праз імгненне я ўжо ляцеў, ледзьве кранаючыся босымі нагамі снегу. Але здарылася тое, чаго я зусім не чакаў — праз нейкую хвілю мне ў патыліцу ўдарыў гарачы парны струмень і стрыманае хрыпенне з прысвістам. Я ўбачыў за сцяной цудоўную інаходзь мустанга, які, зрэшты, ільсніўся так, як можа ільсніцца толькі голае чалавечае цела, калі яго хапае за шчэлепы мароз.

— Выдатны бег,— прывітаў я нечаканага спадарожніка.— Паставіў бы на вас дзесяць супраць аднаго.

— Вас можна было б палічыць... за гульца на скачках,— адказаў спадарожнік, глытаючы канчаткі і ледзь пераважоўваючы суфіксы,— калі б вы не выглядалі... як хлопчык на пасылках.

— Ваша бліскучая дурасць,— я цудоўна падтрымліваў дыханне,— вынік вашае сціпласці: баіцеся нарвацца на кампліменты.

— І ўсё ж... у кампаніі джэнтэльменаў... наперадзе бяжыць невук,— адчайна хрыпеў спадарожнік.

Лёс дарыў мне аднадумцу. Я ўвачавідкі ўздрыгваў.

— Ведаеце, за што я люблю жыццё? — запаволіў я бег.— За тое, што яго можна зрабіць лепей.

І я выцягнуў коўдру, якую мой спадарожнік забыў у сябе пад пахай,— і накрыў нас абодвух.











*Вытрымка плюс дыяфрагма*

# РАЗ, ДВА... ПРАВАЙ

У слынным горадзе Лондане існуе старажытная традыцыя змены каравулаў ля Каралеўскага палаца. На гвардзейцаў, экіпіраваных у віктарыянскім стылі, ходзяць любавацца турысты і лонданская дзятва.

Гэта бяскрыўдная традыцыя. Яна ўпрыгожвае старажытны горад на Тэмзе і выклікае настальгічныя ўздыхі па тых часах, калі Англія была ўладальніцай мораў.

А вось карцінка бліжэйшая. Мінск. Канец лістапада. Адчувальны мароз. У цэнтры горада ля помніка Перамогі праходзіць змена каравула, які складаецца з хлопчыкаў, апранутых у дзіўны гібрыд афіцэрска-салдацкага шынялю, і дзяўчынак у такой самай карыкатурнай вопратцы. Хлопчыкі старанна выкрочваюць, а дзяўчынкі з апошняе сілы «цягнуць насок». Рэдкія прахожыя прабягаюць міма, сёй-той кідае абыякавы позірк, нехта ўсміхаецца, хтосьці буркае, маўляў, лепш бы лішнюю гадзіну пасядзелі за падручнікам.

Гэта ганаровы каравул — новая мінская традыцыя. Аднак слова «новая» тут усё-такі напісана памылкова, бо ўсё гэта паказное страявое стаdo старанне напрасцяк перайшло з тых гадоў, калі ў цане былі рапарты, прывітанні ды іншы казённа-патрыятычны фармалізм.

Зразумела, што дзесяткі мінскіх адстаўнікоў, якія маюць прамое дачыненне да гэтага «пацешнага» ваярства, лаканічна і строга дакараюць нас за неразуменне ваенна-патрыятычнае важнасці стаяння хлапчукоў і дзяўчынак у ганаровым каравуле і нават змогуць абгрунтаваць сацыяльную значнасць умення школьніц у задзіранні нагі на звышстатутную вышыню. Нас абвінавацяць у неразуменні і нават у ачарніцельстве.

Не будзем спрачацца. Угледзімся ў гэтыя здымкі. Яны як мага лепей адкажуць на пытанне:

— Ці ж усе традыцыі застойнага часу нам трэба цягнуць у перабудову?

Што ж датычыць ваенных кіраўнікоў мінскіх школ, заслужаных афіцэраў, дык мы мяркуем, што і без падобных «відовішчных мерапрыемстваў» яны могуць знайсці магчымасць прынесці карысць грамадству.

Пётр РОГАЎ,
Цімур ГРЫБ
(фота)

## Павел ВЕРАБ'ЕЎ



## КРЫТЫЧНАЯ МАСА

А часцей і часцей
На шляху загараецца клічнік:
Гэты знак засцярогі на звівах
імклівых дарог.
А часцей і часцей
Дрыжыць на адзнацы крытычнай
Лёс сусвету,
Які нянчыць выракся бог.

І ўсяго нестае,
А найболей — здароўя і часу.
Ды яшчэ дабрыні і верных
надзейных сяброў.
А часцей і часцей
Паняцце крытычнае масы
Паўстае з прызабытых вучнёўскіх
гадоў.
Ядро да ядра,
Грам да грама — камяк урану
На крытычнай адзнацы ўзрываецца
сам няўзнак.

Гэтак сэрца яднае
І крыўды радзімы і раны
І пагрозна сціскаецца
Ў важкі — крытычны — камяк.

З п'едэстала глядзіць сумны Гогаль
Знямоглаю птушкай,
І ты болей не сцерпіш
Маўкліва свой сплочваць аброк.
І, нібы запазнелы струмень кісла-
роднай падушкі,
Са стамлёных грудзей
Вырываецца з хрыпам — радок...

## РАДОК

*Мы в одиночку к истине бредем.*
*А. ВАЗНЯСЕНСКІ*

У лёсе ўзнікла нечакана,
Глядзіць байніцамі сцяна —
Як нерв, забіўся апантана
Радка абрывак:
«іс-
ці-
на»
Ей мала верша, што ўкароціць
Табе жыццё. Вышэй яна!
Як стрэмка ў сэрцы, нібы дроцік —
Сядзіць — і гэта не мана.

## ПАЭЗІЯ

Пацягнула. Ад Бога ці злога?
Пацягнула — не стала прыстання.
І звілася пятлёю дарога,
І надзеі няма на вяртанне.

## ЧАЛАВЕК НАД АБРЫВАМ

Чалавек стаяў над абрывам
У самоце колькі гадзін!
Чалавек глядзеў, як на дзіва,
На шэсце блакітных ільдзін.

Ен стаяў нерухома, як помнік,
Што жывы — выдаваў толькі ўздых.
Гэтым мігам ён, пэўна, не помніў
Аб шчаслівых хвілінах зямных.

Зведаў ён і свята і слоту.
Верыў ён уласнаму сэрцу.
Чалавек стаяў перад узлётам?
Чалавек стаяў перад смерцю?

* * *

Я згубіў час.
Каб дагнаць, сеў на каня
і паскакаў безаглядна,
пакуль конь не ўпаў мёртвы.
На чым цяпер дагнаць час,
страчаны ў пагоні,
і хто сплоціць віну неўзараным
баразнам?

* * *

Дрыжыць гарачы шэпт: «Ты мне
патрэбны...»
Чутно цяпло дыхання ў валасах.
І лашчыць вецер нас гаркава-
хлебны,
І месяц над адрынаю ачах.

Ды над пяшчотай, як над ананімкай
Вісіць сумнення едкая смуга:
Што прыняло цябе ў мае абдымкі —
Каханне,
Ці туга?

* * *

**М. Ю. Лермантаву**

Ці шукалі збавення скорага,
Ці стаялі адзін перад бедамі,
Вы у твар сваіх ведалі ворагаў...
Я ж сяброў сваіх нават не ведаю.

Знаді Вы, што з бядою засватаны,
І пакуты
Леглі на шалі.
Вас, нарэшце, любіла Шчарбатава.
Вы пра гэта таксама знадлі.

* * *

Утравелая сцяжына,
Паліняды вербалоз.
Асцюкамі успаміны
Уядаюцца да слёз.

Не зрабіць былым былое
Доўгай ростані гадам.
Сніцца дым юнацкіх мрояў
На кладзішчы землякам.

Я сюды не плакаць крочу,
Хоць і плакаць ёсць па чым.
Знойдзеш тысячы прычын
Выплакаць дазвання вочы.

Да жуды, да слепаты...
Перамены і нязменнасць.
Дзядзька Ян парэзаў вены
І паехаў на клады.

Непітушчая сям'я,
Сам амаль што непітушчы.
Па палетках і гаях
За сялом блукаюць душы,

Як калісьці жабракі,
Паляць ціхае цяпельца,
П'юць далонямі з ракі,
Прывячаюць пагарэльцаў.

Падыду, павечарую
Ля цяпельца за сялом.
Вып'ю чарку, пагасцюю,
Перш чым стаць гаспадаром.



# ВОСЬ МАЯ ВЁСКА

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 8.*

Для сябе яны з Фёдарам вырашылі адразу: абжывацца — дык абжывацца. Не як іншыя. Жывуць у калгасных кватэрах. А падворак? Не адрозніш: што пустка, што сядзіба. Як кватаранты. Цвік лішні не заб'юць. Вось што значыць — дом дармовы. Фёдар навазіў у двор зямлі. Нізіна. Як дожджык, стаіць вада. Потым, каб пазначыць месца, выпісалі штыкетнік. А на кансультацыю — да Буракоў. Яўген Іванавіч Фёдару — як бацька. А Галіна Рыгораўна Яніне дарадчыца.

— Вы, Яніна, глядзіце, не нагарадзіце лішняга...

І частакол атрымаўся на заглядзенне.

Фёдар прыехаў дадому і ахнуў: ну і жонка! А яна засмучаная: яблыня за плотам засталася. Фёдар супакоіў: дзічка, яна і ёсць дзічка. Зрабілі рамонт. Пераклеілі шпалеры, перафарбавалі падлогу. Шторы павесілі яркія, каб больш утульна было. І прыгажэй. Дзіцячы пакой. Спальны. Зала. Яшчэ адзін пакой не абстаўлялі — чакаюць старых. Па восені да іх збіраюцца свёкар са свякроўкай назаўсёды. Стала ім цяжкавата, далекавата ад дзяцей. Бацька Фёдара інвалід вайны першай групы. Вочы свае на вайне пакінуў. Ні жонку, ні дзяцей, ні ўнукаў не бачыў. Ніколі. Маці за яго за сляпога выходзіла.

Пакой для іх — самы лепшы, квадратны, на сонечным баку. Няхай, вырашылі, сваю мэблю расстаўляюць, як спадабаецца. Ложкі, скрыню, стол, этажэрку, фатаграфіі на сцяне. Разумеюць: трэба зберагчы бацькоўскі ўклад, захаваць яго для дзяцей.

Да прыезду старых і будоўлю разгортваюць у двары. Склеп патрэбны. Гараж. Хлеў. Хвалююцца, толькі б малаваты не быў. Яніна з Фёдарам купілі сабе цялушку. Ды і старыя жывёлу не кінуць. Збяруцца ўсе разам — і будзе поўны двор.

Адзін клопат невырашальны. Участак пад агарод — кветнік адзін. Агуркі, капуста, цыбуля, буракі — патрэбны. Дарэмна, атрымліваецца, марыла пра кветкі пад акном, пра бэз? Але не будзеш жа агарод на поле выносіць. Пах кропу, і той да хаты не даляціць. Для кожнага вяскоўца — гэта пытанне галоўнае: зямля. Нічога дзіўнага, што Яніна перажывае за зямлю. Не абыякава: колькі, дзе і якая. Што — пад агарод. І што — у поле. Гэтак жа, як Фёдару — не ўсё роўна: колькі возьме збожжа з кожнага гектара? Фёдар убірае, а яна лічыць. Менш, чым па 53 пшаніца не дасць, як і летась — колас тугі. І ў Казахстане — не сумняваецца Яніна, Фёдар сваё возьме, усё да апошняга зярнятка. Які яму дастаўся камбайн? Ніяк не супакоіцца яна.

Заўважаю, аднак, што ад'езд Фёдара ў Казахстан вельмі яе засмуціў. Тужыць. Часам нават злуе крыху.

— Як не злаваць! І развітацца не паспеў. Адкалоў нумар. Нават лебяду з двара не скасіў. Давядзецца сярпом жаць!..

## ВЕЧАР

З Янінай і дзецьмі мы ідзём па малако. Да Буракоў. Алёна дарогай збірае букет па ўсёй вёсцы. К вечару хіліцца паветняму марудна. Дзьмуць у тонкую дудачку ціхія манатонныя цвыркуны. Чырвоная хусцінка мільгае ў глыбіні сядзібы. Галіна Рыгораўна зграбае сена. Яўген Іванавіч толькі што ад камбайна. Сядзіць на лаўцы ля ганка, адпачывае. На гладкім, пацямнелым ад сонца твары ўсміхаюцца выцвілымі васількамі вочы.

— Ты не гаруй, Яніна,— ён запрашае сесці,— твой Фёдар вунь які малайчына. Выручыў усіх. Тэлефанаграма прыйшла тэрміновая: дапамога патрэбна цаліне. Адлёт праз дзве гадзіны. Вось і мяркуй, што рабіць, проста ля камбайна,— ён памаўчаў.— Я табе па сакрэту скажу: ніхто больш не хацеў ляцець. І я, стары дурань, не здагадаўся. А твой Фёдар: я паеду!

Яўген Іванавіч задумаўся. Можа, успомніў, як аднойчы, у самае жніво, у Канючыцах, заклініла ў яго ў камбайне. Раззлаваўся — зноў камень? Глядзіць — снарад... Што ж рабіць? Поле зусім як сённяшняе — спелае. Вось-вось абсыплецца, згарыць. Старшыня прыехаў. Па сапёраў хутчэй паслалі. А іх няма і няма...

— Сонца проста жарэ збожжа. Старшыня ўскінуўся. Разам і вынеслі той снарад,— усміхаецца Яўген Іванавіч, быццам мы адгадалі яго думкі. Ды не, проста пра гэты выпадак і зараз спрачаюцца ў вёсцы: не мелі, маўляў, права рызыкаваць сабой?..

Не мелі. Не мелі права страціць хлеб.

Яніна моўчкі ківае галавой. Даведалася крыху, што да чаго, ды і добра, ад сэрца адлягло. А то ж што хочаш, тое і думай: «Я — у Казахстане!».

Галіна Рыгораўна ва ўсю далечыню абводзіць рукой сваю да дробязей прыбраную сядзібу. На ёй толькі бульба для справы. Астатняе — для душы. Што пузатыя гарбузы, што раскошныя вяргіні.

— Ідзіце ў хату. А то за лясамі карову не падаю,— распарадзілася яна.

Драўляны дом з роўных дошак. Прыбудова па модзе — з белай цэглы. Пафарбаваны — любата, рознымі фарбамі, спакойныя, але і яркія таны. Святліца, а не дом. Чырвоныя вымпелы на сцяне. Не пералічыць усе. Дочкі ад іх аддзяліліся. Затое ўнукам прасторна.

Галіна Рыгораўна падае цёплы трохлітровы слоік малака. Адкідваецца на канапу. Спіць на хаду. Салодкая ў яе стома. Напрацавалася за доўгі дзень. Але як не прывітаць вечарам суседзяў? Зразае ў Алёнчын букет пушыстыя вяргіні.

Па дарозе дадому Алёнка перабірае кветкі. Тварам яна — уся ў бацьку. А характарам — вылітая Яніна.

— Рамонак — ад Караленкаў, кашка — ад Лапіцкіх, вяргіня — ад Буракоў, званочкі — аж з канца вёскі. А вось гэтая, калючая, бэзавая асака — з сядзібы, пра якую мамка марыць...

Так я даведваюся, што Яніна хадзіла да старшыні прасіць участак зямлі пад будаўніцтва свайго дома, уласнага, як у Буракоў. Для іх вялікай сям'і, вядома, і цяперашняя калгасная кватэра — дом. Дзякуй гаспадарцы. Але дом, трэба ўсё ж прызнаць,— прамежкавы. Не ў крыўду сказана будзе. Добра, што Яніна ўжо зараз разумее: яны, вядома, калгасную кватэру абжывуць, кватарантамі жыць не дазволяць сабе. Але так ці інакш пачнуць будавацца... Не сёння, дык заўтра. Без гэтага ніяк нельга: сапраўдныя гаспадары павінны паважаць і сябе, і іншых.

Яніна, бадай, і сама не ведае, наколькі дакладна супадаюць яе перажыванні аб доме, аб зямлі з пераменамі, намечанымі ў нашай рэспубліцы. За пяцігодку вырашана падвоіць будаўніцтва жылля на вёсцы. Такі вывад зрабілі вучоныя і практыкі.

Як гэта ажыццявіць на справе? А вось як. Камусьці задаволіць калгасная кватэра. Атрымлівайце яе. Хтосьці пажадае ўступіць у кааператыў. Таксама выйсце. Але асноўная надзея на тых, хто гатовы будавацца сам, гэта значыць на іх, на Яніну і Фёдара. І льготы ім істотныя: палавіну кошту дома выплачвае калгас, толькі палавіну — гаспадары. Прычым, з растэрміноўкай на 25 гадоў. Выгадна калгасу, выгадна дзяржаве. І людзям. Сутнасць жа ў тым, каб адрадзіць для гаспадаркі вясковую душу. Яніна разумее гэта.

— Прыедзе Фёдар, і мы сваю яблыньку абавязкова прышчэпім. Кепска, калі пад акном дзічка.

Вёска Скарынічы
Мінскага раёна

**Алена Івановіч**





# КРУЧКІ-ДРУЧКІ-РАСКАРУЧКІ



ТАНЯ. Яе завуць Таня. Яна — біёлаг. Ловіць і засушвае мятлушак. А потым нясе да Галоўнага. І часам атрымлівае за гэта грошы. Наогул яна да грошай абыякавая. А неабыякавая да мятлушак. Якіх яна ловіць. І якіх засушвае.

У Тані сіні сачок. І сінія сандалі. І нават сінія вочы. Таму яе ўлюбёная пара года — лета.

Улетку Таніны мятлушкі носяцца па палях, як вар'яты. А за імі — Таня. Улетку Таня спявае песні. І яе ачмурэлыя мятлушкі падпяваюць ёй.

Увосень мятлушкі высыхаюць. А Таня ўвосень плача. А потым выцірае насоўкаю вочы. І пачынае рабіць з мятлушак калекцыі. Даволі прыгожыя. І даволі адметныя. Для Тані. І нясе іх Галоўнаму. Але не падумайце — не дзеля грошай.

ГАЛОЎНЫ. Галоўны любіць восень болей за лета. Але не любіць Тані. Таму, калі яна прыходзіць да яго ўвосень — ён злуецца. Восень і Таня ў яго галаве ніяк не спалучаюцца. І ён злуецца. Але калі Тані захочацца прыйсці да яго ўлетку — ён яшчэ больш раззлуецца. Бо лета ён ненавідзіць — а тут яшчэ і Таня. З дзвюх бедаў давodзіцца выбіраць меншую. І Таня выбірае восень. І за адным разам — Галоўнага. А Галоўны нічога не выбірае. Бо, як на ягоную думку, дык лепей бы ні Тані, ні лета ўвогуле не было. Не існавала б на свеце і ўсё. А быў бы адзін ён, Галоўны. У ягоным прастакутным кабінеце. З прастакутнай сакратуткай. І прастакутнымі супрацоўнікамі. Але ў партрэце Галоўнага я забыла пра адзін маленькі, але досыць галоўны штрых. Ягоная галава мае не прастакутную (толькі, крый божа, не зблытайце ягоную галаву з галовамі супрацоўнікаў), а круглую форму. І Галоўны сваёй галавой вельмі ганарыцца. І часта падкрэслівае яе падабенства з зямным шарам. А зямны шар — самі разумееце — не жарцікі. І краіны на ім усялякія. І людзі. І эксцэсы здараюцца. І перыяды. Застою. Уздыму. Вось так.

— Добры дзень, шаноўны... (капялюш, капялюш хутчэй здыміце!)

УСТАНОВА. Установа, пра якую будзе гаворка,— самая звычайная. З самым звычайным Галоўным з круглай галавой. Якую ён здымае нанач і па святах (і зямному шару трэба адпачыць). З самымі звычайнымі прастакутнымі супрацоўнікамі. Якія страшэнна любяць гарбату. Часам, вядома, і сёе-тое мацнейшае. (Не, не. Я на бязгрэшных людзей не нагаворваю — гэта ж здараецца так рэдка. Але і без гэтага таксама нельга.) З самымі звычайнымі супрацоўнікамі. З самай звычайнай Таняй. Збоку. Якая прывыкла абіваць чужыя парогі. І нават мець з гэтага задавальненне.

І працу гэтая ўстанова робіць самую звычайную. Штампуе калекцыі мятлушак. Танна. Няшкодна. Ну памяркуйце самі — якая шкода ад мерцвякоў? І прадае раніцою. Нашым грамадзянам. Грамадзянін прачнецца ўранні — а каля яго дома ўжо гандляр мятлушкамі. Грамадзянін прыкупіць калекцыю. Абмацае кожную мятлушку. Паспрабуе на смак. І ўздыхне спакойна. Значыцца, усё на свеце добра. Птушачкі пяюць. Мятлушкі сушацца. Па-ранейшаму шэранькія. Непрыкметныя такія з выгляду. Грамадзянін з замілаваннем пакладзе калекцыю ў кішэню. І ўжо ўпэўнена пойдзе насустрач новаму дню. Так ужо атрымалася, што з мятлушкамі заўсёды лягчэй хадзіць. І лягчэй дыхаць. Звычка, ці што?

— Сардэчна запрашаем у нашую ўстанову. Наведнікі для нас — заўсёды радасць. Яны нам, як родныя. Мы можам даць добрую параду. Можам дапамагчы. У сацыяльным сэнсе. Можам проста па-чалавечы паспачуваць. А можа, вы хочаце супрацоўнічаць з намі? Калі ласка! Збірайце мятлушак, засушвайце. А мы, дзе трэба, падправім, выправім, падкажам. Толькі (тут на тон ніжэй), толькі без гэтых other дручак-раскаручак. Мы ўсё-такі — паважная арганізацыя. Якую кантралююць зверху. Такім чынам — звычайныя мятлушкі. Пажадана спакойныя. Лепей — шэрых адценняў. Засушаныя, як зазвычай. Сярод старонак тоўстых, разумных (галоўнае, правераных) тамоў. Наколатыя ў адзін шнурок. Вы ўсё зразумелі?

СУПРАЦОЎНІКІ. Што, што супрацоўнікі? Ці варта траціць на іх чарніла? Ну добра. Лепей чарніла, чым нервы.

Такім чынам, дарагія супрацоўнікі. Дарагой і ўсімі шанаванай ў горадзе ўстановы. Калі ласка, станьце ў адзін шыхт. Пяткі разам. Мыскі развесці. За рыску — не выходзіць. Дыхайце роўна. Удыхайце кісларод. Выдыхайце вуглякіслы газ.

Наперадзе — шаноўны таварыш Галоўны. У ягоных руках калекцыя ўлюбёных мятлушак. Валасы гладка прычасаныя. Гальштук акуратна павязаны. Ад яго прыемна пахне адэкалонам «Чырвоная Масква», а таксама роднымі палеткамі, над якімі некалі лёталі мятлушкі.

Я бяру ў рукі дырыжорскую палачку. І...

Танечка, я зусім пра цябе забыла. Не трэба бянтэжыцца. Падыдзі бліжэй. Вось так. Ускудлаць валасы. Пакараці спадніцу. Надзень сінія сандалі. Падвядзі сінім вочы. У правай руцэ — сіні сачок. У левай... Няхай. У левую дазваляю табе ўзяць цыгарэтку. Дзеля пікантнасці.

Значыцца, так. Бяру ў руку дырыжорскую палачку. Узмах левай. Узмах правай... Паехалі...

Ва ўстанове па штампаванні калекцый мятлушак, як і ў любой іншай нармальнай установе, любілі святы. І асабліва — перадсвяточныя дні. Калі раніцой можна пайсці «на заданне» — лавіць мятлушак — і не вярнуцца. Або вярнуцца надвечар. Калі расчырванелыя ад цяжкага працоўнага дня супрацоўнікі шумна хлябталі гарбату. А можна было наогул нікуды не ісці. І нікуды не вяртацца. А проста так. Абмяняцца анекдотамі ў курылцы. Або абмеркаваць становішча мятлушак за мяжой. Але я занадта перабольшваю. Усё гэта, вядома, магчыма не толькі ў перадсвяточныя дні. Але і ў любы іншы дзень. У любы будзённы дзень любой нармальнае ўстановы.

Гэты дзень напярэдадні Юбілею супрацоўнікі чакалі нецярпліва. Бо Галоўны меўся чытаць даклад пра нешта надта ж, як ім здавалася, галоўнае. Чаго яны не ведалі і ведаць не маглі. І яшчэ яны праглі паглядзець, як Галоўны чытае. Таму што ў такім становішчы яны яго ніколі не бачылі. І сёй-той пачаў сумнявацца, ці ўмее Галоўны наогул чытаць. А сёй-той нават паспрачаўся. І ва ўстанове перад гэтым днём адбыўся раскол. На левых, якія сцвярджалі, што Галоўны ўмее чытаць і нават вельмі добра. На правых, якія пераконвалі, што Галоўны нават літар як след не ведае. І на эгацэнтрыстаў, якія ўвесь час ваганіся ў залежнасці ад надвор'я ва ўстанове.

Што да Галоўнага, дык ён у пярэдадзень Юбілею адчуў нешта благое. Па-першае, падняўся не з той нагі. Усё жыццё ўставаў з правай. А тут як на тое з усяе сілы ступіў на левую. І гучна вылаяўся. А ягоная жонка, жанчына вельмі чуллівая, у якой ад слова «дурань» ішлі па твары чырвоныя плямы, доўга сморкалася на кухні. І потым доўга разважала пра тое, што ў жыцці людзям не стае паэзіі. А яшчэ святла і цеплыні. Потым яна зажмурылася мацней. Бо ўзгадала, што забыла павязаць мужу гальштук. А гэта могуць не так вытлумачыць. Напярэдадні святкавання Юбілею. Заўсёды з гальштукам. А тут... Ці не выклік? І жонка Галоўнага скрушліва ўздыхнула ад прадчування «моцных» слоў.

Па-другое, Галоўны няправільна прышрубаваў галаву. Яна была павернутая неяк набок, улева. Праз гэта позірк Галоўнага рабіўся больш журботны і скіраваны кудысьці не ў вочы. Неяк надта ж убок. І гэта напярэдадні Юбілею таксама не ўсім магло падабацца. У той час, калі ўся краіна глядзела проста перад сабой. А сёй-той мог нават смела паглядзець направа. І акурат тут Галоўны са сваімі «левымі ўхіламі».

«Не на добрае гэта, не на добрае»,— думаў Галоўны, з усяе сілы намагаючыся павярнуць галаву як след. А сілы яму бракавала.

Па-трэцяе. Калі Галоўны сеў на сваё рабочае крэсла, тое таксама правалілася. І Галоўны апынуўся на падлозе.

— Правал,— сказаў уголас нейкі энны супрацоўнік. Хоць мог гэтага і не казаць. Дзеля прыліку. Хоць, між іншым, супрацоўнікі папярэджвалі. Што крэслы трэба мяняць. Што крэслы — старыя. З часоў заняпаду. І ў часы ўздыму непрыстойна сядзець на такіх падазроных крэслах. Але Галоўны быў руплівы гаспадар народнага дабра. І ў выніку — на ўпадніцкім крэсле ўпаў на падлогу.

Так пачаўся перадсвяточны дзень ва ўстанове. І ніхто не ведаў, чым ён скончыцца.

Як і ў любой нармалёвай установе адбыўся ўрачысты сход. На якім было:

1. Уступная прамова Галоўнага.
2. Уручэнне памятных падарункаў супрацоўнікам-ударнікам.
3. Заключная прамова Галоўнага.

Галоўны падняўся на трыбуну. Адну руку ён паклаў на грудзі. Каб ніхто не заўважыў, што ён без гальштука. І ўадначас, каб кожны зразумеў, што ён будзе гаварыць ад душы. Увогуле — пастава Галоўнага адпавядала святу. Усе чакалі, калі ён возьме ў правую руку аркуш з дакладам. Але чакалі марна. Галоўны пачаў казаць без паперкі. Адпаведна часу. Сказаць па шчырасці, гэтага супрацоўнікі не чакалі. І нават пакрыўдзіліся. Значыцца, дарэмна калектыў расколваўся на левых, правых і эгацэнтрыстаў.

Выступленне Галоўнага немагчыма перадаць даслоўна. Такое яно было глыбокае і поўнае сэнсу. Але прыкладна...

— Дарагія мае таварышы. Дарагія калегі. Дарагія лаўцы! (Далей ідуць віншаванні, зычэнні моцнага здароўя, поспехаў ў нялёгкай, але высакароднай працы і шчасця ў асабістым жыцці.)

Затым Галоўны падкрэсліў значнасць свята. І адзначыў ягоныя недахопы.

— Але мы перагледзім гісторыю,— упэўнена сказаў Галоўны, і ўсе далі веры, што ён сапраўды яе перагледзіць.

— Кожны з вас разумее, у які час мы жывем.— Пры гэтых словах галава Галоўнага злёгку тарганулася і пасунулася ўправа.— Жыць старымі меркамі ўжо нельга. Вочы ў нас расплюшчваюцца шырэй. Зрок паляпшаецца.— Гэтае крылатае выслоўе чырвонай ніткаю праходзіла праз увесь даклад. І паўтаралася неаднаразова.

— І нашая ўстанова не стаіць убаку ад вялікіх змен. Таму мы павінны разам падумаць, як жыць далей.

Усе хуценька паказалі на тварах глыбокае задуменне: як жыць далей?

— Як жыць далей?— паўтарыў Галоўны, і ўсе ўсвядомілі, якую гістарычную фразу яны пачулі.

— І я вам скажу,— прамовіў Галоўны. І ўсе з палёгкаю ўздыхнулі, што трэба казаць не ім.

— Мы павінны памяняць колер мятлушак,— сказаў Галоўны.

— Геніяльна!— не вытрымаў адзін з супрацоўнікаў і пачаў пляскаць ў ладкі. За ім — усе астатнія.

Галоўны сціпла апусціў вочы.

— Але памяняць колер мятлушак — гэта не ўсё. Трэба ведаць, на які колер памяняць.

— На чырвоны,— не падумаўшы, рэкнуў нехта.

— Не будзем паўтараць памылкі гісторыі,— пагрозліва сказаў Галоўны і запомніў.

— На чорны,— рэкнуў нехта яшчэ больш безразважна.

— Адкуль гэтыя рэлігійныя ўхілы?— яшчэ больш пагрозліва сказаў Галоўны і запомніў.

— Белы,—рэкнуў нехта, двакроць не падумаўшы.

— Настальгія па мінулым?— двакроць пагрозлівей сказаў Галоўны і запомніў.

Іншых колераў ніхто не ведаў. І тады супрацоўніца № 3 сказала:

— А давайце пакінем шэры. Традыцыі нашай арганізацыі трэба паважаць.

— Гэта голас мінулага,— сказала супрацоўніца № 1. — Давядзецца шэры колер згусціць, развесці вадой, зрабіць больш насычаным. І толькі тады мы пойдзем упоравень з часам.

— Арыгінальна!— выгукнуў нехта з месца.

Галоўны паглядзеў на супрацоўніцу № 1 закаханымі вачыма. І падумаў, што без яе яму было б цяжка. А яшчэ неадкладна прыкінуў, што ейнага мужа няблага дзянёчкі на два-тры сплавіць у камандзіроўку.

Сход аднадушна прагаласаваў за прапанову супрацоўніцы № 1. І аднадушна меркаваў, што не блага было б ужо і пачаставацца гарбаткаю.

*Заканчэнне будзе*

Анатоль КАЗЛОЎ

# ЗАЦВІТАННЕ ДЗІВАСІЛУ

*Апавяданне*



Вышчарблены нож у потнай Сяргеевай руцэ раздзірае цемрадзь у сенцах. Пры кожным кроку тужліва рыпяць масніцы. Сцішана дрэмле пад пахай чорная кура. Саладкаваты пах цвілі з клеці казыча нос. Уваччу блытаюцца зялёныя і ружовыя плямы. За глухой сцяной гоцнуў, шаргануўшы ў бульбоўніку, яблык. Ноч. Дзесь на вуліцы, з боку Цёмнага Лесу, самотна ўзвыў сабака. Сяргей праходзіць па сенцах. «Толькі б утрымацца на нагах, не зваліцца ніцма. А калі хіснуся і падломяцца калені... Такога не будзе... Вось і клямка». Дзверы расчынены. Поўнач.

Сяргей на хвіліну прыхіліўся плячом да вушака. «Марына, любая. Я не хацеў, не душыў цябе. Ты ж ведаеш. Навошта ўсё? О, дзева Марыя, маці прачыстая, злітуйся, дай сілы. Пакрый мяне з зямлі да неба, з неба да зямлі сваёй белай святой пакровай...» Ад шапацення Сяргеевых вуснаў страпянулася кура, сакатнула, дзерануўшы кіпцюрамі світку.

Ісці і не стаяць! Ісці, час бяжыць. Расчыніць усе дзверы, якія ёсць. У прыбіральні таксама. Вароты на вуліцу — напята. Цяпер абысці тры разы вакол хлеўчукоў і дрывотні, вакол хаты. Даць напіцца куры са студні. Каб толькі ўтрымацца на нагах. Трысцен абысці, а на шулe паставіць крыж. Тупое лязо... Цяпер прыбіральня. Крапіва замінае, раннем выкасіць.

«Глядзі, хлопец,— шаптаў Міходзька, тыцкаючы пальцам у напалову поўную пляшку,— во ён, твой мучыцель. Бачыш камлюкаватую здань? Ён на цябе насланы. Ён тваімі рукамі жонку тваю душыць. Сабе не падуладны ты. Навошта Каську Петракову зняважыў? Не думаў браць — нашто чапаў? Яна твой след занесла да ведзьмака. Я бачу і ведаю, да якога. Кроў, Сяргейка, атручана зеллем. І не кроў у цябе, а шчолак. Пойдзеш за мною. Святы лес нам скажа, што рабіць. Спадар дуб раду дасць».

І ішлі яны сцежкамі, балацявінамі і бальшаком. Начавалі пад гарэшнікам. З кожнага вялікага дрэва Міходзька адразаў галінку. І дзень ішлі, і два. Сяргей жа нёс тое голле. «Лес, толькі лес уратуе. Волат-дуб падкажа збавенне. Чакай, глядзі...» Міходзька з усяе сілы штурхануў Сяргея ў плечы. Хлопец распрастаўся, рассыпаўшы галінкі, шчаку ўспарола зламаная папараціна. Кроў пырснула, апякаючы вусны. Сяргей хацеў быў ускапіцца, ды Міходзька прыціснуў яго сабою. Кранаючы вуснамі вуха, шыпеў: «Ляжы і слухай зямлю. Палі карэнне крывёю, тады лес братам стане. Не шкадуй крыві, паі зямлю. Чуеш голас?»

«А ўчарней жа ты, як учарнела я. Загубіў мяне, атруціў красу. І каму ж цяпер я патрэбная?.. А ты, татачка, мая мацечка, хто заступіцца за маю красу? Ды не братачка, не сястрыначка слёз не вьцера мне, не ўлагодзіць. Крумкачы адны, верны дружачкі, а жаўты пяскі мне пасцелечка. Толькі ж як накласць на сябе руку? Як сысці ў зямлю, не адпомсціўшы? Пайду ў велькі свет я бяду шукаць на тваю душу, цела ядрана. Ой, не бачыць вам шчасця краснага і не цешыцца, як галубчыкам. Панясу твой след я ды ў чорны свет. Каб дзе ступіш ты, не было вады, а куды зірнеш, каб не бачыў меж. Заступіся ты, сіла згубная...»

— Слухай, Сяргейка,— шыпеў Міходзька,— то галосіць Каська ў дзень тваёго вяселля. Лес адкрывае таямніцу.

— Дыхаць, мне няма чым дыхаць. Я паміраю. Міходзька, дзядзька, ратуй!— раскінутымі рукамі Сяргей гарнуў да сябе зямлю, аслізлае лісце, колкую гліцу. Варажбіт усхапіўся, штосілы пацягнуў Сяргея з уляжалага месца, выхапіў з кішэні паўпустую пляшку, булькнуў на далонь вады, пырснуў у хлопцаў твар.

— Не дурэй, Сяргейка. Трымайся яшчэ крупінку, і мы разаб'ем насланнё. Гэта душыць цябе Ён, але збавенне побач.

— Лес родны, нязводны, згарніся сцяной, а сіла няўцямна разбіся пры ёй,— Міходзька паўколцам разліў ваду ля Сяргея.

— Ці лягчэй табе, хлопча?— прыпаў да Сяргея варажбіт. — Уставай, хадзем.

Сяргей ішоў хістаючыся. Міходзька нёс абярэмак галінак. Так перайшлі яны ручай, барозавую грыву і апынуліся на паляне сярод ельніку. Магутны дуб заспакоена драмаў. Ніводзін ліст не турбаваўся ветрам.

— Прыйшлі, Сяргейка,— Міходзька кінуў каля дуба абярэмак, зняў з пляча кайстру.

Шарэла. Неба выпусціла першыя зоркі. Гняла тужлівая цішыня. Густа пахла верасам і хвояй.

Міходзька, гойдаючы галавой, як бусел, наблізіўся да дуба, правёў далонямі па ім і прыпаў шчакою. Вусы ягоныя зліліся з сівым імхом.

— Пазнаў, пазнаў, мой волат, мой брат і бацька. Я тут. Я да цябе з бядой і просьбай. Ці чуеш?

Дуб зашапацеў лісцём, і некалькі недаспелых жалудоў важкімі кроплямі стукнуліся вобзем.

— Распранайся,— тузануў Міходзька Сяргея за плячо. — Крыху ачомаўся? Во і добра. Кажу, скідай адзежыны.

Сяргей выпусціў скрозь пальцы буйнога светляка і распрануўся.

— На, апрані,— Міходзька выцягнуў з кайстры зрэбную кашулю,— і вунь, з краю, ад алешніку, каціся па расе да дуба.

Сяргей перакочваўся па пажарніку і верасе, купках святаянніку і багульніку, абмываўся расою. Вільгаць халадзіла ягонае цела.

З апалага лісця дуба, з прынесеных галін і мху Міходзька збіраў вогнішча. Падыспад падторкнуў начасаныя з Сяргеевай галавы валасы, заблытаныя ў хлебны мякіш.

— Волат-дуб, карміцель і суддзя, не грэбуй паднясеннем, — варажбіт падклаў пад дрэва тры маленькія, з прыгаршчы, боханы.— Ачысці кроў сына, згані насланнё. Дай шчасце бачыць, жыць і смяяцца. Нябёсы і зямля мыюць яго расою. А ты, бацька наш, здымі закляцце чорнае. Прашу за сына зямлі тваёй, за жняца і касца, за маладую сілу, за прадаўжальніка роду дзяцей тваіх.

Дуб сцішана слухаў. Міходзька падвёў да дрэва змоклага Сяргея. Вочы ў хлопца ўпалі, на твары застылі кроплі, чорны пісяг на шчацэ расплыўся. Стаў Сяргей тварам да дуба. За спінаю ягонай успыхнула бяроста. Агонь кінуўся ў скокі па галінах, зачапіў лісце. Белы дым агарнуў хлопца, атуліў з ног да галавы. Млявасць паланіла. Скалелае цела торгалі, працілалі голкі. І ўчуў Сяргей голас, старэчы і надтрэснуты:

— Пройдзе тыдніца гэтая і яшчэ адзін дзень, да нараджэння маладзіка, у ноч зацвітання дзівасілу, ты з нажом і з чорнай курыцай стрэнешся з ім. Расчыні ўсе дзверы, усе закуткі, усе зашчэпы. Будан кожны абыдзі тры разы, пасля трэцяга — лязом крыж адзначай на ўваходзе. Нечысць скочыць аднекуль над ногі. Глядзі, не зваліся, утрымайся на нагах. Калі ж толькі кранешся зямлі рукамі ці ўкленчыш,— значыць, ты слабы ў гэтым свеце. І будзе твой век карацейшы за хвост куніцы.

Дым гусцей і гусцей ахутваў Сяргея. Невядомы голас паланіў:

— Мне шкада ненароджаных Марынай дзяцей. Да прызначанага дня не кладзіся з ёю. Калі ж за сваім норавам пойдзеш, дык тая ноч будзе апошняю для Марыны. Насланнё пакуль жыве ў табе. І жонка не ўцячэ ўжо. Твае пальцы сашчэпяцца на ейным горле. Памятай гэта. Тыдніца і адзін дзень. І ноч зацвітання дзівасілу. Чорная курыца, нож, расчыненыя дзверы і вароты. Нячысцік і ты. Усё, ідзі.

Міходзька сцягнуў з хлопца кашулю, кінуў яе ў вогнішча. Агонь захліпнуўся.

Дамоў Сяргея варажбіт вёў іншай дарогай: рачною плынню, па ручаях і крыніцах, ірвах, кустах, па малінніку і ажынах.

І настаў той дзень. Прыйшла тая ноч.

Я або ён. Чым болей Сяргей паўтараў гэтыя словы, тым мацнейшая сіла прарастала ў ім. Вольна жыць і кахаць! Каб Марына не баялася маіх рук. Адчуць смак хлеба і квасу...

Сяргей абышоў хляўчук. На прыступцы пакінуў нажом след. Страпянулася кура. Сяргей пайшоў на трэці круг вакол хаты. Ногі пачыналі дранцвець. Але ішоў, ішоў наперад.

Усе спяць сном праведнікаў. А ён блукае, шукае ачышчэння. Толькі б утрымацца.

Абойдзена хата. Цяпер паставіць меціну на ўваходзе. Мацней націснуць лязом. Рука дрыжыць. Эх, ты! Ці ж гожа так?

Сяргей не паспеў накрэсліць рыску, як зарыпелі адразу ўсе масніцы ў сенцах. Быццам па іх з маху катанулі вялізную бочку. У тое ж імгненне нешта суцэльна кудлатае бухнула Сяргею ў ногі. З такім напорам і моцай, што, здалося, ногі рассыпаліся бітым шклом. З-пад рукі ў Сяргея выпырхнула чорная кура, з шалёным сакатаннем паляцела пад плот. Дзяцюк ухапіўся за вушак. На вуліцы адзін за адным узвылі сабакі. Сяргей нібы прымерз да ганка.

— А дзе ж?.. Выстаяў. Я выстаяў! Міходзька, дубволат, Марына, людцы! Я выстаяў!

Сяргей нема крычаў. Голас радзіраў грудзі. Глыбокі выдых. Хлопец прысеў на парог. Кінуў у ноч нож. Лязо аб нешта цвікнула. Ні думак, ні слоў.

Рыпнулі дзверы ў хату. Сяргей прыслухаўся. Няўжо не ўсё?

— Сяргей,— гукала яго жонка.

— Хадзі сюды,— прамовіў Сяргей.— Будзем жыць, чуеш, Марына? Нічога страшнага. Зараз зацвіце дзівасіл. Пайду. Дзіўная сіла. Ты бачыла хоць раз тыя кветкі? Два кусты пад Петраковай хатай... Не бойся маіх рук. Усё мінула.

— Здаецца, адчуваю на горле твае пальцы.

— То быў не я, павер. Міходзька калі-небудзь табе скажа.

— Навошта? Я і так ведаю.

— Мо чула ты і пра Каську?

— Казалі.

Сяргей апусціў рукі, угнуў голаў.

— Ідзі, Марына. Я пабуду, адпачну. Мне трэба так.

— Дык мо разам?

— Не, я адзін. Не крыўдуй. Яшчэ не ўсё завершана. Ты ж адчуваеш. Трэба давесці да рысы. Ідзі кладзіся. Гэта мая ноч. Астатнія будуць нашыя.

Бязмежжа і глыбіня ночы.

І вось хата Каські Петраковай успыхнула свечкай. Палкім слупам пратыкнула цемрадзь. Усё ажыло, загаманіла, закрычала. Ноч гіне, ноч забітая. У водбліскаў агню каля хаты Каські курчацца лісты дзівасілу. Чарнее, не пабачыўшы сонца, кволая квецень.

